*Віталь Воранаў*

# Дудары Глыбоцкага краю

*Трэцяе выданне*



Глыбокае
2019

**Воранаў В. – Дудары Глыбоцкага краю.– Глыбокае – 2019 г.–98 с.**




*Чытач трымае ў руках дапоўненае і дапрацаванае перавыданне кнігі Дударская Глыбоччына, выдадзенай у 2017 годзе. Выданне апавядае пра дударскія традыцыі Глыбоччыны, яе славутых дудароў і дударскія матывы ў літаратурнай творчасці пісьменнікаў рэгіёну. Аўтар таксама згадвае друкаваныя і іншыя крыніцы звязаныя з дударскай спадчынай у рэгіёне і прадстаўляе розныя перспектывы развіцця дударскага брэнду ў Глыбокім і ў Глыбоцкім краі. Публікацыя выходзіць у сувязі з правядзеннем на Глыбоччыне трэцяга Міжнароднага фэсту дударскіх рэгіёнаў.*

Вёрстка: **Зміцер Лупач, Леанід Юрык**
Дызайн вокладкі: **Алена Сілівонік**
На вокладцы выкарыстаная карціна **Эдуарда Мацюшонка** „Абуджэнне” (Дударам Глыбокага краю)
Рэдагаванне і карэктура: **Марына Чарнякевіч**

Тыраж 99 паасобнікаў



Чалавека, абазнанага ў нашай культуры, не трэба пераконваць, што дуда ёсць найбольш беларускім інструментам усіх часоў, за выключэннем перыяду, калі яна была штучна выцесненая з культурнага поля. Калі ж капнуць глыбей, то пачынаеш разумець, што дуда – гэта галоўная музычная прылада паўночнай Беларусі, геаграфічна-этнаграфічнага рэгіёна, вядомага пад назвай Паазер'е. З перспектывы Глыбоцкага краю становіцца відавочным, што дуда – найбольш праслаўлены ў песнях і міфалагізаваны ў вершах, легендах і іншых мастацкіх творах інструмент Глыбоччыны, які пасля пэўнай гістарычнай паўзы зноў вяртаецца на малую радзіму.

У Яна Баршчэўскага ў кнізе "Шляхціц Завальня" ёсць апавяданне пра чалавека, якога з дапамогай зачараванай гарэлкі дудар-чараўнік Арцём перамяняе ў ваўкалака, каб такім чынам ён мог зразумець пэўныя праўды жыцця, а менавіта розніцу паміж дабром і злом. Так і зніклая дуда амаль праз сто гадоў вяртаецца, каб мы маглі не толькі ўсвядоміць яе значнасць для нашай гісторыі і культурнай спадчыны, але і ўбачыць яе ў нашмат шырэйшым кантэксце. Нездарма дудзе было прысвечана столькі ўвагі з боку нашых рэгіянальных мастакоў, творцаў і простых людзей.

Ад Гіргеля Міхаіла Пятровіча, 1917 г. н., у вёсцы Вялец Глыбоцкага раёна этнографамі Т. Валодзінай і У. Лобачам у 2007 г. была запісаная амаль тая самая гісторыя, што сустракаецца ў Яна Баршчэўскага: *"У ваколіцах Дзісны, у в. Ліпна жыў на пач. XX ст. дудар – «троху калека, старык», які «знаў». Яго абавязкова запрашалі на вясельлі, іначай шалелі коні ды біліся людзі, а маладыя былі «чужымі» ў першую ноч. Мог зрабіць так, што гарэлка ў чарцы пачынала кіпець. Аднаго разу, калі ён адклаў дуду і пайшоў да стала выпіць, дзеўка яе ўзяла і паспрабавала падзьмуць, пасьля чаго ў яе разьдзьмула твар. Паміраў цяжка, то падымалі столь"*. Дудар быў тым, хто "знае", знахарам, чараўнікам або ваўкалакам. У "Полацкім этнаграфічным зборніку" У. Лобача знаходзім наступнае: *"У в. Чарнавокі (Верхнядзвінскі р-н) расказваюць пра дудара Міколу Гігеля,*

*якія граў толькі на Раство, Новы год і Хрышчэнне і «памагаў усім». Дудар, а знахарам яго не называлі, «памагае», бо, апроч іншага, падобна да «прыродных» знахароў, атрымлівае свой дар ад Бога («музыка ўжо такі родзіцца, бо не кожны можа навучыцца йграць, а музыка сам навучыцца»)"*. Адна з запісаных Лобачам замоў ад сурокаў гучыць так: „Соль-саліца, божая памажніца, усім людцам памагаеш, памажы (імя), а я – бабка-дударыха, дай, Гасподзь, на помач, а мой сьвяты дух". Граннем на дудзе дудар мог выклікаць дождж, вецер або сонца. Беларускі этнограф XIX ст. Павал Шпілеўскі ў публікацыі "Даследаванне аб ваўкалаках" піша: *"Народ лічыць, што дудары складаюць асобную касту вышэйшых істот, якія маюць сувязь з чартаўнёй і могуць ператварыць чалавека ў пярэваратня... Дудары – народ цёрты, усюды хаджалы: дудар шмат чуе, рыскае па белым свеце, шмат сам прыдумае; умее спрытна распавесці аб бачаным... Сварыся з гаспадаром, толькі не бярыся з дударом"*. У апавяданнях Яна Баршчэўскага тыя, хто ўваходзіць у канфлікт з дударом, звычайна дрэнна заканчваюць.

У камедыі Каятана Марашэўскага, драматурга XVIII ст., прафесара рыторыкі і паэтыкі Забельскага дамініканскага калегіума (в. Валынцы, Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобл.), сустракаецца вось такі забаўны дыялог законніка, які спалохаўся дуды, з беларускім селянінам:

**Селянін.** Чаго, ваша, баішся, ці не знаеш, што гэта ёсць?

**Пакутнік.** Не ведаю.

**Селянін.** Гэта не гадзіна, гэта дуда руская.

**Пакутнік.** Як гэта руская дуда?

**Селянін.** Вот какая, што можна на ёй граць.

**Пакутнік.** Што ты пляцеш?

**Селянін.** Я не пляту, але праўду кажу. Калі хочаш, так і зараз зайграю.

**Пакутнік.** Не веру гэтаму, каб ты яе і ў рукі ўзяў.

**Селянін.** Вот абачыш. *(Бярэ і грае.)* А што, альбо не прыгожа? А ты, дурак, баяўся. Паскачы цяпер, бо яшчэ пайграю. *(Грае.)*

**Пакутнік.** Цяпер ужо веру, але здзіўляюся, хто прыдумаў гэты інструмент і хто на ім можа граць, яго ж страшна ў рукі ўзяць.

**Селянін.** Як твой дурны ум, так баішся. Не мусіў ты быць з нашымі брацьмі ў карчме. А мы, калі збяромся да карчмы, мала яе не развалім ад гуку – толька дуд нашых!

**Пакутнік.** Але навошта патрэбен гэты мяшок?

**Селянін.** А які ж ты дурак! Без яго і граць няможна было б... А гдзе б дух дзяржаўся?

**Пакутнік.** Бачу, ваша, што вы майстра граць на гэтым інструменце. Сыграй жа нам на ім! Можа, васпану трэба табурэтка?

**Селянін.** Магу я зайграць і стоячы.

**Пакутнік.** А як жа, вяльможны пан, будзеш перабіраць? Трэба было б яе пакласці на стол, а потым пальцамі, дзе трэба, затыкаць.

**Селянін.** Не дзіва было б, каб які блазен гаварыў так, як ты, вашэць. Няўжо ж, вашэць, таго не пазнаў, што так трэба іграць. *(Грае.)* Вот гэтак губой трэба дуць, а пальцамі перабіраць. Відзіш, як трэба іграць.

З тэксту добра бачна, што дуда мае рысы папулярнага, характэрнага для беларуса інструмента, на якім граюць у карчме. Дарэчы, падобная гісторыя была пазней зафіксаваная на Браслаўшчыне, недалёка ад кляштара ў Забелах.

Дуда ў нашым рэгіёне згадваецца не толькі ў літаратурных і этнаграфічных запісах, але і ў судовых кнігах. Напрыклад, у актавай кнізе полацкага гродскага суда (1668–1669) пісалася: *"...пан Бутько, выскочивши с пекарни свое зъ секирою, учинивши окрик, пречоного Алексанъдра Лешонъка обухом в руку левою понижей локтя подвакроть шкодливее ударыл... а другого Ивана Совостеенка, Дудара, тою жъ секирою в хрибет оберучъ ударилъ, и кгды тотъ пречоный Иванъ от него уходил, а пан Бутько оного догонить не мог, тою жъ секирою за ним кинул, и кгды бы долетела, снать бы его и на смерть забил..."*. Пра дуды ўзгадваў нават Сімяон Полацкі (1629–1680) у сваёй камедыі "Пра Навухаданосара цара...", у якой героі "пачнуць трубіці і піскаці".

Грунтоўнай крыніцай па вывучэнні дуды ў рэгіёне з'яўляецца кніга «Дудар і музыка» Мікалая Нікіфароўскага, напісаная ў 1892 г. у Віцебску.





**Мікалай Нікіфароўскі (1855–1922)**

У першай частцы кнігі аўтар апісвае вялікае значэнне дуды і дудара для традыцыйнага, вясковага ладу на Віцебшчыне. Даследчык піша: *"Но «дударъ» и его инструментъ, кажется, не умрутъ и въ тѣхъ многочисленныхъ «звискахъ» (именахъ, прозвищахъ), кои они подарили деревнямъ и семействамъ. Вѣдь не одна волость имѣетъ «Дударёнковъ», или «Дударово»; эти фамиліи и названія деревень такъ часты по Витебской Бѣлоруссіи"*. Кніга выступае неад'емнай крыніцай інфармацыі пра дуду на Паазер'і, але ў першую чаргу дае нам панарамную карціну грамадскага значэння дудара і яго адносін з атачэннем, у тым ліку і з іншымі дударамі:

Какъ выше упомянуто, „дударъ" не долюбливаетъ „дудара," равно какъ и скрипачъ, который, по крайней мѣрѣ въ первое время стычки, уступаетъ „дудару" и невольно обращается въ его слушателя. Такъ бывало въ былое время, когда „дударъ" искалъ „кирмаша," праздника и игрища; теперь, наоборотъ, „дудара" приходится искать: точно выходецъ съ того свѣта, онъ самъ уже таится и отъ „музыки," и отъ чужихъ людей. Да гдѣ его сыс-

**Фрагмент кнігі "Дударъ и музыка" Мікалая Нікіфароўскага**

Дудар і ягоны інструмент на нашай зямлі сягаюць каранямі ў вельмі даўнія часы. Зміцер Сасноўскі сцвярджае, што на падставе параўнання першабытных жалеек (эпохі неаліту і жалезнага веку), знойдзеных на Віцебшчыне, з гукарадам „лепельскай" дуды 1877 г., імаверна, што традыцыя дуд на Паазер'і мае 2,5-тысячагадовую гісторыю. Першая па часе знойдзеная І. Назінай згадка пра дуду ў нашай літаратуры паходзіць з "Аповесці пра трох каралёў-валхвоў" і датуецца XV ст. *"З дудами и с гоусьльми оуси съ жонами и с детми от меншого аж до большого не едъше ани пивше оу ночи до преве одным оуси посполоу приходят*



**Фрагмент рысункаў і надпісаў Спаса-Праабражэнскай царквы Полацка, XII–XIII стст.**



**Ілюстрацыя з Радзівілаўскага летапіса, канец XV ст.**

*велми покорне... але вежды кдень коли оу местех хрестіанских албо кацерьских живоут. оусегда оу неделю пораненкоу з дудами и с гусльми”.* У яшчэ адным скарбе беларускай літаратуры, сярэдневяковым празаічным перакладзе легенды «Аповесць пра Трышчана», экзатычныя для беларускага вуха замежныя інструменты замяняюцца перакладчыкам на відавочна ўжо ў той час блізкія, зразумелыя і пашыраныя ў побыце трубы, дуды, лютні, арфы і арганы.

У манаграфіі Іны Калечыц “Эпіграфіка Беларусі X–XIV стст.”, прысвечанай вывучэнню эпіграфічных помнікаў, між іншым алтарнага графіці Спаса-Праабражэнскай царквы Полацка, чытаем наступнае: *„Шэраг графіці, якія ўмоўна можна назваць каляндарнымі, былі нанесены на паўднёвую сцяну ахвярніка побач з выявай чалавечка з дудой у роце. Гэтая выява можа адносіцца непасрэдна да надпісаў”.* З надпісаў побач згадваюцца *“І тых ідалаў епіскап не тапіў у”* і *“купальны, на (Івана) тыдзень”*. Дудар і даследчык Зміцер Скварчэўскі аспрэчвае тое, што на выяве прадстаўлены менавіта дудар: *„Прамалёўка і фотаздымак графіці не адпавядае прыведзенай інтэрпрэтацыі. На малюнку ў чалавечка няма нічога, што нават блізка б нагадвала дуду (язычковы інструмент, асаблівасць якога — рэзервуар для паветра). Магчыма, маецца на ўвазе інструмент накшталт жалейкі, аднак да інструментаў такога тыпу няслушна ўжываць назву «дуда»”*

Нельга не пагадзіцца з тым, што выява шматзначная. Але, прасачыўшы, як праз стагоддзі змяняўся вобраз беларускай дуды ў выяўленчым мастацтве на нашых землях, і беручы пад увагу, што “сукупнасць дадзеных графіці можна датаваць мяжой XII–XIII стст.”, інтэрпрэтацыя Іны Калечыц не падаецца выключна рамантычнай.

“Прымітыўнасць” выканання можа вынікаць не толькі са спецыфікі часу, але і з абмежаванасці жанру. Адсутнасць меха на рысунку не замінае, паколькі на тэрыторыі Беларусі вядомыя прыклады не толькі безбурдонных, або дуд з малым корпусам, а нават дуд цалкам бяскорпусных, дзе ролю меха, так бы мовіць, выконваюць лёгкія дудара. М. Нікіфароўскі піша: *“Играющий берет в рот одновременно гук и перебор и играет на последнем, как на жулейке или посвирелке, а «гук тольки басуиць»”*.

Тут важная не столькі мастацкая дакладнасць адлюстравання канструкцыі інструмента на выяве з полацкай царквы, колькі сам сімвалізм вобраза, яго прывязка да традыцыйнага святкавання Купалля. Дарэчы, іншае значэнне слова “дуда” – гэта яшчэ і пастуховая “труба” (слоўнік Яна Станкевіча). У летапіснай аповесці Малой Русі чытаем: *“Литвяки медведей ученых по городам водят и на трубах при этом играют”*. У дакументах XVII ст. (указ Віленскага сойма ад 1656 г.) згадваецца: *“Люди людные, которые службы не мають, и теж медведьники, дудьники, скрипъки, трубачи и иншие в местех будучие музыки, и хто колвекъ не маючи певной службы...”*. Словы “дуда” і “дудка” ў слоўніку В. Ластоўскага азначаюць дуду, але ў іншых тэкстах сустракаюцца і ў значэнні жалейкі або іншых інструментаў. Асабліва слова “дудка” неадназначнае ў літаратурнай мове (*“Эх, скручу я дудку! Такое зайграю, Што ўсім будзе чутка Ад краю да краю!”* Ф. Багушэвіч).

Або:

Што табе, дудар, прыспела
Смела песні завадзіць?
Ці то лёгкае, брат, дзела,
Нашу браццю прасвяціць?
Крыкнуць на цябе паноўя,
Што ты шкоднік і місцюк, —
Страціш голас і здароўе
І дуду упусціш з рук.
Ты мяне аднак не слухай,
Мала што я завяду! —
Цэлай грудзяй дуй і дмухай
У жалейку і дуду...

***Ялегі Пранціш Вуль.*** *Радкі з верша «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка». Арцём – гэта паэт Вярыга-Дарэўскі, адзін з псеўданімаў якога быў Białoruska Duda (Беларуская Дуда).*

Дуды і іх канструкцыі істотна змяняліся на працягу стагоддзяў, а рытуальнае значэнне дудара-песняра-вешчуна-стваральніка ў беларускай культуры заставалася нязменным, пра што сведчыць увага да гэтага вобраза шмат якіх творцаў і твораў беларускай літаратуры. Вобраз са Спаса-Праабражэнскай царквы перагукаецца з праславянскім песняром-баянам са «Слова аб палку Ігаравым», з вешчуном полацкім з «Полацкай шляхты» і казачнікам-баем на адным са славутых дываноў Язэпа Драздовіча.

Дарэчы, цяжка паверыць, што ў творчасці Я. Драздовіча, асабліва ў этнаграфічных малюнках з Дзісеншчыны, не захавалася ніводнага вобраза дуды... Ці мы іх пакуль не адшукалі? Як бы там ні было, але яго паслядоўнік і наш сучаснік, мастак Эдуард Мацюшонак з вёскі Мнюта, часткова выправіў гэты



**Дыван Язэпа Драздовіча "Красналюдка – казачнік-бай"**

недахоп сваёй карцінай „Абуджэнне (Дударам Глыбоцкага краю)". У ёй надта тонка перададзена гістарычна-культурнае значэнне дудара для нашай спадчыны ў цэлым (карціна змешчана на вокладцы гэтай кнігі).

На прэзентацыі карціны у межах Трэцяга фэсту „Дударскі рэй" мастак сказаў:

„Адчуў, што гэта тэма жыве ў маім духоўным свеце і патрабуе сваёй матэрыялізацыі... Слухаючы музыку дудароў усвядоміў, што яна адгукаецца ў маёй «генетычнай памяці» і дазваляе мне больш глыбока і чуйна ўспрымаць гісторыю маёй Бацькаўшчыны... Усё гэта лягло ў падмурак кампазіцыі карціны. Постаць дудара, якая займае галоўную частку прасторы карціны, «нараджаецца» і матэрыялізуецца ўвабраўшы ў сябе гістарычныя асаблівасці развіцця нашага краю... Арнамент, які запаўняе усю прастору карціны і нават накладваецца на раму дапамагае адчуць гук і тую энергію якая ідзе ад гэтага спалучэння.... Гук дуды абуджае не толькі фізічна, але і духоўна, прымушаючы адчуваць сябе датычным да гісторыі Бацькаўшчыны. Постаць Дудара зборная, гэта сімвал, вобраз чалавека, які неабыякава акумулюе ў сабе глыбокія, даўнія веды і з дапамогай гуку абуджае мяне больш грунтоўна і цікава ўспрымаць жыццё..."

А цяпер вернемся да полацкай выявы.

Даследчыца І. Калечыц піша: *“Купальны тыдзень працягваўся ад дня летняга сонцастаяння да поўні або наадварот. Нам уяўляецца, што надпіс і малюнак складаюць адзінае цэлае. Частка надпісу накладваецца на чалавечка, галава якога павернута налева, з рота тырчыць дуда, рукі разведзены ў бакі: левая зацёртая, на правай – пяць пальцаў. Злева зверху ад чалавечка знаходзяцца два колы. Левае перакрэслена крыж-накрыж перпендыкулярна, гэта салярны знак. Правае пустое ўнутры”*. Безумоўна, на сімвалічным узроўні мы можам лічыць гэты рысунак першай, хоць і аддаленай, хай нават рамантычнай, выявай дудара на тэрыторыі Падзвіння.

Старых выяваў беларускіх дуд і дудароў не так і шмат, а пра захаванне арыгінальных выяваў і гаварыць не прыходзіцца. Тым большую мае вартасць здабытак, які трапіў у фонд дударскіх выданняў раённай бібліятэкі горада Глыбокае. Дзякуючы ахвяраванням дабрадзеяў*, аўтару гэтай кнігі ўдалося выкупіць на аўкцыёне выяву, якая прадавалася французкай бібліятэкай.

Аказалася, што прадаецца знакамітая гравюра Абрахама дэ Бруйна, выдадзеная ў Антверпене ў 1581 годзе. На ёй, сярод розных еўрапейскіх вайскоўцаў таго часу, выяўленыя барабаншчык і дудар войска ВКЛ, што па аналогіі з Шатландыяй дае падставу меркаваць пра традыцыю выкарыстання дуды таксама ў нашай вайсковай практыцы. Пра гэтую гравюру даследчык і дудар Зміцер Сасноўскі піша ў сваёй кнізе «Музычная культура рыцарскага саслоўя Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага»:

У войсках ВКЛ і Кароны Польскай выкарыстоўваўся і іншы від аркестра — бубен і дуда з малым корпусам (неэластычным рэзервуарам). У кнізе Абрахама дэ Бруйна (de Bruyn), выдадзенай у Антверпене ў 1581 г., бачым гравюру «Музыкі-русіны», дзе паказаны барабаншчык і дудар войска Вялікага Княства — За поясам у дудара зменная жалейка, на руцэ вісіць горн.

У кнізе «Гісторыя беларускіх музычных уплываў» таго ж аўтара чытаем больш падрабязнае апісанне:

Далёка за межамі Вялікага Княства Літоўскага здабылі вядомасць нашыя вайсковыя музыкі. У 1515 г. пад Прэсбургам (сучасная Браціслава) і ў Вене адбыўся з’езд каралеўскіх дынастый Ягелонаў і Габсбургаў — сустрэча чэшскага, польскага і венгерскага каралёў. Пасольства ВКЛ на гэтай сустрэчы ўзначальваў ваявода віленскі і канцлер Вялікага Княства князь Мікалай Радзівіл (сын Мікалая). Ён разам з магнатам Станіславам Гаштольдам са сваімі прыдворнымі і прыватным войскам прывёз з Літвы вайсковы аркестр, які меў фантастычную для таго часу колькасць удзельнікаў — 100 музыкаў. Аркестр граў пры каралях і вельмі здзівіў немцаў і італьянцаў [86]. Выступ 100-асабовай «літоўскай» капэлы сведчыць пра высокую культуру параднай вайсковай музыкі Княства Літоўскага. Магчыма, гэта

*На выкуп выявы ахвяравалі Марат Клакоцкі, Хрыстафор Жаляпаў, Ганна Шарко.

паўплывала на тое, што вайсковыя музыкі ВКЛ сталі вядомыя ў Заходняй Еўропе і трапілі ў заходнееўрапейскія выданні. Напрыклад, у кнізе Абрахама дэ Бруйна, выдадзенай у Антверпене ў 1581 г., бачым гравюру «Музыкі-русіны», дзе паказаны барабаншчык і дудар войска Вялікага Княства.”

Падчас прэс-канферэнцыі ў межах Трэцяга міжнароднага фэсту дударскіх рэгіёнаў Дударскі Рэй 2019 гравюра была ўрачыста ўручаная дырэктарцы музея і перададзеная ў фонд адмысловай дударскай калекцыі заснаванай Глыбоцкай раённай бібліятэкай.




**Гравюра Абрахама дэ Бруйна, Антверпен, 1581 г.**

# Беларусь, Паазер’е, Полаччына, Глыбоцкі край

Даўней дуда была настолькі пашыраная, што ў слоўніку Яна Станкевіча знаходзім значэнне “дударнае сяло” – “деревня, в которой находятся дудары”. Распаўсюджанасць названага інструмента пацвярджаюць таксама шматлікія прыказкі і ўстойлівыя выразы: Скакаць пад (нечыю) дуду; Чорт дуду надзьмець, калі дух ідзець; Бо бяз дудкі, бяз дуды – ходзяць ногі ня туды; Грай а грай, дуданька, зь сёл да сёл, каб наш Міколка быў вясёл; Купіў дуду на сваю бяду; Як дуду настроіў, так грае; Мядзведзь здох – складай дуды у мех; Ні богу свечка, ні чорту дуда; Калі араць, дык у дуду не іграць; Дудар дудару дарма іграець; Трэба дуды ў мех збіраць; Дуды ў мех і квіта; І дуды вобземлю; Дуда ты Мамонава! Бадай, ні ў адной мове няма столькі прыказак пра гэты інструмент, як у нашай. Сведчыць гэта можа толькі пра неверагодную папулярнасць дуды ў народзе.

Апрача моўных і літаратурных крыніц, у нас захаваліся таксама іншыя звесткі. На іх падставе Яўген Барышнікаў склаў некалькі мапаў, сканцэнтраваўшыся на гістарычных матэрыялах (згадках пра дуду да XIX ст.), звестках “этнаграфічнага” перыяду (ад пачатку XIX і да сярэдзіны XX ст.), сучасных запісах, а таксама на паходжанні музейных дуд і фотавыявах гэтых музычных інструментаў. Дадаткова аўтар паказвае месцы рэалізацыі тапонімаў з коранем дуд* і прыводзіць звесткі з прац іншых даследчыкаў.



На выніковай мапе добра бачныя асноўныя месцы канцэнтрацыі, дзе “А” – гэта Дзісеншчына, “Б” – ваколіцы Празарок і возера Шо, “В” – Барысаўшчына, “Г” – Гарадоччына, “Д” – Свянцянска-Ігналінскі рэгіён. Няцяжка заўважыць, што месцы выступлення “беларускай дуды” (хоць некаторыя гэтую назву аспрэчваюць, але менавіта так называлі яе Ян Баршчэўскі, Янка Купала і ўсе наступныя без выключэння спадкаемцы і паслядоўнікі) фактычна з’яўляюцца тоеснымі з этнічнымі межамі беларусаў, з улікам тэрыторый, якія адышлі да Літвы, Латвіі і Расіі. Як прыклад – беларускія Свянцяны (Швянчоніс) і ваколіцы, якія пасля перападзелу сталі часткай Літвы і з якіх літоўцы выводзяць гісторыю “сваіх” дуд. Тэма страчаных этнаграфічных тэрыторый вельмі разлеглая і будзе разгледжана ў асобнай публікацыі. Заўважу толькі, што на карце гастроляў трупы Ігната Буйніцкага сярод тых беларускіх мястэчак, дзе праходзілі канцэрты, былі таксама і Свянцяны. У любым выпадку на мапе добра бачна, што цэнтр беларускай дударскай традыцыі знаходзіцца ў Паазер’і.




Тая ж самая канцэнтрацыя дуд пацвярджаецца і на польскай мапе Рэчы Паспалітай міжваеннага перыяду, знойдзенай Цімафеем Авіліным. На ёй у верхнім правым куце прыкладна пазначаныя межы Глыбоччыны. Мапа гэтая рабілася на аснове палітычнай карты таго часу, адсюль няма звестак па “ўсходняй Беларусі”, і ўвага, пэўна, у першую чаргу надавалася




вывучэнню польскіх дуд. Але тое, што канцэнтрацыі дуды ў нашым рэгіёне былі адзначаныя даследчыкамі ўжо тады, даволі істотна.

Безумоўна, на падставе картаграфічных дадзеных можна сцвярджаць, што дуда – гэта інструмент паазерскі (або падзвінскі). Арэал звестак пра яе амаль ідэнтычны межам гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна Беларусі – Паазер'я (Падзвіння), які шырэйшы за панятак Віцебскай вобласці (у склад Паазер'я, напрыклад, не ўваходзіць Ворша, але ўваходзіць Барысаўшчына, якую Вацлаў Ластоўскі згадвае ў апавяданні "Дудар") і больш дакладны ў адлюстраванні культурна-ландшафтных рыс гэтага абшару. Дастаткова згадаць сімвалічную прывязку дуд да азёраў і іх атачэння ў апавяданнях Яна Баршчэўскага або ўспаміны Яна Райніса, латышскага

паэта, які ў дзяцінстве (1870-я гг.) хадзіў на рум слухаць дудароў-плытагонаў з Беларусі, што сплаўлялі лес па Дзвіне…

**Ян Райніс**
*(фрагмент з эпасу маленства “Сонечныя леты”)*

Свет лятункаў застаецца,
Буйнае жыццё ў хаціне, —
Даўгаву разліў пакінуў,
Мкнецца плынь вады вялікай.

Ціха, цёпла летняй ноччу.
Цесна вогнішча абселі.
З купіны Васіль гаротна
Выдыхнуў даўгую песню.

І дуды журлівай гукі
Вёў самотнік аднатонна.
Сум у плойме плытагонаў
У душы ў хлапца затросся.

Ой ты, дудка мая,
Весялушка мая.

Былі ў бацькі тры сыны,
І ўсе яны Васілі.
Адзін коні пасець,
Другі лапці пляцець,
Трэці сядзіць на камені,
Дзяржыць дуду на рамені.
Ой ты, дудка мая,
Весялушка мая,
Весяліла ты мяне
На чужой старане.

Сум у Даўгаве ўтапіўся,
Сплыў з паводкай, на ўзбярэжжы
Зноў вясна святкуе свята,
Ўвесь лазняк пазалаціўшы.

Дзе вада спадала, следам
Травы лезлі, зелянелі,
Расцвілі на поймах кветкі,
Зацвіла вада таксама.

Поўна рэчышча з краямі,
Жоўта-шэры вір шалее:
Зносіць чоўны з пераправы,
Караблі нясе імкліва.

Важкія прыносіць стругі —
Жываты з ячменем, жытам —
Тоўста ў хвалях асядаюць,
Так ракой плывуць каровы.

Стругі днеюць белагруда,
Вёслы ўскідваюць рытмічна,
Распяваюць песні гудаў*,
Праплываючы як здані.

*Г у д ы — беларусы (майстры, умельцы).

*Пераклад: Рыгор Барадулін*






Шаркоўскі паэт, Віктар Лагун, натхніўшыся гукамі дуды ў выкананні Галляша Сялявы з Браслава, а таксама, па словах самога аўтара, першым выданнем кнігі «Дударская Глыбоччына», напісаў «Паэму пра дуду і Галляша», у якой называе дуду „багіняй Паазер'я".

I

Землякі, каб вам не стыгнуць
У маркоце і нудзе,
Трэба сэрцамі спасцігнуць
Тайну грання на дудзе.

Той дуды народнай гукі,
Перадольваючы час
Тлумны, і глухі, і гулкі
Праз вякі плывуць да нас.

Так бруяць руччы і рэкі,
І шумяць бары, лясы
На маёй зямлі адвеку,
І шамоцяць каласы.

Так на поўню воўкі выюць,
І краплісты дождж ідзе,
І віхуры снегавыя, —
І ўсё гэта у дудзе.

І працяжнасць песень жнеяў,
І мянценне звонкіх кос,
І пшанічнасць косаў, веек,
І салёнасць росаў-слёз,

Жніўня колкае іржышча,
І налітыя сады...
І плывуць да нас з ігрышчаў
Гукі колішняй дуды...

II

Як былі наканаваны
Ціск ярма, хамут, дуга,
То ў гучанні прыхаваны
Стогн і скрушная туга...

Там, дзе наша не прапала,
Дзе скразняк разгульны дзьме —
У карчме — дуда гучала,
І не толькі у карчме.

На бядачым лёсе зыбкім
Хоць на часе — каралі!
І з дудой цымбалы, скрыпка...
Ногі ў скокі самі йшлі.

Моладзь пад дуду гуляла,
І бабулі, і дзяды.
Набліжалася Купалле —
Што за свята без дуды?!

І з нагоды, без нагоды,
З весялосці ці з нуды —
У душы майго народа
Грае музыка дуды.

Па жыцці — і грунт, і зерне,
І ржавінная руда
Ты — багіня Паазер'я,—
Беларуская дуда.

III

Дзе у люстраных азёрах
Краю выкупаны наш
І душа ляціць да зорак,
Грае на дудзе Галляш.

Сёння ў свеце злым заснулым
Ён — музыка — ясны дар.
Ён іграе аб мінулым
І пра сёння — ён дудар!

То вякоў сівых прадстаўка,
Раствары, разгладзь бяду,
Як калісьці Грышка з Саўкам,
Ладзь, Галляш, сваю дуду!

Жнівень як набытак года,
І задумная вада,
І цудоўная нагода —
Грай, Галляшава дуда!

Час назад вякі адрыне,
Ты нястрымнасць кроз тушуй, —
Нашым сябрам на сябрыне
Пранімай наскрозь душу!

Хай у зрэнак знікне соннасць,
І вачэй — не патушыць, —
Аб мінулым і пра сёння
Грай, музыка, для душы!

IV

Заглянуўшы у вытокі,
Уяўляеш: гай гудзе
І цякуць па дрэвах сокі...
Грай, Галляш, нам на дудзе,

Покуль вечар не атуліць
Да Дзісёнкі стромы схіл
І у зорную кашулю
Не адзене небасхіл...

Кожны: ўспомні сваё званне
І паслухай Галляша:
Адраджаецца пад гранне
Першародная душа...

Па-чужому воўкі выюць,
І да прорвы чорт вядзе,
І парадкі чумавыя...
Грай, Галляш, нам на дудзе!

І адметны, і свавольны,
І яскравы неба дар,
Будзь у гуках-тонах вольны
І у словах — як пясняр.

Праганяй маркоту-скруху,
Надзімай, дудар, шчаку,
Гамані, пакуль ёсць духу,
Адпачыць дай пішчыку.

V.
Зачаруй магічным словам,
Што памоцна у бядзе,
Словам продкаў адмысловым,
Што у заўтра павядзе.

Атрымаўшы звыш указку,
Ні на кога не глядзі,
Па-галляшаўску, па-наску
На дудзе, дудар, дудзі!..

Абудзі ты нашы вёскі,
Разам з імі — гарады, —
Ёсць дуда інструмант боскі
І лякарства ад бяды.

Адкрывае нам павекі
На “жыццё не ягада”
І ратуе нас адвеку
Тое, што жыве дуда,—
Па жыцці і грунт, і зерне,
І ржавінная руда...
Ёсць багіня Паазер’я
Беларуская дуда.

...Мы мінуўшчынай спавіты,
Біты розгам, батагом...
Ён — Галляш.
Я, мабыць — Вітаўт,
Ды не ведаю таго.

*2017*

Дарэчы, апрача іншых важных аспектаў, якія дуда дапамагае зразумець пра саміх сябе і пра нашую культуру і гісторыю, ці не найважнейшым выступае геаграфічна-этнаграфічная цэласнасць, адсутнасць культурна-побытавага падзелу на ўсходнюю і заходнюю Беларусь. У кантэксце дуды заціраецца таксама і мяжа паміж Полаччынай і Віленшчынай, хоць гістарычным цэнтрам фармавання маналітнай дударскай традыцыі, пра якую мы знаходзім звесткі ў беларускай літаратуры і не толькі, можна лічыць Полацкае ваяводства. Полацкае ваяводства (1504—1795) — адміністрацыйная адзінка ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Гэтая геаграфічная прывязка добра бачная ў вельмі цікавай, адкрытай толькі на пачатку XXI ст. кнізе “Полацкая шляхта” (выдадзена ў “Залатой калекцыі беларускай літаратуры”). Яе аўтар – беларускі пісьменнік XIX ст., Вайніслаў Казімір Канстанцінавіч Лада-Заблоцкі, з Мёршчыны. У сваім рамане, дзеянне якога адбываецца ў трох маёнтках на Полаччыне,

пісьменнік дае вельмі важнае для дударскай традыцыі вызначэнне: *„За Дзвіною – агульная назва Літвы, якая для беларуса, асабліва з Полацкага ваяводства, сапраўды знаходзіцца «за Дзвіною»”.*



Гэтая геаграфічная заўвага поўнасцю разыходзіцца з памылковай і шкоднай назвай "беларуска-літоўская дуда", якую бароняць некаторыя даследчыкі, такія як Тодар Кашкурэвіч або Яўген Барышнікаў. Ужо ў той час беларусы, і нават частка шляхты Полацкага ваяводства, не вызначалі сябе "літвінамі" і не адносілі сябе да "літвы". Літва, умоўна кажучы, была ў паўднёва-заходнім напрамку, больш-менш за ракой Дзвіной, разам з яе басейнам*. У іншым фрагменце «Полацкай шляхты» чытаем: *"За садам буркатала на кагосьці Дзвіна. Далёка спяваў нейкі певень і нехта гудзеў на дудзе"*.

Наддзвінскія дударскія матывы сустракаюцца таксама ў іншых пісьменнікаў. Твор В. К. Лада-Заблоцкага не адзінкавае апісанне такога тыпу, як не рэдкае выкарыстанне словазлучэння "беларуская дуда". Беларускай дудой інструмент называюць (прычым на розных мовах) абсалютна ўсе беларускія пісьменнікі XIX ст., не кажучы ўжо пра XX ст. Гэта азначае, што дуда ўспрымалася як традыцыйны інструмент Паазер'я і Полацкага ваяводства, як тыповы інструмент беларускага этнасу. Асабліва важнымі для нас з'яўляюцца сведчанні і фармулёўкі XIX ст., паколькі ў той час, час нацыянальнага вызначэння, яны зусім не былі простымі і адназначнымі. Пісьменнікі таго перыяду часта мелі праблемы з самавызначэннем і выбарам мовы сваёй творчасці (А. Міцкевіч, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч і інш.). Тым не менш паўсюднае выкарыстанне словазлучэння "беларуская дуда" сведчыць, што ў гэтым пытанні ўсё было адназначным нават тады. Відавочнымі былі як яе нацыянальная (геаграфічна-этнаграфічная) прыналежнасць, так і, хутчэй за ўсё, разуменне з боку аўтараў наяўнасці іншых тыпаў дуд**.

*Хоць Глыбокае ў такім раскладзе не належала б да Полацкага ваяводства, але мяжа па Дзвіне з'яўляецца, вядома, толькі ўмоўнай. Глыбокае было горадам на памежжы Полацкага і Віленскага ваяводстваў. Адзін бераг уздоўж ракі Бярэзвіца (выцякае з возера Вялікага і ўпадае ў Дзісну, а пасля – у Дзвіну), уключна з асобным тады яшчэ мястэчкам Беразвеччам, належаў да Полацкага ваяводства, а землі з другога берага – да Віленскага.

**У трэцім нумары краязнаўчага часопіса «Паазер'е» Алесь Гарбуль надрукаваў „Гісторыі некаторых лынтупскіх мянушак": Раней не толькі аднаго твайго дзеда абзывалі. Ва ўсіх лынтупскіх мянушкі былі. Вось, можа, помніш, у 60-тых быў такі Алік Якубовіч, вельмі добра на скрыпцы граў! Ніводнае вяселле ці якая гулянка без яго не абыходзіліся! Таму да яго і прыліпла мянушка "Скрыпка". Як скажаш Алік Якубовіч, дык рэдка хто такога і ведае, а як скажаш Скрыпка – дык усе ведаюць! (Тут апавядальнік трохі не ўлічыў узрост аўтара запісаў. Я гэтага Якубовіча–Скрыпку не мог ведаць толькі па адной простай акалічнасці: у час славы гэтага майстра-музыкі мне было вельмі мала гадоў).
Як гэтага Якубовіча Скрыпкай абзывалі з-за таго, што добра граў на скрыпцы. Так і ўсіх Шапеляў абзывалі Гайды.Казалі, з-за таго, што іх продак на гайдзе калісьці граў. Гайда, – гэта такая дуда з мяхамі, падобнымі на кавальскія, толькі меншымі.
Гэтыя Шапелі калісьці былі вельмі багатыя, многа зямлі ворнай у Лынтупах мелі.
Раней у самым мястэчку ў людзей ворнай зямлі мала было, толькі на гароды. Ва ўсіх зямля была болей па вёсках, як і ў Бушэўскага. Бушэўскі ў Лынтупах, мусі толькі з две – тры валокі меў, не болей. А ворная зямля ў Лынтупах была толькі ў двух радоў. Паловай зямлі валодалі твае продкі Гарбулі, а другая палова была ва ўласнасці тых Гайдоў (Шапеляў). Пра гэтых Гайдоў старыя казалі, што іхні продак з'явіўся ў Лынтупах яшчэ пры Гільзену. Гэта такі багаты барон нямецкі меў калісьці Лынтупы ва ўласнасці. Гэты Гільзен, казалі, вельмі любіў музыку і нярэдка для сваіх гасцей тут, у мястэчку, ладзіў вялікія балі ды канцэрты. Для гэтага ён трымаў у сябе аркестр, у які назбіраў выдатных музыкаў з ўсёй Еўропы. *(Працяг на стар. 20)*

Гаворачы пра арлапольскі замак, В. К. Лада-Заблоцкі ў сваім рамане піша: *“І толькі то тут, то там запілікае якая-небудзь скрыпка або загучыць беларускаядуда”*.Ваўспрыманніаўтара скрыпка нацыянальнай прывязкі не мае, а дуда ўжо мае. Этнаграфічнай вартасцю вызначаюцца фрагменты апісання ў “Полацкай шляхце” танцаў і забаў пад дуду і скрыпку не толькі сярод простага люду, але і сярод мясцовай шляхты:

„Адны з тых музыкаў граюць для танцаў – і тады кола мужчын і дзевак з панскіх вёсак задавольваюць на падворку сваю ахвоту да скокаў, падпяваючы ў гэтым танцы то самцам (сола), то хорам. Іншыя спяваюць быліны, то ўслаўляючы Арлалёта ці якога-небудзь іншага пана, то распавядаючы пра падзеі старажытнай Рэчы Паспалітай, пра князёў той славутай Літвы або Русі – Врагалада, Брачыслава, Усяслава, княгіні Рагнеды – а то займаючы сваіх слухачоў якой-небудзь байкай: «Хадзіў Бай па сцяне; чы баяці мне, чы не?».... А калі брацця-Шляхта, падахвоціўшы сябе мядком, гатова была пусціцца ў скокі, то або рэзала Січовага казака, або, прывёўшы з вёскі самых ахайных дзевак, папрыбіраных у прывабныя строікі, дужа спрытна выдрынгоўвала з імі ў народных танцах, быццам бы з панямі сваіх сэрцаў, – то «Падушачку», то «Лявоніху», то «Верабейку», то «Яшчура», то, нарэшце, «Крутуху» або якую «Барыню*», ладна скачучы з імі ў суправаджэнні спеваў або без спеваў. І тады ж заходзілі да панскіх пакояў старыя дзядкі і бабкі тых танцоўшчыц, а таксама іх бацькі. У тыя часы не чынілі з мужычкамі аніякага, хаця б найменшага свавольства, якое абражала шляхецкую і панскую годнасць. Наадварот, у даўнейшай Польшчы існавалі толькі чыстыя звычаі! Багата абдораныя з боку ўладара і яго гасцей грашыма, дзяўчаты, са шчаслівымі сваімі старымі, вярталіся потым да хат, і доўга яшчэ ў вёсках разважалі пра панскую дабрыню і ласку ў адносінах да падданага люду, шмат у чым гэтых паноў зразумеўшы і шмат чаго ім пра сябе падчас гэтага братання расказаўшы”.

Разам з Лепельшчынай, Полаччынай, Дзісеншчынай, Вушаччынай і Гарадоччынай Глыбоччына ўтварае моцны дударскі арэал, сэрца якога, прынамсі, для нас, глыбачан, вядома, знаходзіцца ў Глыбоцкім краі. Глыбоцкі край тут

*Пералік народных танцаў, якія, верагодна, танчыліся пад дуду і скрыпку, вельмі падобны да танцаў, што выконвалі акторы трупы Ігната Буйніцкага.
Вось і продка гэтых Шапеляў ён аднекуль прывабіў у свой аркестар. Ці не з Францыі, бо нярэдка Шапеляў яшчэ абзывалі дэ Шапель, калі моцна нос задзіралі. Усе яны з гэтага роду былі, напэўна, з нараджэння, “цо то я”, – вельмі фанабэрыстыя, – ставілі сябе заўсёды вышэй іншых, хаця тут, у Лынтупах, толькі адна шляхта жыла. Можа, яшчэ якога паходжання яны былі вышэйшага за простую шляхту? Я аб гэтых Шапелях добра ведаю, бо сваякамі нам прыходзяцца.
** *(працяг са стар.19)* Вось гэты іхны продак, казалі, вельмі добра граў на гайдзе і быў у вялікай пашане ў Гільзена ды яго гасцей. Таму за сваю ігру заўсёды атрымліваў вельмі каштоўныя падарункі. Так і разбагацеў. А за тую дуду – гайду людзі яго і абазвалі Гайда. Гэта мянушка назаўсёды прыліпла да ўсяго ягонага роду. Толькі цяпер іх перасталі так абзываць, а пры Польшчы і раней Шапеляў мала хто ведаў. Для ўсіх яны Гайды былі!




**Элементы дударскай спадчыны і сучаснай дзейнасці на Глыбоччыне**




трэба бачыць як складовую частку Полацкага і Віленскага ваяводстваў, як культурную частку Паазер'я і як абшар, які ўключае гістарычную Дзісеншчыну і некаторыя памежныя тэрыторыі. Месцы, якія адносяцца да

## ДУДАРСКІЯ МЯСЦІНЫ НА ГЛЫБОЧЧЫНЕ

**1 ДУДАРСКІ РЭЙ**
Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў "Дударскі Рэй". Заснавальнік Віталь Воранаў, праводзіць яго разам з мясцовай адміністрацыяй, з 2017 года.

**2 ДУДАР АДАМ ШУЛЬГА (ПРАЗАРОКІ)**
Дзейнічала тэатральная трупа Ігната Буйніцкага, у складзе якой быў дудар Адам Шульга. Празарокі таксама месца пахавання Ігната Буйніцкага, заснавальніка трупы.

**3 ТРУПА ІГНАТА БУЙНІЦКАГА (ПАЛІВАЧЫ)**
Фальварак Палівачы Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Палевачы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобл.) дзе была створаная першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага — прафесійны беларускі тэатр у 1907—1913. У праграму апрача спектакляў уваходзілі беларускія традыцыйныя танцы, у тым ліку з удзелам дуды. Калектыў шмат гастраліраваў па Беларусі, у Вільні (1910), Пецярбургу (1911 і 1912), Варшаве (1913). На сённяшні дзень вядомыя два фотаздымкі, на якіх бачны дудар трупы Адам Шульга.

**4 НАЙСТАРЭЙШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДУДА (ВЕРАЦЕІ)**
Дуда з вёскі Верацеі (Дзісенскага павета), на Глыбоччыне. Захоўваецца ў Нацыянальным Музеі Літвы. У фонды музея трапіў з этнаграфічнага музея SBU (Універсітэт Стэфана Баторыя) у 1934 г. Паведамляецца, што інструмент быў зроблены 80 гадоў да моманту паступлення ў музей, але музеем датуецца 1849г., што робіць яго найстарэйшай беларускай дудой. Мех зроблены са скуры барсука, поўсцю навонкі, што робіць яго ўнікальным у кантэксце агульнабеларускай дударскай традыцыі. У фондах пазначаны нумарам LNM EM 99 (ME 1849).

**5 „ЧЫ-ЧЫ. ЧЫ-ЧЫ. ВЕРАБЕЙ..."**
Нотны запіс з кнігі „Дзіцячы спеўнік" Антона Грыневіча, беларускага фальклорыста з Полаччыны. Народная мелодыя, з Дзісеншчыны. Запісаная ад дудара з трупы І. Буйніцкага. Гэтую мелодыю можна лічыць дударскім гімнам Глыбоччыны, паколькі яна не толькі выбітна дударская і арыгінальная, хоць зусім невядомая ў дударскім асяроддзі, але таксама таму, што яна, імаверна, уваходзіла ў рэпертуар трупы Ігната Буйніцкага.

**6 „ДУДАР" ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ (ЗАСЦЕНАК КАЛЕСНІКАЎ)**
Месца нараджэння Вацлава Ластоўскага, аўтара пераказанай казкі "Дудар"

**7 ДУДАР ПЁТР БУРЭЦ (СВІЛА)**
Дудар Зміцер Сасноўскі у этнаграфічнай экспедыцыі сустрэў Мікалая Караткевіча, 1932 г.н. (в. *Слівіна - хутчэй за ўсё мелася на ўвазе Свіла, Глыбоцкага раёна), які ў дзяцінстве, у перадваенны перыяд, часта прысутнічаў, калі граў дудар Пётр Бурэц. Пётр Бурэц выкарыстоўваў дуду з вялікім мяшком, таму мог доўга спяваць пад акампанемент свайго інструмента. Гэта была культурная вартасць усёй акругі, таму да таленавітага музыкі паслухаць імправізаваныя канцэрты прыходзілі нават афіцэры польскай стражніцы (заставы), якая знаходзілася непадалёк."

**8 САНАТОРНА-КУРОРТНЫ КОМПЛЕКС „ПЛІСА"**
Пліскі амфітэатр, месца правядзення канцэртаў у межах фэсту „Дударскі Рэй".

**9 ЛЕГЕНДА ПРА ДУДАРА-ЧАРАЎНІКА**
«У ваколіцах Дзісны, у в. Ліпна жыў на пач. XX ст. дудар – "троху калека, старык", які "знаў". Яго абавязкова запрашалі на вясельлі, іначай шалелі коні ды біліся людзі, а маладыя былі "чужымі" у першую ноч. Мог зрабіць так, што гарэлка ў чарцы пачынала кіпець. Аднаго разу, калі ён адклаў дуду і пайшоў да стала выпіць, дзеўка яе ўзяла і паспрабавала падзьмуць, пасьля чаго ў яе разьдзьмула твар. Паміраў цяжка, то падымалі столь» (Зап. Т. Валодзіна і У. Лобач у 2007 г. ад Гіргеля Міхаіла Пятровіча, 1917 г. н. у в. Вялец Глыбоцкага р-на).

**10 „ДУДАР" ЯН ПАЧОПКА (МАЛІНАЎКА)**
Месца пахавання Янкі Пачопкі, аўтара верша "Дудар" ("Наша ніва" 1913, № 21, с. 3.)

**11 „ГАРАВАТКА" КАСТУСЬ АКУЛА (ВЕРАЦЕІ)**
Месца дзеяння трылогіі „Гараватка" і нараджэння яе аўтара, Кастуся Акулы. У кнізе дудзе нададзенае сімвалічна-міфалагічнае вымярэнне. (Кн.І Дзярлівая птушка Таронта, 1965) Магчыма што Гараватка ўзяла сваю назву ад вёскі Гараватка, у Галубіцкай Пушчы, непадалёк Чарневічаў, якую нарысаваў Язэп Драздовіч.

**12 КАСЦЁЛ БЕЗЗАГАННАГА ЗАЧАЦЦЯ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ**
(В)удзельскі касцёл, у якім закладзеная традыцыя набажэнстваў з удзелам дудароў.

**13 ГЛЫБОЦКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАЁННАЯ БІБЛІЯТЭКА**
Адзіны ў Беларусі бібліятэчны фонд і сталая экспазіцыя літаратурных і навуковых тэкстаў прысвечаных дудзе.








іншых раёнаў, у разуменні сучаснага падзелу на адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі часта адносяцца да панятку Глыбоцкі край (больш шырокі за панятак Глыбоцкі раён). Дарэчы будзе заўважыць, што большасць гістарычных звестак пра бытаванне дуды ў Глыбоцкім краі былі знойдзеныя амаль выключна па правы бок ад Бярэзвіцы, то бок на тэрыторыі даўняга Полацкага ваяводства, у басейне ракі Дзвіны.

Адмыслова да другога фэсту "Дударскі рэй" была падрыхтаваная карта, на якой сабраныя ўсе дударскія сляды рэгіёна. На момант стварэння карта налічвала 35 адзінак, уключна са звесткамі пра дудароў, з літаратурнымі прысвячэннямі, старымі фотакартачкамі, мясцовымі легендамі, знакавымі месцамі і іншымі крыніцамі, а таксама з дакладнай інфармацыяй пра кожную кропку. Карта выйшла ў друкаванай і электроннай версіях (апошняя ўвесь час дапаўняецца).

**1 Дударскі рэй**
Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў "Дударскі рэй". Праводзіцца ў Глыбокім з 2017 года, заўсёды ў першыя выходныя траўня, найчасцей прыпадае на народна-каляндарнае свята Юр'я.

**2 Дудар Адам Шульга (Празарокі)**
Дзейнічала тэатральная трупа Ігната Буйніцкага, у складзе якой быў дудар Адам Шульга. Празарокі таксама месца пахавання Ігната Буйніцкага, заснавальніка трупы.

**3 Трупа Ігната Буйніцкага (Палівачы)**
Фальварак Палівачы Дзісенскага

павета Віленскай губерні (цяпер Палевачы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці), дзе была створаная першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага – прафесійны беларускі тэатр у 1907–1913 гг. У праграму, апрача спектакляў, уваходзілі беларускія традыцыйныя танцы, у тым ліку з удзелам дуды. Калектыў шмат гастраліраваў па Беларусі, у Вільні (1910), Пецярбургу (1911 і 1912), Варшаве (1913). На сёння вядомыя два фотаздымкі, на якіх бачны дудар трупы Адам Шульга.

**4 Найстарэйшая беларуская дуда (глыбоцкая дуда з вёскі Верацеі)**

Дуда з вёскі Верацеі (непадалёк ад Лужкоў) на Глыбоччыне. Захоўваецца ў Нацыянальным музеі Літвы. У фонды трапіла з этнаграфічнага музея SBU (Універсітэт Стэфана Баторыя) у 1934 г. Паведамляецца, што інструмент быў зроблены за 80 гадоў да моманту паступлення ў польскі музей, то бок у 1849 г., што дае падставы называць яго найстарэйшай (з датаваных) беларускай дудой. Мех зроблены са скуры барсука, поўсцю навонкі, што ўнікальна ў кантэксце агульнабеларускай дударскай традыцыі. У фондах інструмент пазначаны нумарам LNM EM 99 (ME 1849).

**5 “Чы-чы, чы-чы, верабей...”**

Нотны запіс з кнігі “Дзіцячы спеўнік” Антона Грыневіча, беларускага фальклbuilding з Полаччыны. Народная мелодыя, з Дзісеншчыны. Запісаная ад дудара з трупы Ігната Буйніцкага. Гэтую мелодыю можна лічыць дударскім гімнам Глыбоччыны, паколькі яна не толькі выбітна дударская і арыгінальная (хоць зусім невядомая ў дударскім асяроддзі), але і, імаверна, уваходзіла ў рэпертуар трупы Ігната Буйніцкага.

**6 “Дудар” Вацлава Ластоўскага (засценак Калеснікаў)**

Месца нараджэння Вацлава Ластоўскага, аўтара пераказанай казкі “Дудар”

**7 Дудар Пётр Бурэц (Свіла?)**

Дудар Зміцер Сасноўскі ў этнаграфічнай экспедыцыі сустрэў Мікалая Караткевіча, 1932 г. н. (в. Слівіна (хутчэй за ўсё мелася на ўвазе Свіла) Глыбоцкага раёна), які ў дзяцінстве, у перадваенны перыяд, часта прысутнічаў, калі граў дудар Пётр Бурэц. Той выкарыстоўваў дуду з вялікім мяшком, таму мог доўга спяваць пад акампанемент свайго інструмента. Гэта была культурная вартасць усяго наваколля, таму да таленавітага музыкі паслухаць імправізаваныя канцэрты прыходзілі нават афіцэры польскай стражніцы (заставы), якая знаходзілася непадалёк.

**8 Санаторна-курортны комплекс “Пліса”**

Плiскі амфітэатр, месца правядзення канцэртаў у межах фэсту “Дударскі рэй”.

**9 Легенда пра дудара-чараўніка**

“У ваколіцах Дзісны, у в. Ліпна, жыў на пач. XX ст. дудар – «троху калека, старык», які «знаў». Яго абавязкова запрашалі на вясельлі, іначай шалелі коні ды біліся людзі, а маладыя былі «чужымі» ў першую ноч. Мог зрабіць так, што гарэлка ў чарцы пачынала кіпець. Аднаго разу, калі ён адклаў дуду і пайшоў да стала выпіць, дзеўка яе

ўзяла і паспрабавала падзьмуць, пасьля чаго ў яе разьдзьмула твар. Паміраў цяжка, то падымалі столь” (зап. Т. Валодзіна і У. Лобач у 2007 г. ад Гіргеля Міхаіла Пятровіча, 1917 г. н., у в. Вялец Глыбоцкага р-на).

**10 “Дудар” Яна Пачопкі (вёска Прытыкі (Малінаўка))**

Месца пахавання Янкі Пачопкі, аўтара верша “Дудар” (“Наша Ніва”, 1913, № 21, с. 3.).

**11 “Гараватка” Кастуся Акулы (вёска Верацеі, непадалёк ад Крулеўшчыны)**

Магчымае месца дзеяння трылогіі “Гараватка” і нараджэння яе аўтара, Кастуся Акулы. У кнізе дудзе нададзенае сімвалічна-міфалагічнае вымярэнне (Кн. І. Дзярлівая птушка Таронта, 1965). Магчыма, што Гараватка ўзяла сваю назву ад вёскі Гараваткі, у Галубіцкай пушчы, непадалёк ад Чарневічаў, якую намаляваў Язэп Драздовіч.

**12 Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі**

Вудзельскі касцёл, у якім закладзеная традыцыя набажэнстваў з удзелам дудароў.

**13 Глыбоцкая цэнтральная раённая бібліятэка**

Адзіны ў Беларусі бібліятэчны фонд і сталая экспазіцыя літаратурных і навуковых тэкстаў, прысвечаных дудзе.




**Віталь Воранаў уручае дударскі каляндар мастаку Эдуарду Мацюшонку, які намаляваў карціну, выява якой змешчаная на вокладцы гэтай кнігі.**

# Празарокі і Палівачы

Адным з галоўных цэнтраў дударскай традыцыі Глыбоччыны былі ваколіцы возера Шо, Палівачы і Празарокі. Тут дзейнічала тэатральная трупа Ігната Буйніцкага, у якой іграў дудар Адам Шульга. Гэты факт пацвярджаецца і некалькімі фотакартачкамі. Мясцовы дудар сядзіць першы, з левага боку. Побач з ім – скрыпач і цымбаліст. Такім чынам, у тэатры Буйніцкага выкарыстоўваліся тры традыцыйныя народныя інструменты таго часу: дуда, скрыпка і цымбалы. У вершы, прысвечаным нашаму славутаму земляку Ігнату Буйніцкаму, Янка Купала пісаў:

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
  Ў танцах нашых водзіць,
Аж здаецца – усё чыста
  Хадыром з ім ходзіць.

Калі пусціцца скакаці, –
  Ажна сэрца скача;
Лепшых танцаў і ўвесь Піцер
  Бадай што не бачыў.

Ці “Мяцеліца”, ці “Юрка”,
  “Мельнік”, ці “Антошка”, –
Ўсё ў яго сыходзіць гладка,
  Не змыліць ні трошка.

Пад дуду і пад цымбалы
  Топне, прыспявае...
Сцеражыцеся, ўсе людзі:
  Беларус гуляе!

Не ўнімайся ж і скачы нам,
  Покі сілы хваціць,
Мо пачнуць і думкі нашы
  Весялей скакаці!



Янка Купала быў адным з удзельнікаў беларускай вечарыны ў Пецярбургу ў 1911 годзе, на якую была запрошаная трупа Ігната Буйніцкага. У сваёй карэспандэнцыі для “Нашай Нівы” ён паведамляў: *„За хорам ішлі па сцэне пастаўленыя п. Ігнатам Буйніцкім беларускія танцы пад дуду, цымбалы і скрыпку”*.

У часопісе “Litva” ад 15 лютага 1911 г. даследчыкам Цімафеем Авіліным знойдзена публікацыя передруку тэксту Янкі Купалы з “Нашай Нівы” на польскай мове. Дарэчы, гэтым матэрыялам былі прыемна здзіўленыя нават у Празароцкім музеі. У артыкуле “Беларускі дзяяч”, прысвечаным дзейнасці актораў тэатральнай групы пад кіраўніцтвам Буйніцкага, пішацца: *“Пэўна ўпершыню Пецярбург*



**Трупа Буйніцкага пасля выступлення ў Спорцінг-Палацы. Фота 1912 года**

*меў магчымасць захапляцца вясёлымі, поўнымі жыцця беларускімі скокамі: Юркам, Мельнікам, Цобарам, Мяцеліцай і інш."*

Апрача гэтых танцаў, першая прафесійная трупа выконвала "Лявоніху", "Вераб'я", "Гняваш", "Чобат", "Качан", "Чабор", "Антошку", "Бычок" і "Польку". Яшчэ Ігнат Буйніцкі супрацоўнічаў з кампазітарам Л. Рагоўскім і хормайстрам трупы Я. Феакціставым, якія дапамагалі ўводзіць у рэпертуар народныя песні. Акторамі выконваліся наступныя песні: "Дуда-весялуха", "Чаму ж мне не пець", "Ах ты дзьмі", "У горадзе рэчка", "Баба ракі варыла", "Падушачка", "За гарамі, за лясамі", "Ох ты дуб", "Прыляцелі гусі", "Ды куды ж ты, дуб зялёны", "Чалавек жонку б'е" і інш.

Другі раз акторы Буйніцкага наведалі Пецярбург у 1912 годзе. "Наша Ніва" паведамляла: *„Як выйшаў п. Буйніцкі са сваімі танцорамі і сялянамі-беларусамі, дударом, цымбалістам і скрыпачом, – па-простаму пераварачваючыся, дык гэта адразу прынялі ўсе з захватам, усе, хто там быў, ударылі ў ладонькі"*. Падобнае паведамленне газета надрукавала і пра "Беларускую вечарынку", зладжаную беларускімі студэнтамі ў Варшаве ў 1913 годзе: *„Найбольш падабаліся публіцы нашы народныя танцы пад загадам штукара-танцора Ігната Буйніцкага. Яго трупа па шэсць пар танцораў пад музыку сялян, што з ім разам прыехалі: дудара, скрыпача і цымбаліста, проста зрабіла на публіку захват*

*і дзіва...”*. Вобраз Ігната Буйніцкага як выдатнага танцора і ўсёй групы актораў выдатна вымалёўваецца ва ўспамінах Зыгмунта Абрамовіча, які быў вядучым драматычным акторам трупы: *„Сам Буйніцкі быў і драматычны артыст і ўваходзіў, падпяваючы баском, у склад нашага невялікага, але добра зладжанага хору, з яўнай прыемнасцю чытаў са сцэны забаўныя вершы Альберта Паўловіча. Але, як я глыбока перакананы, Ігнат Буйніцкі перш за ўсё быў «да мозгу касцей» танцор. Праслаўленыя нашымі гастролямі беларускія «скокі» ў выкананні Буйніцкага з ансамблем былі непаўторным відовішчам. Гэта – стыхія, калі разгульвалася «вясёлая мяцель»... Мы штовечар бачым гэта, дзеянні і рухі паўтараюцца, я сам бяру ў іх свой яшчэ даволі нязграбны ўдзел, і мяне ахоплівае і нясе штовечар мелодыя дуды і скрыпкі... ”* (Полымя, 1971 г.).



Яшчэ Адама Шульгу і ягоную дуду бачна вось на гэтай, менш вядомай, гастрольнай картачцы трупы Буйніцкага ў Пецярбургу. У публікацыі Еўдакіма Раманавіча Раманава, беларускага этнографа, фальклярыста і археолага, у 8-м выпуску выдання «Белорусский сборник» (Вільня, 1912), знаходзім выяву дуды з Дзісенскага павета Віленскай губерні, XIX ст.



Дуда прыгожа аздобленая дэкаратыўнымі элементамі з металу, мае вытанчаныя формы, у чым пазнаецца рука спрактыкаванага майстра. Калі прыглядзецца да ледзь заўважных абрысаў ражка бурдона і іншых частак дуды на фотакартачках Адама Шульгі і ўзяць пад увагу розныя вуглы нахілу, то можна зрабіць вывад, што на выяве ў тэксце Еўдакіма Раманава прадстаўлены той сам інструмент. Гэта даволі імаверна, тым больш што сам Раманаў падкрэсліваў у сваёй публікацыі 1912 г. наступнае: "Достать хороший экземпляр дуды теперь уже нелегко даже и опытному этнографу...". Час публікацыі, які супадае з перыядам актыўнай дзейнасці трупы Ігната Буйніцкага (1907–1913), лакалізацыя (Празароцкая воласць была часткай Дзісенскага павета), а таксама адметная вытанчанасць дуды сярод іншых тагачасных дуд даюць падставу сцвярджаць, што на выяве прадстаўлены адзін з інструментаў Адама Шульгі. З 1907 да 1917 г. Раманаў жыў і працаваў у Вільні, і ён не мог абмінуць увагай «Першую беларускую вечарынку ў Вільні», на якой 12 лютага адбыўся выступ трупы Буйніцкага. 22 лютага 1910 г. быў здзейснены другі вялікі выступ на этнаграфічным вечары, прысвечаным культурам народаў Паўночна-Заходняга краю. Была прадстаўленая і беларуская капэла з дударом, пра што праз год напіша верш Янка Купала. Багатае аздабленне дуды магло мець асаблівае значэнне для дудара, які прадстаўляў дударскую традыцыю на вялікіх сцэнах Вільні, Варшавы і Пецярбурга. Не выключана таксама, што такі нятанны інструмент мог рабіцца па спецыяльным заказе і за грошы Ігната Буйніцкага. Такую думку можна лічыць недастаткова абгрунтаванай, але з прычыны малой колькасці звестак адносна канкрэтна ўзятага перыяду яна мае права на існаванне.

Апрача дудара з трупы Буйніцкага, вядомы яшчэ адзін дудар з Глыбоччыны – Пётр Бурэц. Паводле сведчанняў відавочца, М. Караткевіча, дудар выкарыстоўваў дуду з вялікім мяшком. Гэтая інфармацыя змешчана ў артыкуле Зміцера Сасноўскага ("Дудар", 2012, № 1). Як выглядала дуда з вялікім мяшком, можна толькі здагадвацца. Для ілюстрацыі прыводзіцца рысунак П. Аненскага. Такі тып дуды, пры ўмове што ён адлюстроўвае аўтэнтычны інструмент, хутчэй за ўсё адносіўся да дуды паўднёвага тыпу.



**М. Караткевіч паказвае пасадку дудара і Чын трымання інструмента, 2007 г.**




**Дудар беларускі. Рысунак П. Аненскага. Ілюстрацыя да “Заходнерускіх нарысаў» П. М. Шпілеўскага. 1859 г.**



STRAŻNICA NA ODCINKU PODŚWILE, WEDŁUG PROJEKTU ARCH. TADEUSZA NOWAKOWSKIEGO.

**Пагранічная стражніца (застава) на адрэзку Падсвілле**

На рысунку адсутнічае соска для надзімання мяшка. Алесь Сурба сцвярджае: “Магчыма, дудар пры надзьмуванні меху трымаў соску зубамі, а пасля таго ён мог заламываць яе пад мышку, каб паветра не выходзіла, і спяваць. Калі паветра скончвалася, цыкл паўтараўся зноў[*]”.

Можа, на Глыбоччыне яшчэ жывуць сваякі Пётры Бурца? Можа, у іх сямейных архівах захаваліся новыя звесткі, фотаздымкі ці іншыя скарбы?..

На сёння большасць артэфактаў дударства на Глыбоччыне ці бясследна прапалі ці захоўваюцца ў фондах замежных музеяў. Прыкладам такіх артэфактаў з’яўляецца адна з найбольш вядомых выяваў беларускіх дудароў – дудар з Дзісенскага павета.

Адным з асноўных цэнтраў Дзісеншчыны было Глыбокае, якое 24 кастрычніка 1919 г. стала сталіцай павета. У Глыбокім выдаваўся і друкаваўся (1931–1932) часопіс “Ziemia Dziśnieńska” (“Дзісенскі край”). То бок гістарычная Дзісеншчына і Глыбоцкі край – гэта гістарычна і культурна амаль тоесныя паняткі. Вельмі імаверна, што здымак дудара быў зроблены фатографам і краязнаўцам Міхаілам Кусцінскім[**] менавіта ў глыбоцкім фотаатэльле. Картачка была выкананая не пазней за 1905 год. Паштоўка захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы, і спецыялісты датуюць яе 1905–1920 гг. Глыбоцкі краязнаўца і аўтар кнігі “Глыбокае на старых паштоўках” (1998) Уладзімір Скрабатун[***] вызначыў, што паштоўка была выдадзеная ў Пецярбургу, у беларускім выдавецтве “Загляне сонца і ў наша ваконца”. Выдавецтва існавала з 1906 па 1914 г., таму датаванне Уладзіміра Скрабатуна больш дакладнае за бібліятэчнае. Падобныя паштоўкі выходзілі таксама з выявамі акцёраў трупы Ігната Буйніцкага. Аналіз стаў магчымы дзякуючы перапісцы з Нацыянальнай бібліятэкай Польшчы і атрыманню выявы адваротнага боку паштоўкі, якая, калі не лічыць газетных выданняў, публікуецца ўпершыню.


Dudar Biełaruski (Wilen. hub. Dzisien. pawietu).
Дудар Беларускі (Вилен. губ. Дзисен. павету).

[*]Сурба А. Асаблівасці беларускай двухгукавой дуды. Мінск : БГУКИ, 2012.

[**]Міхаіл Францавіч Кусцінскі (28 верасня 1829 г., маёнтак Завідзічы, Лепельскі павет, Віцебская губерня, Расійская імперыя – 1905) – археолаг і краязнаўца.

[***]9 лістапада 2018 г. на падвядзенні вынікаў конкурсу на “Найлепшую рэгіянальную газету 2018 года” ў намінацыі “Найлепшы краязнаўчы матэрыял” Уладзімір Скрабатун узяў 2–3 месца (дыплом) за матэрыял “Паштоўку з выявай глыбоцкага дудара выдалі ў Пецярбургу”.




Адмыслова да фэсту “Дударскі рэй – 2018” была выдадзеная факсімільная версія гэтай паштоўкі аўтарства Алены Сілівонік, якая запраектавала таксама ўсе папярэднія плакаты фэсту.

Калі вярнуць экспанаты, звязаныя з дударствам на Глыбоччыне, магчымасці няма, то даводзіцца весці планавую працу па іх рэканструкцыі. Да Другога міжнароднага фэсту дударскіх рэгіёнаў “Дударскі рэй” была зробленая рэпліка дуды з паштоўкі “Беларускі дудар”. Інструмент на ўзор адлюстраванай на паштоўцы дуды зрабіў майстар і дудар Сяргей Чубрык. Захаваўшы асноўныя рысы і формы дуды са старой выявы, Сяргей гарманічна ўвёў таксама ўласныя, аздобныя элементы. На замежных дударскіх фэстах адмыслоўцы і дудары беспамылкова заўважаюць падабенства рэплікі дуды з арыгінальнай выявай.




Dudar Bielaruski (Wilen. hub Dzisien pawietu)
Дудар Беларускі (Вилен. губ. Дзисен. павету)

**Найлепшыя прывітанні з Глыбокага, дзе я ўдзельнічаю ў міжнародным фэсце дударскіх рэгіёнаў - ДУДАРСКІ РЭЙ.**
Best greetings from Hlybokaje, where I am participating in an international festival of bagpipe regions - DUDARSKI REJ.



Трупа Буйніцкага пасля выступлення ў Спорцінг-Палацы. Фота 1912 г.

**Важна рэй Ігнат Буйніцкі**
**Ў танцах нашых водзіць,**
**Аж здаецца – усё чыста**
**Хадыром з ім ходзіць.**

**Пад дуду і пад цымбалы**
**Топне, прыспявае...**
**Сцеражыцеся, ўсе людзі:**
**Беларус гуляе!**
(Фрагмент верша Янкі Купалы, 1911)



**Рэпліка дуды з паштоўкі “Беларускі дудар”. Майстар Сяргей Чубрык**

Наперадзе нас чакае праца па вырабе адразу некалькіх копій глыбоцкай дуды з вёскі Верацеі (колішняя Празароцкая воласць Дзісенскага павета Віленскай губерні), што ў палове дарогі паміж Паловіцай і Лужкамі, адкуль таксама паходзяць звесткі пра бытаванне дуды на Глыбоччыне (глядзіце карту „Дударская Глыбоччына”). Дуда гэтая захоўваецца ў Нацыянальным музеі Літвы ў Вільні, дзе датуецца 1849 годам, а гэта азначае, што яна старэйшая за лепельскую (1877), якая лічылася найстарэйшай, ажно на 28 гадоў! Тут трэба заўважыць, што вызначэнне дакладнай даты стварэння дуды з’яўляецца справай даволі праблематычнай і вымагае асобнага тлумачэння.




**Вёска Верацеі (Werecieje)**

Пра лепельскую дуду можна прачытаць у часопісе “Дудар”. Зміцер Сасноўскі піша наступнае: *“Найстарэйшая захаваная беларуская дуда захоўваецца ў Лепельскім краязнаўчым музеі. Гэта прыклад аднабурдоннай беларускай дуды, уласцівай паўночнабеларускаму дударскаму рэгіёну. Апошняе месца*



**Глыбоцкая дуда з Верацеяў, датаваная 1849 годам**

*“Глыбоцкая дуда” (з вёскі Верацеі) па аналогіі з лепельскай дудой (з вёскі Верабкі).

*выкарыстання гэтай дуды – в. Верабкі Лепельскага раёна. Інструмент быў набыты ў 1877 г. у мясцовых плытагонаў. Апошні ўладар – Іван Міснік, які быў нашчадным дударом, таму ўвесь ягоны род – і дзяды, і сыны – мелі мянушку «Дуда». Інструмент быў здадзены ў Лепельскі музей пасля смерці Івана Місніка ў 1968 г. Паводле інфармацыі Уладзіміра Місніка (унука дудара Івана Місніка), дзед граў на вяселлях і хрэсьбінах. Пішчыкі былі выраблены з чароту і захаваліся дагэтуль у працоўным стане”*. На прыкладзе лепельскай дуды бачна, што вызначыць, колькі гадоў інструменту, немагчыма. Адзінае, што можа занатаваць музей пры паступленні экспаната, – хто быў апошнім вядомым уласнікам і калі займеў інструмент. Радавод гэтай дуды сягае да 1877 года, калі інструмент быў набыты ў плытагонаў Днепра-Дзвінскага канала. Дарэчы, гэта азначае, што дуда зусім не абавязкова выробленая на Лепельшчыне. Улічваючы спецыфіку плытагонства, маем хутчэй за ўсё зусім іншае паходжанне інструмента...



**Лепельская дуда з Верабкоў, датуецца 1877 годам**

Глыбоцкая ж дуда была вядомая дударскаму асяроддзю і раней. Дудар і майстар Тодар Кашкурэвіч піша пра яе наступнае: “Некаторыя з сучасных дудароў маюць жаданне выкарыстоўваць экзатычны кшталт мяшка – поўсцю навонкі, надаючы інструменту нібыта старажытны выгляд! На жаль ці на шчасце, але мы маем толькі адзін факт існавання такога інструмента, які таксама знаходзіцца ў Віленскім гістарычным музеі. Пры гэтым мяшок тут зроблены з барсука”. У гэтым каментары бачная непрыхаваная прадузятасць да канкрэтнага інструмента, нягледзячы на тое, што самім жа аўтарам у іншых тэкстах адзначаецца наяўнасць прыкладаў інструментаў, зробленых у такой традыцыі. У кнізе “Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX–XX стст.” Зміцер Сасноўскі сцвярджае: *“Доўгі час лічылася, што гэтай традыцыі на Беларусі не было, але падчас экспедыцый Т. Кашкурэвіча і А. Ләся ў 1990-х гадах было зафіксавана паведамленне пра*

*беларускую дуду футрам звонку і з чэрапам казы, прымацаваным над жалейкай"*. Мяхі поўсцю навонкі стандартныя для шмат якіх іншых еўрапейскіх традыцый (Славакія, Польшча, Чэхія і інш.). Яшчэ адной прычынай нелюбові да гэтай дуды можа выступаць яе знаходжанне ў Вільні, што не зусім упісваецца ў наратыў пра беларуска-літоўскую дуду, асноўным апалагетам якой якраз і з'яўляецца Тодар Кашкурэвіч.

DRUVIS

ALMANACH CENTRU ETNAKASMALOGIJI



№2 2008



ЗМЕСТ



**Артыкул Тодара Кашкурэвіча "Літоўская дуда. Інструмент-міф" у часопісе «Druvis»**

Рэч у тым, што савецкія, пазней літоўскія, а следам за імі і некаторыя беларускія даследчыкі пісалі пра дуду з такім футрам як пра "лабанорскую" (Labanora duda, ад мястэчка Лабанора ў Свянцянскім раёне). *"На думку даследчыка беларускай дударскай традыцыі Тодара Кашкурэвіча, дуды паўночнабеларускага, усходнелітоўскага і латгальскага рэгіёнаў утвараюць адзін дударскі абшар, які вызначаецца агульнасцю ў канструкцыі гэтага інструмента"*. Магчыма, што звесткі пра глыбоцкую дуду замест „лабанорскай" не знаходзілі месца ў штучна сфармаванай і актыўна падтрымліванай Кашкурэвічам тэорыі пра балцкія карані беларусаў.




**Глыбоцкая дуда на паштовай марцы "Літоўскія народныя інструменты"**




**Паштовая марка "Беларускія народныя інструменты"**



**У “Вялікай Савецкай энцыклапедыі” тэрмін “Лабанора дуда” праілюстраваны глыбоцкай дудой**

Гістарычную падмену заўважае даследчык беларускай музычнай культуры Зміцер Сасноўскі: *„З-за таго што Дзісеншчына ў пачатку XX ст. уваходзіла ў склад Віленскай губерні, а Віленскі край пазней трапіў у склад Літоўскай рэспублікі, савецкія даследчыкі пачалі адносіць дуды гэтага раёна да традыцыі літоўскага народа. Напрыклад, дуду з былога Дзісенскага павета Віленскай губерні «Атлас музыкальных инструментов народов СССР» адносіць да Літоўскай ССР. Аналагічны лёс напаткаў і іншыя інструменты, якія зараз захоўваюцца ў літоўскіх музеях*[*]”. Як яшчэ можна патлумачыць тое, што ў наш час такі стары інструмент захоўваецца ў запасным фондзе, а не экспануецца наведвальнікам? Ці не стала перашкодай у першую чаргу яго метрыка? Як бачна з друкаваных крыніц, звесткі пра глыбоцкую дуду з'явіліся адносна позна, і ў даследчыкаў, відаць, не было жадання перапісваць ужо сфармаваную і апублікаваную ў многіх выданнях інфармацыю пра лепельскую дуду. Гэтаму перашкаджала таксама спроба тыпалагізацыі канструкцыі “беларуска-літоўскай” дуды, якая ўлічвала толькі сучасныя геаграфічныя межы і цалкам ігнаравалаэтнаграфічна-гістарычныя аспекты. Такое немастацкае жаданне штучнай стандартызацыі ў эпоху адраджэння традыцыі нацыянальнай дуды і прыватныя інтарэсы ў беларускім дударскім руху, верагодна, і прывялі да таго, што лепельская дуда паўсюль фігуруе ў якасці найстарэйшай, а глыбоцкая замацавана як “лабанорская”.

Афіцыйны і засведчаны радавод глыбоцкай дуды бярэ пачатак з 1849 года. Такой датай пазначана стварэнне інструмента. Дуда была выраблена за 80 гадоў да паступлення ў этнаграфічны музей Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні (1929 г.). Глыбоцкая дуда паступіла ў музей на 39 гадоў раней за лепельскую, а ейны радавод больш старажытны на 29 гадоў. Гаворка пра тое, што засведчана ў дакументах і музейнай інфармацыі датычна двух канкрэтных інструментаў. Можна сцвярджаць, што лепельская дуда была выраблена яшчэ раней за глыбоцкую, але даказаць гэта на сёння немагчыма, хіба што шляхам дарагіх лабараторных даследаванняў дрэва або скуры дуды. Калі ўлічваць акадэмічны падыход, то галоўным і адзіным параметрам тут з'яўляецца музейнае датаванне. Няўзброеным

[*] Сасноўскі З. Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX–XX стст. С. 181.

вокам бачна, што глыбоцкая дуда нашмат старэйшая. Некаторыя часткі дуды, такія як сапель, парахнеюць ужо праз некалькі гадоў актыўнага ўжывання. Калі б лепельская дуда была старэйшай за глыбоцкую і выкарыстоўвалася плытагонамі ў вільготных умовах, то даўно б ужо спарахнела. А інструмент выдатна захаваўся. Наогул, у розных музеях захавалася каля 20 беларускіх дуд, і многія з іх застаюцца без дакладнага датавання. Можна меркаваць, што адным інструментам пашанцавала больш, другім менш. Аднак сярод іх ёсць тыя, што маюць на сёння дакладнае датаванне. Найстарэйшай даводзіцца лічыць менавіта глыбоцкую (верацейскую) дуду.

Адметнасць нашай дуды на фоне іншых інструментаў у тым, што мех для яе пашыты са скуры барсука. Гэта робіць глыбоцкую дуду ўнікальнай у кантэксце агульнабеларускай дударскай традыцыі. Пра тое, што мех для дуды робіцца са скуры барсука, цяляці ці казляняці, пісаў яшчэ М. Нікіфароўскі. Што цікава, хоць барсук сустракаецца на ўсёй тэрыторыі Беларусі, аднак месца ягонага пашырэння амаль дакладна супадае з картай пашырэння дуды... Дуда выдатна захавалася. Не хапае толькі пішчыка жалейкі (унутранага элемента, дзе нараджаецца гук дуды). Інструмент знаходзіцца ў запасным фондзе Нацыянальнага музея Літвы, а дакладней у яго этнаграфічнай частцы. Да вайны Вільня была важным культурным цэнтрам Беларусі, таму не дзіва, што там захавалася некалькі істотных для беларускай музычнай спадчыны інструментаў. Глыбоцкая дуда, на жаль, не выстаўляецца ў сталай экспазіцыі і захоўваецца ў спецыяльным сховішчы разам з некалькімі іншымі беларускімі дудамі. Вымярэнне дуды і якасныя выявы былі зробленыя аўтарам гэтай кнігі ў лістападзе 2018 года з мэтай вырабу дакладнай копіі інструмента, над якім у гэты час паралельна працуюць некалькі майстроў-дудароў. Адзін з гэтых майстроў – глыбачанін Дзмітры Дзёмін, родны ўнук паэта Алеся Дубровіча, бюст якому ўстаноўлены на Алеі славутых землякоў. Дзмітры Дзёмін, удзельнік двух папярэдніх фэстаў “Дударскі рэй”, абяцаў прэзентаваць копію верацейскай дуды ў фонд Глыбоцкага гісторыка-краязнаўчага музея. Сімвалічна, што адноўлены на падставе музейнага экспаната інструмент будзе выкананы рукамі нашага земляка.

Інструмент выглядае, магчыма, не так выкшталцона, як іншыя з захаваных, але мае надта рамантычны антураж. Гэта якраз і можа быць прычынай, чаму абазнаныя людзі быццам наўмысна адсунулі інфармацыю пра яе на задворкі дударскага дыскурсу.

Ну а мы, глыбачане, абавязаныя вярнуць памяць пра найстарэйшую беларускую дуду, бо дзякуючы іншым звесткам і артэфактам наш край пацвярджае свой статус найбольш дударскага рэгіёна Беларусі. Тымчасам, на заказ аўтара гэтай кнігі, сваю копію дуды зрабіў майстар Сяргей Чубрык.



**Копія глыбоцкай дуды з Верацеяў. Майстар Сяргей Чубрык**

# Дудар-пясняр

У вершы Адама Міцкевіча “Дудар” (“Dudarz”), дзе расказваецца пра вандроўнага дзеда-музыканта, не зусім зразумела, гаворка ідзе пра дудара, лірніка ці гусляра. Дудар тут хутчэй выступае зборным сімвалам вандроўнага музыкі. Яшчэ з сярэдніх вякоў “у рэпертуар вандроўных музыкаў уваходзілі: скамарошыя дзеі – сатырычныя камічныя сцэны, часта востра палітычнага зместу на актуальныя тэмы, жартоўныя гульні й танцы, і арыгінальныя валачобныя й дударскія песні, гумарыстычныя, іншы раз нават і няпрыстойнага зместу. Прафесія валачобных музыкаў была настолькі распаўсюджаная і шырокая, што яны не толькі існавалі ў народнай масе, а траплялі часта й на княжыя двары, дзе гэткія музыкі былі пажаданымі гасцьмі*”.

Дудар часцяком выступаў як сімвал бая-вешчуна. Слова “дудар” мае значна шырэйшае значэнне, чым проста акрэсленне музыканта. Пра гэта сведчыць і вядомая прыказка: “І касец, і жнец, і на дудзе ігрэц”. Апрача заняткаў чараўніцтвам і рознымі рамёствамі, дудар мог быць яшчэ і песняром. Псеўданім Дудар абіралі сабе многія беларускія пісьменнікі і паэты, дударамі называлі адзін аднаго ў сваіх вершах-прысвячэннях. Алесь Дудар (сапраўднае імя Аляксандр Дайлідовіч) выкарыстоўваў, дарэчы, яшчэ адзін псеўданім – Тодар Глыбоцкі. Паэта хутчэй за ўсё нічога не звязвала з Глыбокім, але канатацыя псеўданіма відавочна звязаная з гэтым горадам, а не з прыметнікамі “глыбокі, глыбінны”. Дударамі сябе называлі амаль усе беларускія пісьменнікі XIX ст. На пачатку XX ст. дудой працягвалі цікавіцца многія вялікія беларускія творцы.



**Дудары Стахван Шахавец і Фёдар Ціханавец разам з пісьменнікамі-маладнякоўцамі. 1920-я гг.**

Дудой захапляўся і наш знакаміты зямляк Вацлаў Ластоўскі, бюст якому ўстаноўлены на Алеі славутых землякоў. Вацлаў Ластоўскі быў першым, хто ў сваёй фундаментальнай для беларускай літаратуры працы «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» напісаў пра згаданую ўжо камедыю Каятана Марашэўскага. Аўтар піша пра п’есу наступнае:

*Кулікові ч М. Беларуская музыка. Нью-Ёрк, 1953.

— 628 —

Аўтор камэдзіі ня толькі ведае добра народную мову і характар народу, але знае також быт і забавы. З гэтай стараны цікава сцэна с „Pokutujęcym" які палічыў дуду за нейкую дзіўную гáдзіну.

*Chłop.* Czaho, wasza, baissia, ci nie znaisz, szto heta iość.

*Pokut.* Nie wiem.

*Chłop.* Heto nie hadzina, heto duda ruskaia. Na niey možno ihrać! (Пакутнік ня верыць і недапускае каб яе можна было ў рукі ўзяць. Селянін бярэ яе і іграе). Iak twoy durny um, tak baissia, nia musiu ty być z naszymi braćmi u karczmie, a my kali zbiaremsia do karczmy, mała jeje nierazwalim ad huku tolka dud naszych.

У канцы Камэдзіі селянін выказуе галоўную мысьль твору і некалькі навучаючых сэнтэнцій. Ен жалее, што слухаў тых, каторыя вучылі яго благога.

... katoryje kazali, kab ja byu niawiernym Panu, katoryje akraść Pana za hrech nia mieli, katoryje pry małądźbie kolka razy pa kolka czwiortak u karczmu nasili sa mnoy razam na harełku..., katoryje jak Panom adkazać, z winy wykrucitca uczyli. Praklatajo toja tawarystwa! praklataja z szelmami žyćcio... Nikalib ja hetak nieszczaśliwy nia byu ba, kab z tymi nie tawaryszyu, katoryja z djabłami žywuć... Ach, biedasz maja bieda! Bieražycie sia, Mužyczki, bieražycie sia, ja was aścierahaju, nie ruhaycie ani na Boha, ani na Adama, ale na siabie, my horszy jaszczo, jak Adam; y jon prauda zahraszyu, ale raz tolka pakutuwau. A my dzień u dzień hraszym y pakutuwać nia choczym! heto to pryczyna naszoy zhuby, heta u piekła nas wiadzieć...

Гэткім чынам школьная інтэрмэдзія, чэрпаючы матэр'ял з народнага жыцьця, з сялянскімі тыпамі, памалу разьвілася ў запраўдную камэдзію.

Сам Вацлаў Ластоўскі таксама ўклаў аўтарскую цаглінку ў фундамент тэкстаў з сімволікай дуды. Пад псеўданімам Власт ён пераказаў і адаптаваў пад беларускую рэчаіснасць невымоўнай прыгажосці апавяданне (накід аповесці) польскага пісьменніка Казіміра Пшэрвы-Тэтмаера "O Zwyrtale Muzykancie". Калі ў Пшэрвы-Тэтмаера гаворка пра скрыпача, то ў пераказе Ластоўскага скрыпач падменены дударом, што сведчыць пра выдатнае разуменне Ластоўскім мясцовай культурна-літаратурнай і музычнай традыцыі. У нашай рэчаіснасці ролю інструмента-сімвала, інструмента-архетыпа нашмат лепш выконвае менавіта беларуская дуда.

У гэтым апавяданні дудар пасля смерці ідзе на неба, грае там перад самім Богам "Цяцерку". Пасля гэтага яму дазваляецца вярнуцца ў родную Барысаўшчыну, паколькі св. Пётра занепакоены тым, што анёлы ў небе ўсё больш ахвотна спяваюць свецкія песні. Самае цікавае, што перавыданне гэтага пераказу было апублікавана ў Мюнхене ў 1957 г. у выдавецтве "Бацькаўшчына". Апрача самога тэксту, яно цікавае трыма цудоўным ілюстрацыямі Міхася Наўмовіча і (або) Пётра Сыча, "якія выканалі значную частку ілюстрацый для паасобных казак". Інфармацыя пра гэтыя ілюстрацыі была ўпершыню апублікаваная ў выданні "Дударская Глыбоччына" ў 2017 г. На адным з гэтых чароўных малюнкаў Янка

Дудар спускаецца ў родную пушчу на Барысаўшчыне (Барысаўшчына як частка Паазер'я) па птушыным шляху. Што важна, на малюнках правільна адлюстраваная будова беларускай дуды з адным гукам.

Але перад тым як поўнасцю падаць тэкст апавядання-пераказу Вацлава Ластоўскага з ілюстрацыямі з мюнхенскага выдання (арыгінал можна паглядзець у глыбоцкай бібліятэцы), згадаем тут гісторыю, дзе ўсё адбывалася наадварот, нібы люстраны адбітак. У 1931–32 гг., калі Глыбокае было ў межах Польшчы (Rzeczpospolita Polska, 1918–1939), у горадзе выходзіў краязнаўча-паляўніча-літаратурны часопіс "Ziemia Dziśnieńska" ("Дзісенскі край"). Часопіс спачатку быў месячнікам, пасля выдаваўся раз на два месяцы. Рэдакцыя месцілася ў Глыбокім, па вуліцы Варшаўскай, 110. Друкавалі таксама ў Глыбокім, на Пляцы 3 мая, 8.



Ziemia Dziśnieńska

DWUMIESIĘCZNIK

KRAJOZNAWCZO-ŁOWIECKO-LITERACKI

POD REDAKCJĄ JÓZEFA DROZDOWICZA UCZ. KL. VIII.

Rok II. Wrzesień—Październik 1931 r. Nr. 1.

Часопіс выдавалі па-польску. Гэта было выданне краязнаўчага гуртка пры гімназіі імя Люблінскай уніі. Вытрыманы ў патрыятычна польскіх тонах, апрача трохі наіўнай творчасці навучэнцаў гімназіі, часопіс змяшчаў таксама шматлікія мясцовыя легенды, сабраныя старэйшымі вучнямі. Тэксты гэтыя часцяком напоўненыя цытатамі на беларускай мове і на мясцовай гаворцы. Цікава, што галоўным рэдактарам і адным з найбольш таленавітых аўтараў быў вучань VII/VIII класаў і поўны цёзка Язэпа Драздовіча (Юзэф Дроздовіч), сын уладальніка фальварка Асонавічы каля вёскі Грабучае Порплііскай гміны.

Адным з самых цікавых з пункту дударскіхдаследаванняўтэкстаўстала легенда "Воўчая яма" ("Wilczy Dół"), запісаная Юльянам Дзмітровічам. Сувязь з дудой не наўпроставая, але надзвычай цікавая і нечаканая. У легендзе, якую пераказвае вучань гімназіі, гаворка вядзецца пра засценак Жалюбычкі, што пры дарозе з вёскі Верацеі ў Порплішча. Легенда апавядае пра музыканта, верацейскага скрыпача, які трапляе ў яму з ваўком і, каб захаваць жыццё, вымушаны граць яму да самай раніцы на скрыпцы, пакуль па ваўка не прыходзіць паляўнічы.

Здавалася б, якое дачыненне да дударскай тэмы мае гэтае апавяданне... Лёс так склаўся, што я чытаў паралельна легенду пра воўчую яму з-пад Верацеяў і кнігу дудара і

*Гаворка не пра Верацеі непадалёк ад Лужкоў, адкуль паходзіць "Глыбоцкая дуда" 1849 года, а пра Верацеі каля вёскі Літоўцы, тэрыторыя, дзе адбываюцца дзеянні трылогіі Кастуся Акулы „Гараватка", пра якую пойдзе яшчэ асобная гаворка.

легендарнага даследчыка чэшскіх дуд Ёсэфа Рэжнага. Якім жа было маё здзіўленне, калі натрапіў на тую самую байку, толькі з дударом у галоўнай ролі. У чэшскай версіі гісторыю апавядае Хэлена Каданёва (нар. 1934 г.), з вёскі Каленіцэ, што ў паўднёвай Чэхіі, а адносіцца апавяданне да яе продка, які быў дударом. *"Тата помніў, што яму бацька апавядаў, як ягоны прадзед, а можа, і прапрадзед хадзіў іграць на дудзе... (на вяселле)"*. Даследчык Ёсэф Рэжны даведаўся, што ваўчыныя ямы ў ваколіцы капалі да паловы XVIII ст. Аўтар кнігі знайшоў у архівах інфармацыю пра дудара, які мог быць вясельным музыкантам, жыць у той час у гэтай мясцовасці і зваліцца ў яму.



**Чэшскі дудар Вацлаў Глава з Муракова (1833–1911)**

Гэтым дударом быў Матоўш Грабачэк, народжаны каля 1715 г., яго ўнук Марцін (1786 г. н.) быў дзедам Яна Грабачка (1868 г. н.), а яго сын Францішэк (1904 г. н.) быў бацькам Хэлены Каданёвай, якая і расказала гэтую гісторыю. Можна толькі пазайздросціць чэхам: захаванасці метрык нараджэння і інфармацыі, якую ў іх можна знайсці. Саму гэтую гісторыю чэшскі даследчык знаходзіў у двух іншых апавядальнікаў. Кожны раз яна была пададзена з невялікімі змяненнямі. У адной версіі дудар пачынае карміць ваўкоў "коблігамі" (від чэшскай булкі), а ўжо пасля граць на дудзе, а ў іншай дудар трапляе ў яму з чатырма ваўкамі, і яго, як і ў верацейскай версіі, выратоўвае паляўнічы. Дакладнасць звестак можа сведчыць пра тое, што гісторыя аўтэнтычная. Іншы варыянт – абедзве гісторыі сапраўдныя, а іх падабенства – гэта цудоўнае супадзенне. Аднак супраць апошняга сведчыць тое, што гісторыю гэтую я знайшоў яшчэ і ў польскім друку (таксама са скрыпачом) таго часу. Можна таксама меркаваць, што матыў быў вельмі пашыраны, таму і сустракаўся ў розных народаў у форме казкі-байкі, і гэта самы імаверны варыянт. Юльян Дзмітровіч, які паходзіў з Жалюбчыкаў Порплішкай гміны, мог запазычыць гісторыю з польскай версіі. Але супраць гэтага сведчыць размова, пераказаная мне мясцовым краязнаўцам Кастусём Шыталем, які меў нагоду быць знаёмым і размаўляць з братам пераказчыка верацейскай версіі легенды, Уладзімірам Дзмітровічам. Той сцвярджаў, што гісторыя аўтэнтычная

і нават паказваў месца, дзе была гэтая яма. Больш за тое, называў прозвішча скрыпача, які трапіў у складаныя абставіны, – Чабрэўскі, і год, калі гэта адбылося. Ніжэй кароткі ўспамін Кастуся Шыталя пра тую размову, напісаны адмыслова для гэтай кнігі:

“Гэта размова была ў 2004 годзе. Пазнаёміўсяязімтак.Вясной2004года мы з прыяцелем (я тады быў вучнем 8-га класа, а ён – 6-га) паехалі шукаць курганны могільнік каля вёскі Казлы. Могільнік не знайшлі, бо яшчэ пры Саветах яго зраўнялі з зямлёй. Тады мы дацягнуліся з роварамі да хутара, што быў наперадзе. Я ведаў, што гэта Жалюбчыкі. Сустрэлі там дваіх старых жыхароў – Уладзіміра Дзмітровіча, 1918 г. н., і ягоную жонку, 1916 г. н. Уладзімір нам шмат чаго расказаў, я яшчэ раз ці два да яго прыязджаў, каб распытаць пра ягоныя ўспаміны. Я запытаў у Уладзіміра Дзмітровіча пра Воўчую яму (а якраз у 2003 пераклад легенды быў надрукаваны ў «Вольным Глыбокім»). Дык ён казаў, што такое здарэнне сапраўды было, і паказаў месца каля засценка, дзе была гэтая Воўчая яма, і прыгадаў нават імя таго скрыпача. Па яго словах, гэта нібыта было ў 1918 годзе. Ну і ён сказаў таксама, што ягоны брат вучыўся ў Глыбокім у гімназіі, і апісаў выпадак у гімназічным часопісе”.

Гэтае сведчанне цікавае не столькі з пункту гледжання аўтэнтычнасці гісторыі, колькі праблематыкі легенд і тэорыі іх паўставання і функцыянавання. Бывала, што сапраўдныя гісторыі клаліся ў аснову легенды.Часамгісторыібыліпоўнасцю выдуманыя або мяшаныя. А здаралася таксама, што выдуманыя гісторыі з часам станавіліся рэальнасцю: пераказчыкі пачыналі дадаваць у легенду сапраўдныя здарэнні або пачынаць верыць у першапачаткова выдуманую небыліцу. Так ці інакш, гісторыя пра воўчую яму нашмат больш аўтэнтычная менавіта з дударом, а не са скрыпачом. Па-першае, воўк як жывёла сімвалічна звязаная з гэтым інструментам. Воўк – гэта адна з зааморфных постацяў бога Велеса (Воласа), бога падземнага свету, які ў сваю чаргу этымалагічна звязаны з рускай назвай дуды – “волынка”. Магчыма, што дудар выступае ў якасці Перуна* – галоўнага антаганіста Велеса, тут у постаці ваўка. Дуда вые як воўк у вершы жыдоўскага паэта Мойшэ Кульбака (1896–1937) “Дуда” (“Песня-жальба з старой Беларусі”).

Воўк сустракаецца і ў іншых чэшскіх легендах пра дудара. Напрыклад, калі дудар уцякае ад двух ваўкоў на дрэва (казка, пачутая апавядальнікам Ёсэфа Рэжнага ад нямецкіх дрывасекаў у 1938 г). Дуда таксама больш адпавядае рэчаіснасці апавядання, чым скрыпка. Уявіць, што скрыпач падае са скрыпкай (без футляра) у яму і пасля гэтага скрыпка працягвае граць, проста немагчыма. Скрыпка – інструмент занадта далікатны, каб перанесці нават лёгкае падзенне. Што ўжо казаць пра апісанне таго, як у вільготны асенні час, калі дзень ужо

* Выступаючы ў ролі забойцы казы (казла) – сімвала бога прадоння, хтанічнага свету (бел. Вялес, літ. Velnias, лат. Vels), дудар можа разумецца як грымотнік (бел. Пярун, літ. Perkūnas, лат. Perkons). Неабходна ўлічваць беларускую дыялектную форму – дунда́р ‘гром, пярун’ (Кашкурэвіч Т. Dudar. № 1. 2012. С. 30).

кароткі, скрыпач амаль упоцемках вяртаецца дадому і паігрывае сабе на скрыпцы. Амаль нерэальна. Дуда ж гэта фактычна кій, інструмент, які ў крайнім выпадку, што пэўна часцяком і здаралася, можна было выкарыстаць для абароны або нападзення. Еўдакім Раманаў пісаў пра тое, як аднаго героя батлейкі пабілі: “пастух трубой, музыкант дудой”. У меху ад дуды часта пасля грання застаецца трохі паветра, што пры раптоўным націсканні можа даваць піск, які здольны напалохаць жывёлу, а таксама служыць падказкай для дудара, як ратавацца ў такой сітуацыі. Іншы, сімвалічны, факт – гэта прывязка легенды да мясцовасці Верацеі, каля Крулеўшчыны. Верацеі – гэта месца нараджэння пісьменніка Кастуся Акулы і магчымае месца дзеяння трылогіі “Гараватка”, на старонках якой паўсюль гучыць дуда. Прычым дуда ў трылогіі геаграфічна звязаная часткова з рэальнымі, а часткова з выдуманымі ваколіцамі. Вельмі імаверна, што верацейская легенда пра воўчую яму першапачаткова існавала ў версіі з дударом. Магчыма, дзве версіі існавалі паралельна. Не выключана таксама, што легенда не прайшла б у польскамоўны, патрыятычны часопіс у версіі з дудой – як з інструментам у гэтым геаграфічным кантэксце чыста беларускім. Дарэчы, у польскім друку таго часу амаль няма згадак, з рэдкімі выключэннямі, пра дзейнасць трупы Ігната Буйніцкага, якая з размахам гастралявала ў Пецярбургу, Вільні і Варшаве. Пры ўсёй скрупулёзнасці польскіх хронік розных перыядаў творчасць беларускай тэатральнай суполкі, у якой быў дудар, збольшага ігнаравалася, а магчыма, замоўчвалася. Кіруючыся этнаграфічна-мастацкімі меркаваннямі і тым, што верацейская легенда ўжо выходзіла ў арыгінале і ў перакладзе на беларускую мову, напэўна, варта паспрабаваць падаць яе ў адмысловым прачытанні-пераказе, увёўшы або вярнуўшы ў гэтую гісторыю верацейскага дудара...



Stanisław hr. Mycielski z żoną i cenną zdobyczą na polowaniu w Woropajewie.

**Крыніца: Łowiec Polski, 1933, Nr. 33. З блога Кастуся Шыталя**

# Воўчая яма

За паўкіламетра ад засценка Жалюбычкі, што пры дарозе, якая вядзе з вёскі Верацеі ў Порплішча, ёсць яма (цяпер засыпаная камянямі і зарослая). Сярод тутэйшых жыхароў пра гэтую яміну ходзіць байка. У гэтай яме аднойчы давялося разам начаваць "дудару і ваўку" – так апавядаюць старажылы. Было гэта даўно, калі яшчэ ўсе палі былі парослыя лесам, а ў лясах было поўна жывёл. Там, дзе сёння сляды ямы, была разлеглая пожня. Праз гэтую палянку праходзіла "ваўчыная сцежка", па-мясцоваму "перабежка" з аднаго лесу ў іншы.

У той час падчас палявання на дзікага звера агнястрэльная зброя ўжывалася рэдка. Замест таго рабіліся самыя простыя пасткі. Адзін ляснік не хацеў марнаваць порах і выкапаў яміну, каб злавіць жывога ваўка. Аднаго разу, восенню, з Порплішча ў сваю вёску Верацеі вяртаўся дудар. Ішоў і дудзеў сабе на дудзе. Калі падышоў да воўчай ямы, пачуў скавытанне сабакі. Перастаў граць і пайшоў у напрамку таго скавытання. Адно, што гэта быў не сабака, а воўк і, калі пачуў, што нехта набліжаецца, тут жа выць перастаў. Трохі падхмелены дудар ужо вяртаўся да дарогі, але, хістаючыся з боку на бок, спатыкнуўся і ўваліўся ў яміну, а падаючы, паспеў яшчэ трэснуць ваўку па галаве ражком ад дуды.

Агледзеўшыся, дудар пачаў ужо выкарасквацца з ямы, але, як толькі паклаў дуду на бераг і схапіўся за куст, раззлаваны воўк схапіў музыку за галіфэ і не даў яму вылезці. Дудар узяў дуду і трэснуў ваўку па галаве яшчэ раз, ажно мех ад дуды запішчаў, а воўк з перапуду адчапіўся ад штаніны. Тут перапалоханы дудар зразумеў, што, каб выратавацца, трэба дудзець у дуду. Не менш перапалоханы ўсім гэтым воўк тут жа сеў насупраць і пачаў завываць разам з дудой.

Калі дудар ужо зайграў усе свае найгрышы, каторыя толькі ведаў, і перавёў увесь дух, то спыніўся і адклаў дуду ўбок. У той жа момант азвярэлы воўк ізноў кінуўся з зубамі на дудара. Хоцькі-няхоцькі прыйшлося хапацца за дуду і граць, каб працягваць забаўляць ваўка. А той сеў побач і пачаў завываць разам з дудою. Калі стомлены дудар спыніўся, то ўся гісторыя паўтарылася. Так дудар даваў канцэрт да раніцы.

Раніцай па сваю здабычу прыйшоў ляснік. Быў здзіўлены, калі, апрача ваўка, убачыў у яміне яшчэ і дудара. Калі падаў яму руку, каб выцягнуць яго адтуль, воўк ізноў схапіў дудара зубамі, і музыка ізноў мусіў задудзець на сваёй дудзе. Калі воўк прысеў, каб, як раней, завываць пад музыку, ляснік закінуў яму на шыю пятлю і выцягнуў наверх. Такім чынам скончылася ўся прыгода-мітрэнга. Ляснік уратаваў музыку і ўпаляваў воўчую скуру. Дудар надоўга запомніў начную ідылію ў кампаніі з ваўком, а людзі дасюль баяць: „Я вам раскажу праўдзівую басню пра воўчую яму, а вы сабе верце ці не верце, мне ўсё роўна".



Ніжэй, як і абяцалася, прыводзіцца поўны тэкст апавядання Вацлава Ластоўскага "Дудар".

## Дудар

***Вацлаў Ластоўскі***

Памёр стары Дудар, вясковы музыка, і душа яго, узяўшы дуду за пазуху, пайшла ў неба.

Падышоў ён да неба – глядзіць: зачынена. "Ну, – думае, – спяць".

Сеў на калодачку каля брамы і чакае дня. Доўга сядзеў, і стала яму маркотна. Дастаў з-за пазухі дуду, папрабаваў пішчык і давай памаленьку іграць. Пярвей ціха, пасля ямчэй, а там і падпяваць пачаў.

Ажно чуе голас з-за брамы:

– Хто там?

"Мабыць, святы Пётра", – падумаў Дудар, але адказвае смела:

– Я!

– Хто – "я"?

– Дудар!

– Чаго глотку дзярэш?

– Саўсім не дзяру – пяю.

– Каб цябе... А чаму ж гэтак позна прыйшоў?

– Ніяк нельга было раней: памёр пад самы вечар.

– Пад вечар? – здзівіўся за брамай. – Дык на добры лад табе трэба было б яшчэ на палавіне дарогі быць.

– Ага, святы Пётра. Я дасужы – беларус, ведама.

– А адкуль ты? З-пад Барысава?

– З таго боку.

– А з якой вёскі?

– Дык хоць і скажу табе, ты ж усё роўна не ведаеш.

– Кажы, кажы, я ўсё ведаю.

Сказаў Дудар і вёску.

– Як тваё імя? – дапытваў далей голас.

– Янка.

– А па прозвішчы?

– Дудар.

– Ну, добра, Янка Дудар, пакуль развіднее, пасядзі каля брамы ды глядзі не гамані тут.

Стаў Дудар дня чакаць. Сядзеў, сядзеў, ізноў маркотна зрабілася, да таго ж перад раніцай холадам пацягнула, хоць гэта і летам было. Ізноў дастаў ён сваю дуду, чуць-чуць наігравае, каб за брамай не пачулі.

Зірк – а на частаколе нейкія галоўкі паказаліся – адна, другая, трэцяя... Анёльчыкі.

– Слухайце, слухайце, – кажа адзін, – вось хораша іграе!

Тут ужо Дудар не вытрымаў і пачаў іграць на ўвесь голас.

– Ах, як хораша! Вось хораша! І што гэта за музыка такая? – дзівуюцца анёльчыкі.

– Гэта барысаўская, – сказаў Дудар.

Раптам загрымелі ключы ў замку і адчынілася брама. У браме стаяў нябесны ключар, святы Пётра.

– Дудар!

– Чаго?

– Пойдзем!

А па небе ўжо разышлася погаласка, што прыйшоў музыка з Беларусі і дужа хораша іграе на дудзе. Дайшло гэта і да самога Бога, каторы, выйшаўшы з пакояў, сеў на ганку прахаладзіцца: за работу не браўся дзеля таго, што нядзеля была.

Не паспелі Дудару кватэры азначыць, як прыйшоў па яго анёл, толькі не такі, як папярэднія – маленькія, у белых кашульках, з белымі крыллечкамі, а вялікі, у сярэбранай адзежы.

– Янка Дудар! – сказаў пасланец.

– Што, паночку?..

– Праўда, што ты ўмееш іграць?

– Праўда!

– А пайграў бы?

– А чаму ж не пайграць! Перад кім?

– Перад Богам Святым!

Пачухаў Дудар патыліцу, ды нядоўга думаў. Барысавец быў, а ўсе барысаўцы – народ смелы.

– Пайграю, – кажа.

– Ну, дык пойдзем! – кажа анёл.

Пайшлі. Анёл спераду, Янка ззаду. Глядзіць, дзівуецца.

Абапал дарогі сярэбраныя хаты, а жывуць у іх святыя. У канцы вуліцы пабачылі самога Бога, каторы сядзеў на ганку і чакаў.

Дудар далікатненька пакланіўся – быў ён чалавек бывалы і ведаў, як дзе трэба захавацца. Бог кіўнуў галавой.

А кругом ужо сабраліся анёлы – малыя і вялікія, арханёлы ў залатых і сярэбраных адзежах, святыя і проста так справядлівыя душы - мужыкі і бабы. Народу цьма, яблыку недзе ўпасці, і ўсе хочуць паслухаць музыкі.

– Ну, Дудар, – сказаў Бог, – іграй!

А Дудар ізноў пакланіўся і кажа:

– Пакорна кланяюся вяльможнаму Пану Богу, і выбачайце, што я спытаю: ці няма тут на небе каго-небудзь з нашых, барысаўскіх, толькі каб з маладых?

– А нашто табе?

– Пад танцы іграць лаўчэй.

Усміхнуўся Бог і даў знак анёлам. Паляцела двое, але скора вярнуліся, кажуць:

– Знайшлі двох барысаўцаў, толькі дужа старых.

– Старыя няздатны, – сказаў Дудар, – не патрапяць станцаваць. Выбачайце, што спытаю: куды ж падзеліся маладыя? І маладыя ж іншы раз паміраюць.

А святы Юр'я на гэта кажа:

– Маладых трэба ў чысцы шукаць.

– А і праўда, – сказаў Дудар, – не йначай, як у чысцы. Пэўна, што ў

чысцы. На маёй памяці колькі таго народу перамерла: Мікіта Гарбуз – той, што ад гарэлкі задохся, Сцяпан Крук з Докшыц, катораму ў карчме лоб пашчапалі, Арцём Лыка з-пад Зембіна і Антось Прычэпка з-пад Дзядзілавіч – добрыя танцоры былі: прыбілі іх на ігрышчах.

Дудар доўга б яшчэ вылічаў памёршых маладымі барысаўцаў, але Бог кіўнуў рукой:

– Іграй!

– Якую?

– Якая лепшая. Вясёлую!

– Вясёлую, дык вясёлую...

Настроіў Дудар пішчыкі, надуў мех, заграў.

Добра ці дрэнна іграў ён, не памятаў гэтага, гэтак захваціла ў яго дух ад радасці, што годзен стаўся іграць перад самім Богам.

Толькі калі кончыў, бачыць – Бог ківаець галавой: здаволен. А анёлы і святыя, дык тыя не нахваляцца:

– Ах, як добра! Во дык добра!

І калі Бог пайшоў у свае пакоі, яны пачалі прасіць Дудара, каб яшчэ пайграў. Пасля папяяў. А музыка і рад гэтаму – іграе ды пяе так, што па ўсім небе гул раздаецца. Слухалі, слухалі справядліўцы, а пасля і самі пачалі падпяваць – спярша ў паўголаса, а пасля і ад Дудара не адстаюць:

*Ох ты, дудка мая,*
*ух-я!*
*Весялі ты мяне,*
*ух-я!*
*На чужой старане,*
*ух-я!*

Пяюць усім небам, падбіваючы ў далонькі. Праходзіць міма святы Язэп. Глядзіць, што за дзіва?! Заместа арханёла Гаўрылы, каторы навучаў справядлівыя душы нябесных спеваў, сядзіць на ўслоне Дудар з дудой, а каля яго душы – мужчынскія і жаноцкія – хорам адхватваюць свецкія песні.

– Матухна Ты Святая! – крыкнуў святы Язэп, схапіўшы за галаву, і пабег да святога Пётры.

А туды якраз прыходзіць і сам арханёл Гаўрыла, гэтаксама жаліцца.

– Так і так, – кажа. – Ніхто не хоча вучыцца нябесных спеваў, усе пяюць беларускую "дудку". Дудар вучыць. Што рабіць?

Выйшаў Пётра на вуліцу, прыслухаўся – праўда: па ўсім небе лунаюць беларускія песні.

– Гэтага нельга дазволіць, – кажа тады святы Пётра арханёлу Гаўрыле. – Ці не паклікаць нам сюды Дудара?

– Можна.

Ідзе Дудар, дуда пад пахай, пакланіўся.

– Дудар, – кажа святы Пётра, – а ці не лепей было б табе пайсці адгэтуль куды-небудзь у другое месца?

– З неба?

– Ну, ведама.

– А куды ж мне йсці?

– Хм, вось аб гэта ж – куды? – Святы Пётра задумаўся.

– Чаму ж вы хочаце, каб я адгэтуль пайшоў? Я ж нічога благога не зрабіў тут: не ўкраў, не скрыўдзіў...

– Ведаю, ведаю... Справа, братка, вось якая, на небе свецкія песні пачалі пяяць, – сам ты рассудзі – нягожа.

– Ну што ж, калі гэтак, то я пайду сабе.

– Толькі во бяда – куды цябе адправіць?.. А можа, дуду кінеш?

– Не, лепей я ўжо пайду адгэтуль.

– Куды пойдзеш?

– Я знайду сабе месца. Пайду туды, адкуль прыйшоў.

– У Барысаўшчыну?

– А то ж куды?

– А я думаў на якую-колечы звязду цябе паслаць.

– Нашто на звязду? Пайду ў Барысаўшчыну.

– Саўсім з раю?

– Э... што там рай? Наша Беларусь – гэта не неба. У Беларусі без песні нельга. Там людзі працуюць, а з песняй чалавеку ўсякае гора ў палавіну. Буду хадзіць са сваёй дудою па лясох і палёх. Будзе сядзець каля скаціны пастушок з жалейкай, нячутна падыду да яго і зайграю яму над вухам; пачне пяяць дзяўчынка, задумаўшыся над светлым руччом, навучу і яе, – няхай не заміраюць у Беларусі песні. Пойдуць мужы з тапарамі ў лес, я прытаюся за соснай і зайграю ім, каб спарней ішла ў іх работа. А не знайду людзей, буду слухаць, як шуміць цёмны бор, як бульчыць вада, пераліваючыся ў руччу, і падыграю ім. Эх, цяжка ў нашай старонцы, ды і добра ў ёй... Я яшчэ, як жыў, дык прасіў Бога, каб дазволіў мне па смерці ў Барысаўшчыне астацца. На ніякі рай не прамяняю яе.

– Ну, добра, калі так, ідзі сабе з Богам, – сказаў святы Пётра. – А то ты ўсё неба нам папсуеш. Толькі глядзі ж не крыўдуй!

– Якая тут крыўда?

Пакланіўся Дудар апосталу і выйшаў з райскіх варот на вялікую нябесную дарогу.

Была ноч. Стаў Дудар спускацца па птушынай дарозе ўніз. А калі пачуўся на волі, крыкнуў:

– Гэй, гэй! – і пачаў дуць з усёй моцы ў дуду.

І гэтак ішоў ён, усё ніжэй і ніжэй, спускаючыся ў барысаўскі бок, пакуль не схаваўся ў пушчы...

*[1920-я]*

Менавіта ў дудзе, а не ў скрыпцы ці іншым інструменце бачыў Вацлаў Ластоўскі беларускі дух. Невыпадкова, што самога Вацлава Ластоўскага таксама ўспрымалі як дудара. Янка Купала прысвяціў яму верш з назвай “Дудар”.

***Аўтару***
***“Беларускай Гісторыі” Власту***

На кургане на адвечным,
Пад асінай векавой,
Сеў дудар, сагнуўшы плечы,
З пасівелай галавой.

На дудзе, на самагудзе
(А дуда – як веча звон)
Духам кліч пускае ў людзі –
Песьня ў песьню, тон у тон.

Як жывая, рвецца песьня,
Лесам-пушчаю шуміць,
З забыцьця зьмятае плесьню,
Мох зь мінуўшчыны ляціць.

Сьлед за сьледам ройным роем
Цені даўнага кладуць...
Князь за князем, бой за боем,
Як сягоньня, ў ход ідуць.

Роднай Бацькаўшчыны долю,
Як у люстры, бачыш так.
Долю-волю у бязвольлі,
Што сышла, ідзе няўзнак.

Гоман-славу, чорнай хваляй
Што зьбіралі курганы,
Белы косьці, што гублялі
Беларускія сыны.

Што сабе кавалі путы,
Ў бітвах мручы за другіх…
Як бы модлы і пакуты
Ўсіх – і наскіх, і чужых.

І сягоньняшняй праявай
Звоніць шчасьце небарак,
Што са славаю за славу
І памерці няма як.

І у будучыну гляне
Думкай песьня дудара,
Зь непрывычным запытаньнем:
Ці прачнуцца не пара?!

Так даўно у нас ня й гралі,
Дзіў адно плыве і чар,
Штораз вышай, штораз далей, –
Знаць, бывалы ён дудар.

Старасьвецкі ён музыка,
Важна толк вядзе ў дудзе,
Важна доляю вялікай
І свабодаю гудзе.

На кургaнавым каберцы
Нечувалае чуваць,
Што ўсё можа толькі сэрца
Беларусава паняць.

*1910*

Верш гэты побач з іншымі ўнікальнымі выданнямі з'яўляецца часткай сталай выставы-экспазіцыі "Дуда мая ты спеўная". На гэтай выставе сабраныя літаратурныя і папулярна-навуковыя тэксты, прысвечаныя дудзе. Часткай калекцыі з'яўляюцца выданні не толькі на беларускай, але таксама на іншых мовах. Збор дапаўняюць аўдыязапісы дударскай музыкі, мастацкія творы, прысвечаныя дудзе, паштоўкі і іншыя ўнікаты. Сапраўдны скарб калекцыі – першае выданне верша Янкі Купалы ў зборніку «Шляхам жыцьця» (Пецярбург, 1913).

Верш "Дудар" не адзіны, які непарыўна звязвае Глыбоцкі край і яго ўраджэнцаў з дудой. Пры дапамозе крытыка Ціхана Чарнякевіча ўдалося знайсці таксама верш Янкі Пачопкі, паэта з Глыбоччыны (вёска Залессе). Упершыню твор быў надрукаваны ў 1913 г. у газеце "Наша Ніва" (№ 21). Інфармацыя пра публікацыю была часткай біяграфіі Янкі Пачопкі, але сам верш у інтэрнэце знайсці было немагчыма, таму ён дагэтуль заставаўся невядомым шырокай публіцы. «Дудар» – менавіта такую назву мае дэбютны твор нашага земляка і найлепшага сябра Язэпа Драздовіча.



**Янка Пачопка**



**Партрэт Янкі Пачопкі, зроблены Язэпам Драздовічам. Разьба па дрэве, 1933 г.**

## ДУДАР

*Ахвярую З. Русецкаму*

Гэй, дудар, чаго ты змоўчаў?
Мо жалееш ты грудзей,
Або песні свае скончыў
Ты, над-Дзвінскі салавей?
Дзмі крапчэй – узноў пальецца
Песня валам, ды не трусь
Што ад песні ўскалыхнецца,
Як ад грому, Беларусь!
Націскай мяшок скураны,
Пальцы шыбчэй ў ход пушчай!
Скінь жуду, ды будзь рахманы...
Што ж маўчыш, брат – пачынай!
Можа хочаш на падмогу
Ты к сабе мяне прыняць?
Я патраплю, дзякуй Богу,
Мог і добра я пяяць.
Як-са знаеш – тваё дзела,
Толькі пара быў бы я:
Я б за шчыгла пеў бы смела,
Ты з дудой за салаўя.
Ні шманай, паладзіш скора.
Голас чыст мой, як дуда,
Знаў ён слёзы, знаў і гора.
Товіст крыху – ўся бяда.
А мо на ліха й добра будзе:
Тонка ты, а я таўсцей.
Як калі прымерна ў лузе
Із зязюлькай салавей,
Гукнем ж дудар! Гэй, не трусі
Годзе моўчкам нам стаяць!
Час прыйшоў для Беларусі
Песні радасці пяяць!
Знаюць хай: за час спакою
Беларускі дух ўсё жыў
І маўчком ён сам з сабою
Песні гэтыя злажыў.
І злажыўшы звонка, стройна
Нам з табою стаў пяяць.
Гукнем-ж громка і спавольна
Стыду послі каб не знаць.
Панатужым свае грудзі –
Духу хваце, гэй, не трусь,
Хай жа знаіць свет і людзі,
Што пяець ім Беларусь!..
І пакажам мы што маем
Усе не пушчай ад людзей:
Як калісь-то шчаснай долі
Ні за морам ужо дзень:
Бачце – сцелецца па полі
Яго вогністы прамень.
Скора, скора запылаіць
Ён над роднаю зямлёй
І навекі развітаіць
Нас з прадвечнай цемнатой.
Замест слёз, пагарды мукі
І змагання з галатой,
Дасць нам свету і навукі
І багацтва і спакой.
Мову нашу, што гукаем
С песняй звонкаю сваей,
Талент к штукам і навуцы,
Прагнасць знання і любоў,
Да работы сілу ў руцэ,
Да барбы шалёну кроў.
Словам, маем ўсё, што трэба,
Ўсё даўным даўно Бог даў
Толькі ўсё, што дало неба
Чалавек сабе забраў.
У гэтым мала мы зрабілі,
Зрабіць болі было як?!
Калі нас усе душылі,
Хто мог пхаў у свой кулак.
Дзякуй Богу і за тое,
Што наш дух саўсім не знік,
Бо аднялі ўсё людскае,
Скарб духоўны і язык.
І на жарты чалавекам
Ні хацелі нас назваць.
Як звяры, усякім здзекам
Той к сабе – змагаліс браць...
Свет знямог адвену цьму,
Путы лопнулі стальныя
Павальней стала яму.

І цяпер, ні так мо скора,
Хмара покі перайдзе,
З вечнай крыўды, слёз і гора
Ён ўжо вызваліць сябе.
Апрануўшся, рахманы,
Выйдзе з цемры беларус.
Хай-бы крыўдзілі ня ў меру
Цела плёткай ці агнём,
А то нават й тую веру
Варачалі на сваём.
Й так пакінулі бадзяцца
На пакуту ці на смех,
(Мусі болей здзекавацца
Ткі пачулі ў сэрцы грэх),
Мужыка бяз мовы, сьвету
Здабываць для пана хлеб,
І цярпеў сталецця гэту
Муку ён нямы і слеп.
Но прайшлі часы ліхія,
Загаіўшы цяжкі раны
Стройны, крэпкі, бел і рус,
Гляне ён на на свет вясёла
Жаль спадзе з прыгожых век,
Но ужо цяпер ні як жывёла,
А як вольны чалавек.
Што далей за гэтым будзе
То павінен кожын знаць.
Нам-ж пяяць прысталі грудзі.
Дудар! – можам перастаць!
Скора мы ешча з табою
Узноў сайдзёмся папяём.
І то болей мы з сабою
Песень новых прынясём.
А цяпер бывай здаровы
Ды мяне не забывай
І гасцей для песні новай
Там з Дзьвіны сваей ззывай.

***Янук Пачопка***
*"Наша Ніва", 1913, № 21, с. 3*


№ 21 НАША НІВА

ДУДАР.

3 Беларусі і Літвы.

Вільня.

Верш Янкі Пачопкі заслугоўвае асобнага разгляду, асабліва цікавая сувязь вобраза дудара з Дзвіной. А З. Русецкі, якому прысвечаны верш, ці не імя сапраўднага дудара, якога ведаў і з якім, магчыма, сябраваў аўтар? Прынамсі, на карысць гэтага сведчылі б апошнія радкі верша. Дарэчы, у Пачопкі, як і ў Вайніслава Казіміра Лада-Заблоцкага, дудар грае "за Дзвіной". Янка Пачопка пахаваны за вёскай Прытыкі (Малінаўка). У першым нумары часопіса "Паазер'е" Рыгор Шарыпкін, даследчык творчасці Янкі Пачопкі, напісаў наступнае: "Помнік сціплы: партрэт паэта, словы па-беларуску «Янка Пачопка», даты жыцця 1890–1977 і разгорнутая кніга... Кніга – сэнс яго жыцця, вечная спадарожніца ў яго прагным шуканні духоўнай сілы слова, навукі, асветы".

Можа, на помніку варта было б дадаць яшчэ радкі з дэбютнага верша “Дудар”?




Яшчэ адзін верш, звязаны з дудой і традыцыяй “Жаніцьбы Цярэшкі”, быў напісаны глыбоцкім паэтам Віталём Гарановічам. Між іншым, традыцыя “Жаніцьба Цярэшкі” была вельмі пашыраная на Глыбоччыне. Яе, безумоўна, варта падтрымліваць і надалей.

**Жаніцьба Цярэшкі**

Студзень гурбы з ветрам вершаць,
Замятае сцежкі.
Жаніх першы, хлопец лепшы,
Вяселле Цярэшкі.

Прыйшло грышча, дуда грае,
Вогнішча палае.
У плоце жэрдкі лічаць дзеўкі,
Лёс свой выбіраюць.

Падбіраюць бацька, маці
У каляды пару.
Каб у дзеўках не застацца
Ва ўзросце сталым.

Хлопец выверыным скокам
“Вішаньку” зрывае.
“Не будзь, лава, так высока”, –
Словы прамаўляе.

На прыпеўкі і пацешкі
Ноч багатай будзе.
Кожнай Мар’і па Цярэшку
Наваражаць людзі.

Надта цікавыя згадкі пра дуду можна знайсці ў паэтычным апісанні святкавання Купалля ў згаданай ужо “Полацкай шляхце” аўтарства Вайніслава Казіміра Канстанцінавіча Лада-Заблоцкага, які піша: *„Сюды ж ідуць і дудары – і на іх сыдзе натхненне! Бай! – быццам павук, праскочыць ён па белай кашулі беларуса, і на кім спыніцца, той будзе Вешчуном-Баярам. Вешчуном-Баярам быў старажытны Баян*, Баян – Вяшчун Полацкі! Нечуваныя словы зайграюць на ягоных вуснах... Што ён захоча – тое і будзе, але толькі – у прыродзе! Пад гукі яго сказа дрэвы возьмуцца за рукі і, як хлопцы з дзеўкамі, будуць скакаць і танчыць разам з імі. Пад гукі яго сказа таксама й зоркі шал ахопіць – і яны завіруюць на нябёсах! Калі ёсць пясняр на зямлі – то й між зорак будзе. Адна зорка зайграе. Зайграе песню кахання, бо гэта – свята Сонца, Сонца нараджае каханне!..”*.

*Баян у «Слове пра паход Ігараў» вяшчун-гусляр і пясняр. Жыў у канцы XI і на пачатку XII ст. У творы Баян называецца Вялесавым унукам. Гэта сведчыць пра тое, што Баян мог быць жрацом. Дарэчы, у «Слове пра паход Ігараў» згадваецца мясцовасць Дудуткі.

Дарэчы, было прыемна даведацца, што традыцыя святкавання народных святаў пад дуду не была цалкам страчаная ў нашым рэгіёне, бо дудар граў на "Купаллі Паазер'я – 2012". Гэтая падзея была апісаная Дзіянай Берніковіч вось так: *„...У глыбоцкую глыбінку завіталі народныя фальклорныя калектывы з Ушацкага, Глыбоцкага, Полацкага, Мёрскага раёнаў, Мінска, Наваполацка, Віцебска. Распачало свята ўрачыстае песеннае шэсце па вуліцах вёсак Шо і Хралы. Разам выканаўцы сольных і гуртавых абрадавых спеваў на жытнёвым полі спявалі, збіралі кветкі, плялі вянкі. Каб дапоўніць прастору маляўнічых мясцін этнічным самабытным гучаннем, арганізатары свята запрасілі знакамітага дудара Вячаслава Казака"*.

Яшчэ адзін верш дудзе прысвяціў паэт-дэбютант з Глыбокага, Максім Нікіфаровіч. Тым больш, што любоў да гэтага інструмента ў аўтара не выпадковая. Максім набыў дуду і актыўна практыкуецца ў гранні, каб папоўніць дружыну глыбоцкіх дудароў не толькі самабытным словам, але і гукам.

**ЗАЙГРАЙ ДУДАР!**

Зайграй дудар, каб Сонца ўстала,
каб знічкі выйшлі ў карагодзе,
залева ліцца перастала,
і па музычнае нагодзе,
на небе ночка рог дастала.

Ён адбіваецца ў балотах,
яго я з неба ўкраду,
рог што гарыць у пазалотах,
табе прыладжу на дуду,
каб Месяц адчуваўся у нотах.




**Верацеі непадалёк ад Крулеўшчыны (у польскім запісе Wierecieje).**

Зайграй дудар, каб білі ногі
і ўключаліся ў пляс,
скакалі боты ў выш падлогі,
хістаў каб гук жалейкі нас,
зайграй дудар свой найграш строгі!

Але ці не самым цікавым творам, у якім дуда не толькі грае, але і выконвае ролю магутнага сімвала, што знітоўвае падзеі ўсяго рамана-трылогіі, з'яўляецца "Гараватка" нашага земляка Кастуся Акулы. Нарадзіўся ён на Глыбоччыне, у вёсцы Верацеі Глыбоцкай гміны, цяпер Докшыцкі раён. Падчас нямецкай акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім і працаваў у Порплішчанскай сямігодцы, але большую частку жыцця правёў і пісаў у Канадзе. Гараватка – гэта ўзвышэнне, гара каля вёскі Літоўцы (якая хутчэй за ўсё атаясамліваецца з Верацеямі, хоць непадалёк ёсць і сапраўдная вёска Літоўцы, а мястэчка Гаці, якое згадваецца ў кнізе, – гэта насамрэч Крулеўшчына).

Гараватка сімвалізуе ўсю "гаротную" Беларусь, а пасярод узвышша расце дуб-волат Архіп (параўн. з папулярнай песняй: *Павесілі дуду На зялёным дубу*). Падобны да дуба, сімвал-постаць трылогіі – гэта дзед Якуб, які раскрывае перад хлопчыкам Януком дзівосны свет. Менавіта дзед Якуб расказвае малому гісторыю пра добрага князя Гаравіка: *„Паплыла пра гаспадарства князя слава далёка й шырока, бо пры ўмелай гаспадарцы і народ багацеў і князю самому ўдастатак было. Поўна ў засеках было, ды золата і ўсякага багацьця ў скарбніцы князёвай. Адным словам, чулі пра яго блізка й далёка. Свае лірнікі й дудары пялі пра яго й славілі яго, чужыя-ж на край і людзей зь вялікай прагавітасьцяй глядзелі й мячы вайстрылі"*. Вельмі часта ў першай кнізе трылогіі апісанні прыгожых краявідаў чаргуюцца з гукамі дуды: *„Сонца хілілася на захад, і хлапец ведаў, што за гадзіну дзесь пачнецца перадвячорная сымфонія: пасьмялеюць птушкі на полі й у лесе, загудзіць бяроставая дуда ліпавіцкага пастыра Хвядоса, што быў стары й усімі навакольнымі пастухамі паважаны ня толькі за ўмелае граньне, а й за тое, што аж двох падпаскаў меў; у бары пачнуць свае трэлі салаўі й розная птушыная дробязь, вялікую чуб-карону Архіпа абсядуць галкі ці груганы, каб разгледзецца, што адбываецца навокал"*. Праўда, незразумела, ці „бяроставая дуда" тут называецца ў значэнні бяроставай дудкі (пастушкоўскай дудкі з раструбам, звычайна з бяросты. У трэцяй кнізе згадваецца пад назвай "бяроставая труба"). Але тады чаму аўтар не выкарыстоўвае слова "дудка", а менавіта „дуда"? Магчыма, што ў розных месцах згадваюцца два розныя інструменты: *"У яго (Хвядоса) іх ні адна (дудка)"*. Магчыма, што Хвядос грае і на дудзе, і на бяроставай дудцы. Гэта пацвярджаецца і чарговымі апісаннямі: *„На полі зазьвінеў першы жаўранак. Дзесь голасна сакатала курыца, рыпелі асьверы, чуваць быў раньні гоман пастухоў, што гукалі, выганяючы на поле статак. Спачатку надта-ж асьцярожна, потым сьмялей загудзела дуда ліпавіцкага пастыра Хвядоса. Гудкае мэлядыйнае рэха пракацілася па скарбовым лесе, расплылося ў літоўскіх начоўках"*. Пазней хлопчык Янук сам пачынае вучыцца граць на дудцы (тут ужо выразна – бяроставая дудка), якую

выпрасіў у ліпавіцкага Хвядоса, і ў хлопца добра атрымліваецца. Дзяўчына Дуня нават жартам пытаецца ў яго, ці не збіраецца ён зрабіцца музыкам.

У другой кнізе, у якой польскі прыгнёт замяняецца бальшавіцкім, дуда таксама пачынае гучаць сімвалічна па-новаму: *“Здавалася, што запаволенае жыцьцёвае тэмпа плыло нармальна. Адылі варта было прыгледзіцца й прыслухацца вёсцы, павандраваць па ваколіцы, зазірнуць на нівы, у гумны, вечарам дзе на прызьбе прысесьці, як няцяжка спанатрыць, што ў глыбіні запаволенага пульсу жыцьця адчувалася затоенае трывожнае дыханьне. Навет дуда Хвядосава надарваным голасам цягнула”*. Перамена настрою і нарацыі заўважная і па больш даслоўных фармулёўках: *„Ня ўсьпеў Антось як сьлед на лаве расьсесьціся, як шырака, з гукам адчыніліся дзьверы й малады, прысядзісты, шыракаплечы чалавек з каўказкім тварам убег у пакой. Бачыў Антось яго раней. Сьледчы паклікаў каўказца на помач, калі Антось адмаўляўся танцаваць пад бальшавіцкую дудку”. Разам з прыходам бальшавікоў мяняецца і культурны ландшафт, дуду замяняюць “баян і балалайка”*.

У трэцяй кнізе, якая апісвае лёсы вяскоўцаў падчас Другой сусветнай вайны, дуда не гучыць зусім. Рэдкія згадкі пра яе адносяцца звычайна да ўстойлівых выразаў: *“...апрануўшы новы касьцюм із такімі сьмешнымі цяпер порткамі, – калошы як тонкія дудкі...”*, *“Шыш, дудкі, браце!”*. *„Навет пастух Хвядос, ня маючы чаго пасьвіць, трымаўся дзесьці наседжанага кута і ўжо ня вітала ўсходу сонца ягоная бяроставая труба. Тымчасам ня было яшчэ нямецкага загаду адносна гаспадаркі зямель”*.

Тэма дуды ў трылогіі Кастуся Акулы, безумоўна, вартая асобнага даследавання. Менавіта гэты інструмент стварае “фон” і пункт аднясення для падзей у рамане. У другой кнізе пры апісанні прамовы Сталіна пісьменнік прыводзіць вобраз пузыра: *“...калі здавалася, што вось-вось пырсьне занадта надзьмуханы вялікі барані пузыр...”*. Дарэчы, аўтарам гэтай кнігі была запісаная гутарка з амаль стогадовай бабай Юзэфай (вёска Асецішча Докшыцкага раёна), якая згадвала пра мясцовага дудара, як той граў на дудзе з бараняга трыбуха... Вельмі цікава было б “вызначыць” геаграфічны напрамак, з якога даносіцца Хвядосава дуда, то бок адказаць на пытанне, да якой рэальнай мясцовасці адносяцца Ліпавічы: *“З боку Ліпавічаў вецярок прынёс сумна-працяглыя гукі Хвядосавай дуды. У Януковым сэрцы нарастаў жаль. Празь сьлёзы ён нічога ня бачыў”*. Вельмі імаверна, што Ліпавічы сімвалізуюць яшчэ адно “дударскае сяло” на Глыбоччыне.

Дарэчы сваёй увагай не абмінулі дуды і іншамоўныя аўтары Глыбоцкага краю. Народжаны ў 1898 годзе на хутары Акунёва польскамоўны пісменнік Тадэвуш Даленга-Мастовіч, які нейкі час жыў у Глыбокім забраў з сабой у вялікі свет польскай літаратуры вельмі характэрную прыказку „дуды ў мех”. Рысай усіх польскамоўных пісменнікаў беларускага паходжання з’яўляецца „беларускі парадак словаў”. Своесаблівы беларускі

сінтаксіс, не кажучы ўжо пра вобразнасць праяўляюцца і ў Адама Міцкевіча, і ў Яна Баршчэўскага, і ў Сяргея Пясецкага, ну і вядома ж у нашага глыбоцкага земляка. Ледзь не ў кожным сваім рамане Тадэвуш Даленга-Мастовіч спрытна выкарыстоўвае фразу „dudy w miech”. Выслоўе гэтае азначае заканчэнне нейкага дзеяння, звычайна калі вясёлы час кончыўся й настае пэўная абыдзёншчына, або поўны канец нечаму. Звязана гэта з тым, што пасля грання дудар хаваў свой інструмент у мех, то бок пашыты са скуры футляр, зручны для нашэння дуды падчас сваіх падарожжаў. Дык вось калі ў беларускай мове прыказка пашыраная і зразумелая, то ў польскай хоць і сустракаецца ў слоўніках, то не з’яўляецца вельмі папулярнай і тым больш зразумелай. Нават у нарматыўных выданнях раманаў Даленгі-Мастовіча рэдактар тлумачыць яго як „губляць упэўненасць, рабіцца пакорлівым”, што абсалютна разыходзіцца з асноўным значэннем – прыпыняць від дзейнасці, хіліцца да завяршэння: “Можа пан думаеш, што я некага баюся? Што дастаткова кіўнуць пальцам, каб я адразу дуды ў мех?...” (Фрагмент раману «Доктар Мурэкануляваны»). Выслоўе ўпарта выкарыстоўваецца аўтарам таксама ў кнігах: «Браты Дальч і С-ка», «Кар’ера Нікадзіма Дызмы», «Дзённік пані Ханкі», «Свет пані Маліноўскай». А яшчэ ў кнізе «Другое жыццё доктара Мурка» аўтар выкарыстоўвае слова „dudu (дуду)” ў значэнні „грошы”: „Dudu jak lodu” (поўна грошай) „nie mam dudu na bimbanie” (ня маю грошай на байбацтва, зн. гультайства) і г.д. Калі іншыя фразеалагізмы аўтарскай мовы зразумелыя і сустракаюцца ў іншых аўтараў то „dudu” можна лічыць „аказіяналізмам” Даленгі-Мастовіча. У нарматыўнай польскай мове “ani dudu” выкарыстоўваецца ў значэнні „ні слова, ні гу-гу”, а ў Мастовіча гэтае спалучэнне гукаў можа быць або выпадковым, або звязаным са звычаем кідання грошай у ражок дудара. Так ці інакш, пра дуду ў Глыбоцкім краі Даленга-Мастовіч ведаў і магчыма нават сустракаў яе ў ваколіцах хутара Акунёва ў раннім дзяцінстве. Тым больш што для Варшавы, куды пісменнік перабраўся на працу, пачынаючы з 1922 году, дуда была інструментам так бы мовіць не аўтахтонным. Сімвалічна склалася, што першая прэзентацыя кнігі пад вокладкай „Дудары Глыбоцкага краю” прайшла менавіта ў доме, на якім вісіць памятная шыльда прысвечаная памяці Тадэвуша Даленгі-Мастовіча.




Раней у гэтым будынку (вул. Савецкая 4) быў Глыбоцкі раённы суд, а цяпер размясціўся Парафіяльны дом імя кс. Ю. Францкевіча. Тадэвуш Даленга-Мастовіч напэўна пагадзіўся б, што самыя цікавыя раманы піша жыццё. Дуды ў мех і квіта...

Урэшце, скарбонка літаратурных тэкстаў, якія звязваюць Глыбоччыну з дудой, папоўнілася яшчэ адным тэкстам. Аўтар гэтай кнігі надрукаваў у “Весніку Глыбоччыны” легенду, у якой галоўнае месца адводзіцца дудзе. Спадзяёмся, што гэта далёка не апошнія вершы і апавяданні, у якіх будзе апявацца наш рэгіянальны інструмент.



**Фотаздымак: Генадзь Шарыпкін**

## Анёл-дудар

Ні на каліўца не памылюся, калі скажу, што Глыбоччына – самая багатая на аўтарскія творы і легенды пра дуду. І гэта пры тым, што многія з іх яшчэ могуць быць нават не перанесеныя на паперу… Яшчэ ў 2007 годзе Таццяна Валодзіна і Уладзімір Лобач запісалі ад жыхара вёскі Вялец, Міколы Гіргеля, 1917 г. н., наступную паказку. Ён апавядаў ім: “У ваколіцах Дзісны на пачатку XX стагоддзя жыў дудар-чараўнік – «троху калека, старык», які «знаў». Яго абавязкова запрашалі на вясельлі, іначай шалелі коні ды біліся людзі, а маладыя былі «чужымі» ў першую ноч. Мог зрабіць так, што гарэлка ў чарцы пачынала кіпець. Аднаго разу, калі ён адклаў дуду і пайшоў да стала выпіць, дзеўка яе ўзяла і паспрабавала падзьмуць, пасьля чаго ў яе разьдзьмула твар. Паміраў цяжка, то падымалі столь».

А іншы прыклад падання знаходзім у кніжцы “Легенды, паданні азёрнага краю” псуеўскага краязнаўцы Івана Волкава. Легенда “Пагібель ваўкалака” была запісаная Волкавым ад Івана Зарэцкага, жыхара вёскі Зябкі,

якому ў той час (1962 г.) было амаль сто гадоў! Паданне апавядае пра глыбокія канавы з вытокамі ў раку Шошу. Першыя плямёны крывічоў у нашым краі, дзякуючы кавалю Тамілу і багам, да якіх ён звяртаецца, – Сонцу, Месяцу і Ветру, – перамаглі балоты, а разам з імі і мясцовага ваўкалака. “Працаўнікі-крывічы ўрачыста святкавалі перамогу над балотам і пачварай-ваўкалакам. Каля кожнага селішча ярка гарэлі вогнішчы ў гонар яго вялікасці пякучага Агню. Вакол вогнішчаў вадзілі карагоды. А навокал звінелі гуслі, вохкаў бубен, ігралі дудкі і жалейкі, гучалі народныя песні...”

Я ў сваю чаргу апавядаў вам ужо пра тое, як Сапеліна, што на поўнач ад Глыбокага, узяло сваю назву ад дуды. Ну а ў гэты раз раскажу гісторыю не менш цікавую – адкуль узялася дуда на Глыбоччыне, іншымі словамі, з чаго ўсё тут пачалося. Дык паслухайце ж, калі ласка.

Пачалося ўсё з Янкі Дудара. Пра яго, дарэчы, расказаў ніхто іншы як наш Вацлаў Ластоўскі, з “футара” (як у нас казалі) Калеснікава, які некалі быў паміж возерам Мнютай і ракой Аутай, недалёка ад Мацюкова, што на Глыбоччыне. Дык вось, па словах Ластоўскага, памёр той Дудар, і душа яго, узяўшы дуду за пазуху, пайшла ў неба. Пачуўшы, як той дудзіць сабе на дудзе, Дудара папрасілі зайграць перад самім Богам. Бог паслухаў, як грае Янка, ухвальна паківаў галавой ды пайшоў па сваіх справах, а тыя анёлы і ўсе святыя, што сабраліся на гэты канцэрт, давай, захопленыя, упрошваць музыку, каб яшчэ ім пайграў. Упрошваць Дудара доўга не трэба было. Ён і зайграў і заспяваў, так што ўсё неба ходырам расхадзілася ад нашай дуды. Ажно выйшаў святы Пётра са сваіх пакояў, прыслухаўся, а па ўсім небе лунаюць беларускія песні. Параіўся з архангелам Гаўрылам ды вырашыў, што так быць не можа, каб у небе ды свецкія песні замест набожных пяяліся. Загадаў паклікаць да сябе Янку Дудара ды прапанаваў яму кінуць сваю дуду, але той, вядома ж, адмовіўся. Тады Пётра прапанаваў яму вярнуцца дадому, на Барысаўшчыну, бо Дудар быў з таго боку, на што музыка ахвотна пагадзіўся. Далей Ластоўскі піша: “Пакланіўся Дудар апосталу і выйшаў з райскіх варот на вялікую нябесную дарогу. Была ноч. Стаў Дудар спускацца па птушынай дарозе ўніз. А калі пачуўся на волі, крыкнуў:

– Гэй, гэй! – і пачаў дуць з усёй моцы ў дуду”.

Здавалася б, вось і ўся гісторыя, ды не зусім так... Тут якраз самае асноўнае, можна сказаць, і пачынаецца. Нямала часу прайшло пасля таго здарэння з Янкам Дударом, усе ўжо на гэта і забыліся, апрача аднаго толькі анёла. Ды не проста анёла, бо ў іх там свая іерархія, а самага сапраўднага арханёла, з залатымі крыламі. Анёл гэты ўсё ніяк не мог забыцца на дзівосную музыку, якую пачуў тады ад старога музыкі. У свабодны час ён усё напяваў сабе або паціхеньку насвістваў, хоць свістанне ў небе сурова забароненае, тую незабыўную мелодыю “Ох ты, дудка мая, ух-я!”. І з часам так яго пачаў мучыць і мучыць той матыў, так клікаць да сябе, так прыварожваць, што ўрэшце наважыўся анёл пайсці да арханёла Гаўрылы, які адказвае ў небе за нябесныя спевы, каб

падзяліцца з ім сваім хваляваннем.

Так і так, маўляў, анёл, спрабую забыцца я на тыя дударскія мелодыі, малюся, спяваю набожныя песні, а ў галаве так і гудзіць “Цяцерка”. Хоць ты трэсні. Задумаўся Гаўрыла, што рабіць з такім канфузам, ды не прыдумаў нічога лепшага, як паслаць анёла ўслед за Янкам Дударом. Пабадзяецца трохі, наслухаецца гэтай беларускай дуды, ды і хопіць яму, а тады вернецца на неба і ўжо ж напэўна супакоіцца. Але як яму знайсці таго Дудара, калі след па ім ужо даўно прастыў. І адкуль быў той Дудар наогул? З Паазер’я, вядома ж, але адкуль дакладна, хто там ужо ведае? На месцы прыйдзецца разабрацца. Ну і рушыў анёл па птушынай дарозе ўніз. Спускаўся, спускаўся, але паколькі была ноч, а вакол паўсюль цёмна, то і збочыў трохі са шляху Янкі Дудара.

Раніцай, калі прасвятлела, агледзеўся, а перад вачыма – возера на возеры, ну і зразумеў, што прыйшоў на Глыбоччыну. Спярша быў замаркоціўся, што, пэўна, памыліўся краем, тым больш прамёрз, на дварэ сцюдзёна-сцюдзёна, ажно праз момант чуе – дуда раве! Ён і пайшоў у той бок, адкуль неслася гудзенне. Калі прыйшоў, убачыў хату, з коміна ідзе дым, а ў хаце поўна моладзі. Ды так скачуць, што ажно ў дзвярах курыцца, хоць і зіма. А на лаве спрытна сядзіць незнаёмы дудар з вусікамі, на галаве магерка, і так хораша грае, адно замілаванне. Бачыць анёл: маладыя ў пары бяруцца, нейкі важны мужык з бабай іх усё зводзяць і зводзяць, а дудар не перастае звонка граць, пры гэтым усе спяваюць: „Бадай той пятух прапаў, нашто ён рана спяваў. Бадай той пятух блудзіў, нашто ён рана будзіў...” Глядзеў анёл на ўсю гэтую дзіўную, але прыгожую дзею ды ўрэшце не вытрымаў, кінуўся таксама ў скокі. “Цярэшка каху-каху, што ў цябе ў мяху, у мяху?” І так разышоўся анёл у танцы і спевах, што і выпіў ад радасці і пад'еў рознай смакаты мясцовай. А анёлам, наўрад ці нехта гэтаму здзівіцца, усё гэта, вядома, рабіць забаронена. Ну, дый нічога страшнага, ягоную ўзрушанасць зразумець можна таксама, ды і Глыбоччына – край надта гасцінны: не адмовішся. Знайшоў ён урэшце тое, да чаго так рвалася душа, і не важна, што дудар не той. Галоўнае, што звініць музыка, льецца песня, ногі самі ходзяць, нават крылы не замінаюць... Калі дзея скончылася, падышоў анёл да дудара і кажа:

– І я так хачу!

– Паўдня ламаць спіну і надзімаць шчокі? – аджартаваўся дудар, зусім не пад уражаннем ад таго, што размаўляе з анёлам.

– Граць, як і ты, перабіраць пальцамі, пускаць людзей у скокі!

– Гэта, – кажа дудар, – можна, але перш трэба дуду мець. На жэрдцы ад плота граць не будзеш, праўда?

– Дык а ці можаш мне змайстраваць дуду?

– Магчы я магу, але... з чаго? Волава скончылася. Аздобіць няма чым...

Панік анёл умомант, але тут жа пасвятлеў:

– Ёсць чым аздобіць, вось... – паказаў анёл на свае залатыя крылы. – Калі ж і ўрэжаш трохі...

Так і зрабілі. Змайстраваў дудар новую дуду, адліў у ёй усюды залатыя ўзоры, дуда ажно зіхацела ўся ад прыгажосці. А які гук яна выдавала!

Чыста анёльскі. Пакуль дудар рабіў дуду, анёл заставаўся ў дудара ў хаце, вучыўся граць і спяваць дударскія мелодыі. Расказваў яму, як першы раз убачыў Янку Дудара, ну і агулам, як жывецца ў небе, сярод святых. Тут, маўляў, у вас куды весялей. Так і прабавілі час да лета, а як пайшлі разам да возера Шо граць на Купалле, дык і здарылася бяда...

Так захапіўся сваім удалым граннем анёл, што не заўважыў, як на свята пасля змяркання завітаў сам чорт. Анёл, вядома, думае толькі пра добрыя ўчынкі, але ж дрэнным людзям і д'яблу, наадварот, карціць учыніць нешта дрэннае. Назіраў чорт за залатой дудой, хаваўся, цікаваў, ажно ўрэшце, калі надарыўся адпаведны момант, бо анёл адвярнуўся, каб сказаць нешта дудару, чорт тут жа ўхапіўся за золатам аздоблены перабор і давай уцякаць упоцемках у бок возера. Разгублены анёл кінуўся за ім. Бег штосілы, нават паспеў дагнаць чорта і ўхапіцца за даўжэйшую трубку – гук, калі раптам пачуўся плёскат вады, і чорт, здаецца, як пад зямлю ці, дакладней будзе казаць, пад ваду праваліўся... Так і застаўся сумны анёл стаяць з адным гукам у руках...

Пасля яшчэ хадзіў-блукаў па нашай Глыбоччыне, па яе шматлікіх азёрах і рэках, усё спрабуючы знайсці, куды чорт падзеў астатнія часткі дуды, але ўсё безвынікова. Зайшоў неяк на Копцеўку ў Глыбокім ды абапёрся, стомлены, аб калоны. Ні на неба вярнуцца – крылы падрэзаныя, ні на дудзе пайграць. Так вечна і строіць свой гук – бурдон. Часам, калі ідзеш па Глыбокім ноччу, асабліва калі на небе поўня, то, бывае, з Копцеўкі даносіцца такі прыгожы, але нізкі і сумны гул. Гэта глыбоцкі анёл успамінае, як быў дударом...

# Сапеліна

У аднаго тутэйшага гаспадара былі тры сыны. Разумны старэйшы, хітры сярэдні і дурны як стаптаны бот апошні. На дварэ стаяла пекнае лета, а гаспадар нешта злёг і раптам надумаў паміраць. Паклікаў да сябе сыноў і гэтак будзе казаць ім: “Апошняй ночы прысніўся мне надта дзіўны сон. Нічога ў ім не адбывалася, нічога не бачылася, адно што тры разы мне пачулася адно і тое ж незразумелае слова – САПЕЛЬ. Вось я і падумаў, што, мусіць, вешчы гэта сон. Мне, як вы бачыце, пара на той свет ужо, а падзяліць сваю невялікую гаспадарку на ўсіх вас немагчыма. Таму хай атрымае яе той, хто знойдзе такую рэч, у якой яшчэ назвы няма, а якая магла б называцца сапель. Дужа мне перад смерцю карціць даведацца, што гэта за сапель такі, што мне прысніўся, і хто з вас застанецца гаспадарыць на маёй зямлі”. Старэйшы і сярэдні браты пачухалі патыліцы, развіталіся з бацькам і вырушылі ў свет сапель шукаць, а малодшы, туга думаючы, так і застаўся сядзець каля бацькавага ложка, бо ніяк не мог зразумець нічога з пачутага.

Старэйшы і сярэдні браты падзяліліся. Старэйшы, найразумнейшы з братоў, пайшоў на поўдзень, а сярэдні вырашыў падацца ў процілеглы бок, на поўнач. Калі старэйшы брат не знойдзе таго таямнічага сопеля, дык, можа, хоць яму пашанцуе, думаў ён. Дурны брат увесь час працягваў сядзець на тым жа месцы каля бацькі. Чым больш ён тужыў сваю рэпу, чым даўжэй напружваў свае мазгі, тым менш разумеў, што ад яго ўласна чакаецца. Ад гэтай напругі несвядома ажно засунуў у нос паказнік – указальны палец.

Так і сядзеў у той момант, калі прачнуўся біты ліхаманкай бацька. Гаспадар разгледзеўся па пакоі, пабачыў, што з трох сыноў побач толькі адзін, і кажа: “Зусім я знямог. Відаць, не дачакаюся я ўсіх сыноў і адказу на сваё пытанне. Адзін ты, значыцца, сапель, бачу, знайшоў...”. Якраз у той час у хату з крыкам забег сярэдні брат. “Знайшоў, знайшоў, бацька, сапель!” Кажучы гэта, ён сунуў руку ў кішэнь, але нічога тамака не было. “Ну, і дзе той сапель?” – спытаўся бацька. “Быў сапель, бацька, быў во тут у кішэні. Я яго на поўначы знайшоў. Іду, сцюжа такая, мароз трашчыць, гляджу, а гэты сапель сабе са страхі звісае. Я яго адламаў і бегма дахаты”. “Хітрыш ты нешта, сын”, – кажа бацька. Быў сапель і раптам не стала. “Але старэйшага, разумнага вашага брата я, відаць, ужо не дачакаюся”. У гэты момант раздаўся на ўсю ваколіцу гук дуды. Здагадаліся ўсе, што гэта найстарэйшы разумны брат варочаецца. Пачуўшы залівісты, звонкі гук дуды, стары гаспадар нечакана для ўсіх адужаў, падскочыў з ложка, ажно ў скокі кінуўся і сустрэў свайго сына. “Гэта ж дуда, а не сапель”, – выгукнуў бацька, радасна і борзда павітаўшыся з сынам. “Так, бацька, гэта дуда, а вось гэта во, куды трэба дзьмуць, гэта і ёсць сапель. Прыйшоў я ў Глыбокае. Пачаў разглядацца на кірмашы, дзе ж тая рэч, у якой назвы няма. Ажно

чую, дудар іграе. Падыходжу да яго. Гляджу на дуду і пытаюся, а як во гэтая штука называецца. На што ён адказвае: «Гэта, братка, мех». – «А во гэтая», – пытаюся. – «А гэта – гук». – «А во гэтая», – працягваю. – «Гэта жалейка будзе». – «А во гэтая», – не паддаюся я. – «Гэтая? – здзівіўся дудар. – А во гэтая, братка, не ведаю». Тут я і ўсклікнуў ад радасці на ўвесь рынак! «Тады гэта будзе сапель!» – крыкнуў я і, адкупіўшы ў дудара дуду, штосілы кінуўся назад дахаты".

"Ну і разумны ж ты, сын. Цюцелька ў цюцельку як бацька. Ты дасі сабе рады і без маёй гаспадаркі. Выбірай сабе зямлю побач і будуй гаспадарку. Ты, сярэдні сын, хітры, чыста як твая маці. Ты каля свайго разумнага брата стаўляй хату, не прападзеш. А ты, дурненькі, малодшы, сам не ведаю па кім такі, заставайся на маёй гаспадарцы, ты без яе нікуды. Ды і я ўжо паміраць перадумаў, яшчэ цябе трохі папільную, а калі памру, то браты твае ў бядзе цябе не кінуць".

З таго часу так і павялося, што сапель тры розныя словы абазначае. Сапель ад дуды, сапель-лядзяш і той, што наймалодшы брат знайшоў, калупаючыся ў носе. Мясцовасць, вядома, так і засталася Сапелінам, а хаты ў ёй сталі будаваць ў бок Лепеля і ў бок поўначы. І цяпер, калі будзеце праязджаць туды, заўважыце, што вёска цягнецца ад краю да краю, а над ёю часам яшчэ можна пачуць пранізлівы гук лепельскай дуды.



**Выступ дудара на свяце вёскі Сапеліна, 2016 г.**

# Дудар-чарадзей

Даўней было многа чарадзеяў. Цяпер яны счэрпаліся. Дык што рабілі? Мне ацец расказаваў. У дзярэўні Ліпна быў прэдставіцельны мужчына, парань. І быў у гэтай дзярэўні, у Ліпне троху калека, старык. Ён знаў. Без яго ні свадзьба, нічога не абойдзецца. Яго прыглашаць і свадзьба адбудзецца – красата, а не прыглашаць – і коні б'юцца, і людзі ў хаці б'юцца. Ён пускаў чмур. Вот сабяруцца ў хаце. Вечар, танцы, вечарына. Прыходзіць ён, прыхаджу я. Выпіўка была, ну не така я ж як ціпер. Толькі ў празьнікі. Падзываець яго первага на выпіўку. А ён іграў на дуду. Эта музыка старынная-прэстарынная. Дуда. Вот ён палажыў дуду і пашоў на выпіўку. Ну, а дзевушкі скокалі, прыгалі. Села адна на дуду, а тады ўзіла і падула. Зайграла яна ні зайграла, не ізьвесна, а ліцо ўсё такоя ўздулося. І ўсё. Ён прыходзіць: "Ну што, падула? Вот падула дык падула". Ага, нескалька мінут і гэта ей прайшло. Ну і пры выпіўкі водка кіпіць у этай румачкі. У каго захочаць ён [зробіць]. Майму атцу пасаветавалі – былі крапчэйшыя чараўнікі – за Дзьвіной. І ў Дзісне быў вялікі чараўнік. Атца так паўчылі: зьверху мезеным пальцам пахрысьціць, то лопнець румка, а зьнізу ён перахрысціць, эта водка пырх і нет. У яго была дачка. Бацька ўзяў яе. Едзець на базар, на правы бок Дзісны. Запражэць каня, калёсы і едзець. Даязджаіць да дзярэўні – нармальна. Пераехаў эту хату, дзе жыў эты чараўнік, – толька-толька – колы зваліваюцца. Ну што робіць? Узьдзеніць, загваздкі, усё як нада. Толькі ат'едзіць – апяць. Стаіць, валэндаецца. Другі чараўнік паўчыў: перавярні кола, паедзеш і прыедзеш. Мой ацец не паддаўся. Ну што ж. Бераць з цэркві ладана. Гэты ладан усыпець трошку ў самасад. Як закураць, то ён невыдзержаваіць у гэтай комнаці – выходзіць. Ну вот жывуць. Втары парынь у дзярэўні, ён яму так зрабіў, што рвала жалудак і там хадзіла жывоя. Не ўгадаў што рабіць той парань. Ацец мой падсаветаваў яму паехаць да крапчэйшых дзе-та за Дзьвіной. Вот ён і паехаў. Казалі яму: вары крушыну, ягада і кару, будуць рвоты бальшыя. І пакоціцца з цябе клубок. Старайся яго зьбіць. Дзе ён яго саб'ець, дзьявальская гэта? Эта вялікая тожа сіла. Вот яго рвала, рвала, усе відзілі гэтыя ягоныя рвоты. А клубочак – раз – і пад печ. Ніхто і не забіў. І памёр. А каб забіў, дык і выжыў бы. Дык усярэдзіне ўсё там парвана было із кроўю. Гэта яму той дудар так падрабіў, ён адзін быў там у Ліпне. Ня помню як звалі. Хату помню, а яго не. Меў ён золата нейкая. І вот ён гэта золата закапаў. Істопка, картошка, і печ зроблена, зьбіта, каб падагрэць. І там такая ямка. І ён гэта золата туды спратаў. І заклінаў: "Чыя рука закапаваець, толькі тая адкапаець". Сістра пэўна чула ягоная. Як памёр ён, схваціла яго… А як уміраў, то паднялі паталок. Нямог памёрці. Як паднялі, тады яму стала легчы. А як памёр, схапіла свайго брата, туды к печцы і ягонай рукой дастала золата. Эта было. Мне сам ацец расказаваў. Вось такі быў. Яго ўжо знալі, крэпка ўважалі. Уважалі! Уважалі за гэта, што прыглашаюць і тады парадак у хаце. А то і коні, і ўсё… Дажа маладыя первую ноч чужымі находзюцца. Так робіў.

Мог. У нашай меснасьці жыў такі старык, калека. Было нешта ці з нагой. Ці што, траўма якая-та. Дажа родная дочка была красівая, харошая... Ацец мой расказаваў, серца кабана рэжуць, то яму нада серца з'есці. А яна ўзяла кусочак і пастрадала. Нешта ён такоя зробіў, каб знала, што не нада есьці. Эта яму нада. Німа ўжо ні той дзярэўні, нічаво. А ці перадаў ён каму? Ні знаю. Каб перадаў, можа, былі б і далі такія гісторыі. А так не.

*Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гіргеля Міхаіла Пятровіча, 1917 г.н. у в. Вялец Глыбоцкага р-на. ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК (Наваполацк, 2011).*



**Адкрыццё Другога міжнароднага фэсту дударскіх рэгіёнаў у Глыбокім у 2018 годзе**

# Паўстагоддзя небыцця

Выміранне дударскай культуры не толькі на Глыбоччыне, але і на ўсім Паазер'і пачалося ў пачатку XX ст. З гэтым звязаныя шматлікія сацыяльна-грамадскія працэсы і пераўтварэнні на нашай зямлі. Яшчэ ў 1920-я гг. XX ст. беларускія дудары ездзілі выступаць на ВДНГ у Маскву, а пазней на савецкі павільён сельскагаспадарчай выставы ў Парыжы (1925 г.). Адной з апошніх ластавак спрыяльнай культурнай палітыкі стаў кароткі фрагмент фільма рэжысёра Калядзінскага пра савецкае народнае мастацтва ў 1939 г. Фільм пачынаецца з выступу беларускіх дудароў. Калі міжваеннае дваццаціголдзе было яшчэ перыядам адносна спрыяльным, то канец 1930-х гг., на які наклаліся рэпрэсіі, звёў гэты пласт культуры амаль у поўны нябыт.




У 1932 г. крытык і пісьменнік Віталь Фрыдрыхавіч Зэйдэль-Вольскі піша данос у форме часопіснай рэцэнзіі пра тое, як беларускі мастак Яфім Мінін займаецца класавым шкодніцтвам, і кідае на яго цяжкую ў той час скаргу пра нацыянал-дэмакратызм. Яфім Мінін займаўся гравюрай і малярствам, ілюстрацыямі кніг і фактычна запачаткаваў беларускі экслібрыс. На адным з экслібрысаў для беларускага этнографа, фалькларыста, бібліёграфа і літаратуразнаўцы Аляксандра Шлюбскага Яфім Мінін нарысаваў постаць дудара.

У сваім даносе Зэйдэль-Вольскі піша наступнае: „Экслібрыс, зроблены для Шлюбскага, характэрны сваім голым этнографізмам. У цэнтры яго знаходзіцца курган. З левага боку кургана сядзіць стары селянін і грае на цымбалах*. На кургане сядзіць таксама стары і грае ў дуду. Побач з ім яшчэ адзін стары ў саламяным капялюшы стаіць і грае на трубе. Нацдэм Шлюбскі з задавальненнем знаходзіў у гэтых экслібрысах работы Мініна яскравыя адбіткі беларускага «нацыянальнага адраджэння». Мастака Яфіма Мініна расстралялі ў 1937 г. як сябра "польскай ваеннай арганізацыі". Этнограф Аляксандр Шлюбскі быў паўторна арыштаваны ў чэрвені 1935 г. УНКВД па Ленінградскай вобласці. Асобай нарадай пры НКУС СССР 16.11.1935 прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі. Далейшы ягоны лёс

*Выяўлены музычны інструмент не цымбалы, а традыцыйныя для беларускай культуры гуслі. Гранне адбываецца з дапамогай пальцаў рук.

невядомы.

Менавіта ў такім духу адбывалася відазмяненне стаўлення тагачаснага палітычна-культурнага рэжыму да беларускай дуды як да аднаго з найбольшых сімвалаў беларускай культуры і гісторыі. Апрача фізічнай расправы і масавых рэпрэсій, якія закранулі большую частку беларускай інтэлігенцыі, была перагледжаная таксама і культурная палітыка БССР. У 1946 г. мастацкім кіраўніком і дырыжорам Дзяржаўнага народнага аркестра БССР прызначаецца Іосіф Жыновіч (сапраўднае прозвішча Жыдовіч), які праз сваю выбітную музычную дзейнасць спрыяе фармаванню штучнага сімвала, у аснове якога знаходзіцца ўжо іншы інструмент – цымбалы. Дагэтуль яны былі артэфактам у першую чаргу жыдоўскага культурнага ландшафту, а цяпер становяцца асноўным беларускім інструментам, што канчаткова выштурхоўвае беларускую дуду на задворкі. У дакументальным фільме “Зачараваны цымбаламі” (1975) Іосіф Жыновіч сцвярджае наступнае: “Нідзе так не выказвае народ сваю душу, як у сваёй музыцы, як у сваіх песнях, а душа ў нашага народа вельмі адчувальная. Яна адгукаецца на ўсё. Характар беларуса добры і сардэчны, мяккі і задушэўны”. Такая культурная падмена і мела на мэце змякчэнне і ўсыпленне беларускага нацыянальнага характару. Дуда стагоддзямі ўспрымалася як інструмент моцны, баявы і мужчынскі, а струнныя інструменты – як жаночыя і лагодныя. Гэта адлюстравана нават у прыказцы: “Як дуда раўла – усіх з розуму звяла, а як гуслі зайгралі – усіх на розум настаўлялі”.

Можна меркаваць, што згадкі пра выступ дудара Пётры Бурца, на якім прысутнічалі афіцэры польскай стражніцы, быў апошнім вусным сведчаннем пра гучанне дуды ў Глыбоцкім краі. Было гэта не пазней за 1939 год і супадае таксама з заканчэннем дзейнасці большасці апошніх дудароў Беларусі. Другая сусветная вайны сталася сімвалічным рубіконам, праз які большасць дудароў не перайшла. Апошнім зафіксаваным публічным выступам дудара лічыцца канцэрт на рэспубліканскім аглядзе мастацкай самадзейнасці ў Менску. Адбывалася гэта ўжо пасля вайны (1951 г.), а выступіў на ім 85-гадовы



Дудар І. Гвозд, 1951 г.

**Фота: альманах “Dudar”, 2012, № 1, с. 19**

Адраджэнне дударскай культуры Глыбоччыны пачынаецца з экспедыцый у наш край. У 1990-я гг. на Глыбоччыну прыязджалі Алесь Лось і Тодар Кашкурэвіч. На пачатку XXI ст. экспедыцыі тут праводзіў Зміцер Сасноўскі. Некаторыя матэрыялы знайшлі адлюстраванне ў друкаваных выданнях і відэаматэрыялах, пра якія згадваецца ў гэтай кніжцы. Значная частка матэрыялаў, па словах Алеся Ляся, застаецца неапублікаванай. Таму пасля публікацыі можна чакаць новых цікавых фактаў пра бытаванне дуды ў Глыбоцкім краі.

## Што, дзе, калі іграць на дудзе

Тое, што на сёння вядома пра стан дударства на Глыбоччыне, сабрана ў гэтай кніжачцы, але гэта толькі пачатак. З часам, магчыма, будуць з'яўляцца і дадавацца новыя гістарычныя і этнаграфічныя звесткі. Можа, свет калі-небудзь убачаць шматгадзінныя аўдыязапісы Алеся Ляся, між іншым, з нашага рэгіёна. Але адно з асноўных пытанняў, якое трэба вырашыць сёння, – што менавіта граць на дудзе і пры якіх нагодах. Давайце ж у гэтай частцы звернемся да праблемы рэпертуару дударскай традыцыі на Глыбоччыне і акалічнасцяў, у межах якіх дуда павінна гучаць. Але перад гэтым кароценька замовім слова пра “дударскі строй”, сцэнічны касцюм, адпаведны для дударскай традыцыі рэгіёна, і ўласна пра магчымыя тыпы канструкцыі дуды.

Трэба адзначыць, што ў дударскай традыцыі Беларусі агульнанацыянальны дударскі строй так і не сфармаваўся. Па захаваных картачках дудароў бачна, што ўсе яны апранутыя ў звычайнае “падарожнае” адзенне, і агульныя элементы не заўважаюцца. Але гэта не павінна замінаць нам у пашырэнні ідэі дударскага строю Глыбоччыны, які вельмі лагічна вырысоўваецца на аснове картачак актораў, у першую чаргу музыкаў з трупы Буйніцкага, а таксама на падставе іншых звестак пра той час. *“Танцоры насілі кашулі льняныя, белыя, вышываныя, з беларускага палатна, у розныя клеткі і палоскі. Падпяразваліся паясамі, штаны запраўлялі ў боты. У Буйніцкага кашуля таксама была з ільняной белай тканіны”*, – згадвае ўдзельніца танцавальнай групы Ядзвіга Родзевіч. “Наша Ніва” так пісала пра першы выступ трупы: *“Дзяўчаты зіхацелі пекнымі андаракамі, гарсэтамі, вышыванымі кашулямі, істужкамі, пацеркамі, на дзявочых галоўках былі пекна павязаны чырвоныя хустачкі, белыя наміткі. Хлопцы бялелі ў магілёўскіх світках, абшытых па краях чырвоным шнурком і падперазаныя прыгожымі вузкімі і шырокімі паясамі; на іншых былі валеныя беларускія шапкі...”*

То бок галоўнымі элементамі строю можна лічыць шапку магерку, вышываную кашулю, белыя, паласатыя або аднакаляровыя штаны (у тым ліку і галіфэ), боты, тканы пояс (пажадана выкананы згодна з унікальнай для Глыбоччыны тэхнікай круглага пляцення), а да гэтага –



Мужчынскі і жаночы касцюмы актораў трупы І. Буйніцкага




Прыклад магчымага зімовага строю









Прыклады трох сучасных стылізацый

аздобленую світку, фрэнч або кажух, у адпаведнасці з парой года і надвор'ем. Строй можа быць больш шляхецкага тыпу, як у самога Буйніцкага, або больш сялянскага, як у музыкаў. Можа таксама змяняцца ў залежнасці ад канкрэтнай эпохі на нашых землях. Хоць пэўныя крокі па рэканструкцыі глыбоцкага строю і былі ўжо зробленыя працаўнікамі мясцовага Дома рамёстваў, аднак грунтоўныя даследаванні ў гэтай сферы, з удзелам навукоўцаў і адмыслоўцаў, яшчэ чакаюць наперадзе. Але ўжо сёння можна пайсці ў раённы Дом рамёстваў і заказаць сабе тканы пояс або магерку на свой размер і фасон. Магерка (мадзярская шапка), якую прынёс да нас вялікі князь літоўскі Стэфан Баторы з Вугоршчыны, – гэта старадаўні мужчынскі галаўны ўбор, пашыраны ў Беларусі ў XVI–XIX стст. Якраз магерка, якая так добра прыжылася ў нашым краі, і можа быць тым адметным элементам, па якім будуць пазнаваць дудароў з Глыбоччыны.

Што тычыцца тыпаў дуды, якія небеспадстаўна выкарыстоўваць у нашай традыцыі, дык гэта, натуральна, аднабурдонная дуда. Гэта дуда, найбольш выразная рыса якой – рагаўні (ражкі), якімі заканчваюцца жалейка і гук. Тып аднагукавой дуды з'яўляецца найбольш пашыраным з усіх чатырох канструкцый традыцыйнай дуды ў Беларусі. Звестак пра выкарыстанне іншых тыпаў дуд на Глыбоччыне няма. Але ў віленскім музеі захавалася дуда-мацянка (дуда з трыма гукамі-бурдонамі), якая паходзіць менавіта з культурна-гістарычна і геаграфічна блізкай нам Дзісны. Гэта адзіны экзэмпляр захаванай дуды-мацянкі.





**Прыклады аднабурдоннай дуды (злева) і дуды-мацянкі (справа), выробленыя майстрам Юрасём Панкевічам. У Глыбоцкім гісторыка-этнаграфічным музеі захоўваецца жалейка, падораная гэтым майстрам у 2016 г.**

У Люцынскім павеце Віцебскай губерні (Латгалія), дзе жыла вялікая колькасць беларусаў, была зафіксаваная іншая дуда-мацянка. М. Нікіфароўскі піша пра гэты тып беларускай дуды наступным чынам: "*(Мае) параўнаўча вялікі корпус, соску з залогам і ад трох да шасці гукаў, звыш перабору, размешчаных па абодва бакі адносна корпуса... Калі дудар надзьмець дудку, то апошняя, паводле некаторых водгукаў, міжволі нагадвае таўсцяка на паджарых, раскірэчаных ножках, альбо чорціка, якому ігрэц нібы*

*мае адкусіць прадаўгаватую галоўку (соска), прытрымліваючы ў той жа час за хвост (пірабор)”*. Мацянка была пашыраная ў беларускай традыцыі, але не стала такой папулярнай сярод насельніцтва, як аднабурдонная дуда па розных прычынах, але перадусім з-за складанасці настройкі і вырабу. Мацянка – больш складаны інструмент, які мае ад двух да пяці бурдонаў, што вымагае ад дудара ўмелага настройвання, добрага слыху і мацнейшага надзімання меха, але, адпаведна, дае і больш багатае гучанне. Дуда-мацянка, як тлумачыць у сваім слоўніку Ян Станкевіч, гэта “совершенная дуда”. Назва дуды хутчэй за ўсё паходзіць ад слова “мультаны” (у чэхаў *мольданкі* (ад Малдовы), у славакаў *мулітанкі* – дуды з трыма бурдонамі). У этымалагічным слоўніку польскай мовы Александра Брукнэра чытаем: “Мультаны, Валахія (Muntean, «горная краіна», ад назвы Сяміграддзя (Трансільваніі); ад іх пастухоў, якія залілі ўсё Пагор’е, мультанкі*, муцянкі, з XVI ст. «дудкі» наогул”. Прычым мультаны далі толькі назву, не сам інструмент. Цікава, што Мікалай Анімеле, беларускі этнограф XIX ст. з Віцебскай губерні, адзначаў, што дуда-мацянка часцей сустракалася сярод сялян-католікаў. Маючы на ўвазе, што значная частка Глыбоччыны развівалася пад уплывам каталіцтва, а таксама нашую культурна-гістарычную лучнасць з Дзісной, адкуль паходзіць прыклад захаванага інструмента, было б цалкам заканамерным побач з аднабурдоннай дудой уводзіць у абарот і дуду-мацянку.

Права на існаванне маюць у нас і іншыя тыпы дуды. Пра двухбурдонную дуду Мікалай Нікіфароўскі пісаў, што гэта была самая пашыраная ў ягоны час дуда на Віцебшчыне.



**Рыс. Сурба А. Асаблівасці беларускай двухгукавой дуды (БГУКИ, 2012)**

Такія дуды бачым на шматлікіх рысунках XIX ст. Зміцер Сасноўскі піша: *„Ілюстрацыямі двухбурдонных беларускіх дудаў, апісаных М. Нікіфароўскім, служаць малюнкі Рамуальда Жукоўскага* [правільна Рудольфа Жукоўскага. – В. В.] *(сярэдзіна XIX ст.). На малюнку «Беларускае вяселле» Р. Жукоўскага дудар грае пад танцы на двухбурдоннай дудзе.*

*Раней мультанкамі называлі “флейту Пана”, якая была пашыраная ў антычнасці, але не была зафіксаваная на тэрыторыі Беларусі. На ёй граў бог Пан (апякун пастухоў) і сатыры (лясныя, казланогія багі ў грэчаскай міфалогіі). У беларускім перакладзе рамана «Quo Vadis» Генрыка Сянкевіча сустракаем: “Паром кружыў ужо ля самых берагоў, на якіх сярод зарасляў і кветак відны былі грамады людзей, паўбіраных за фаўнаў ці сатыраў, граючых на флейтах, мультанках і бубянцох...”

*Дуду з цэльнымі бурдонамі ў руках чорта бачым на іншым малюнку Р. Жукоўскага, змешчаным на франтыспісе I тома зборніка Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» (1844). На іншым малюнку Р. Жукоўскага «Ля карчмы» сустракаем яшчэ адну выяву дудара".*



**Дудар з рысунка "У беларускай карчме" Рудольфа Жукоўскага**



**Франтыспіс вокладкі кнігі "Шляхціц Завальня" Рудольфа Жукоўскага (1844)**

У плане рэпертуару дударскае асяроддзе ў Беларусі неаднароднае. Шмат якія дудары захапляюцца Сярэднявеччам і аддаюць перавагу музыцы таго часу, іншыя схіляюцца ў бок народных песень і танцаў. Апрача гэтага, існуюць тыпова дударскія мелодыі, найгрышы, запісаныя ад дудароў Хведара Стэся (з Полаччыны), Міколы Навіцкага і Сцяпана Шахаўца ў 20-х і 30-х гадах XX ст., а таксама адзіны запіс дударскага найгрышу, зроблены ў 1931 г. Я. Гіпіусам і З. Эвальдам ад дудара Г. К. Слаўчыка з Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. Іх разам з песнямі, звязанымі з дударствам, і павінны найперш выконваць дудары, але задача рэгіянальнай традыцыі ў тым, каб максімальна ахапіць і рэпрэзентаваць менавіта музычную традыцыю рэгёна.

У гэтым абапірацца можна або на гістарычныя крыніцы, або на архіўныя запісы з экспедыцыйна-палявых даследаванняў.

З друкаваных крыніц, праз асобу Адама Шульгі, найбліжэйшая нам – гэта "Дзіцячы спеўнік" Антона Грыневіча, Вільня, 1925 г. Антон Грыневіч, дарэчы, таксама наш зямляк (нар. на хутары Іваноўшчына, сённяшняя Полаччына), быў адным з першых прафесійных збіральнікаў беларускага музычнага фальклору, настаўнікам, які ствараў інструкцыі для будучых збіральнікаў музычна-этнаграфічнай творчасці.



**Партрэт Антона Грыневіча, зроблены Язэпам Драздовічам. Разьба па дрэве, 1933 г.**




**Вокладка кнігі "Дзіцячы спеўнік", якая была толькі адной з некалькіх падрыхтаваных А. Грыневічам кніг па беларускім фальклоры**

Падназва выдання – "З беларускіх народных матываў і лірыкі, сабраных у 1905–1924 гг.". У гэтай кнізе, між іншым, знаходзім нотны запіс песні "Чы-чы, чы-чы, верабей...", запісанай ад дудара з трупы Буйніцкага.

Як ужо адзначалася, гэтая мелодыя можа лічыцца дударскім гімнам Глыбоччыны.

№ 22. ЧЫ-ЧЫ, ЧЫ-ЧЫ, ВЕРАБЕЙ ...

Народная, з Дзісеншчыны.
Зап. ад дудара з труппы
І. Буйніцкага.



І. Чы-чычычы, ве-ра-бей, недзяўбі мне ка- ла-пень,



Бо я та-бе вераб'ю задам дыхту, як злаўлю.

2. Верабейка паляцеў, калапенькі не чапаў,
Пачаў ланіць мошачку, зламаў сабе ножачку /2р./

3. Я на тую ножачку пашыю панчошачку,
А на тое цельца вытку палаценца. /2разы/.

Другая значная для рэгіёна песня была запісаная ад іншага згаданага ўжо земляка, паэта Яна Пачопкі. У зборніку Грыневіча Ян Пачопка прадстаўлены запісам песні “Пайду я ў ток...” /з танца “Цярэшкі”/, святкаванне гэтае (“Жаніцьба Цярэшкі”) звязанае з дудой.

№ 27. ПАЙДУ Я У ТОК ...

Народная /з танца "Цярэшкі"/.
Зап. ад Я. Пачопкі з Дзісеншч.

Сярэдня



1. Па-йду я у ток - у ток, зна-йду я



ку-рэй- ку-ток, пя- ту-шка ні - во-



дна-га па - між іх за - во - дна -га.

2. Вы куркі не сакачыце,
Галоўкі не клапаціце:
Прадам я рэшата пер'я,
Куплю вам пятушка-пеўня.

3. Бадай той пятух прапаў,
Нашто ён рана сьпяваў.
Бадай той пятух блудзіў,
Нашто ён рана будзіў.

Апрача гэтых дзвюх рэдкіх песень, запісаных ад нашых землякоў, у зборнік увайшлі таксама іншыя творы, якія маюць значэнне для агульнага дударскага рэпертуару. Гэта і “Зайграй жа мне, дударочку”, “Іграў я на дудцы...”, “Запражыце сівых коні... (Верабей)” і ці не самая кананічная “Былі ў бацькі тры сыны... (Цяцерка)”. Песня апавядае пра трох братоў, усе тры завуцца Васілі. Адзін з іх пастух, другі пляце лапці, а трэці – дудар “сядзіць на камяні, дзяржыць дуду на рамяні”. Песня гэтая вельмі вядомая ў дударскім руху, але запіс Грыневіча вылучаецца двума менш вядомымі куплетамі, што можа вынікаць з рэгіянальнай адметнасці:

Як павёз ён, павёз,
Ды ў папову павець,
І павеццю разрыў,
І цялятак пабіў.

А цяляткі равуць,
К гаспадыньцы бягуць.
Гаспадынька прыскочыла.
Маю дудку расшчапіла.

Таксама ў зборніку можна знайсці цікавую прыпеўку на матыў полькі:

Хоць да полькі ногі тонкі,
Да кадрылі ногі крывы,
А як стануць ў дуду йграць,
Ног ня можна утрымаць.
Тумта, тумта і г. д.

Іншай цікавай, яшчэ старэйшай крыніцай з’яўляюцца „Беларускія песні з Дзісенскага павету Віленскай губерні, запісаныя Адольфам Чэрным”, выдадзеныя ў Кракаве ў 1894 г. у якасці дадатку да беларуска-польскіх песень з Сакольскага павета Гродзенскай губерні іншага аўтара. Адольф Чэрны – чэшскі пісьменнік, вучоны-славіст, які ў 1889 г. наведваў Беларусь, вынікам чаго стала выданне песень з Дзісенскага павета, да якога тады належала Глыбоцкая воласць. І хоць яны былі запісаныя ад жанчын з мясцовасцяў Падліпкі і Камянполле (мясціны, звязаныя таксама з творчасцю Яна Баршчэўскага), па-за межамі сённяшняга Глыбоцкага раёна, аднак у культурным плане песні гэтыя належаць да таго самага паўночна-заходняга культурнага арэала. Гэтая публікацыя – вельмі карысная крыніца для рэканструкцыі рэгіянальных абрадаў з удзелам дуды. Кніга падзеленая на чатыры часткі. Першая – вясельныя абрады – дае не толькі нотны запіс музыкі, якая выконваецца падчас вясельных абрадаў, але таксама словы песень, якія спяваюць розныя ўдзельнікі ўрачыстасці, а дадаткова змяшчае кароткія апісанні саміх рытуалаў, тлумачыць, хто і калі выконвае тую ці іншую песню. Другая частка ўтрымлівае гульнявыя песні, першая з якіх – Цярэшка (“Жаніцьба Цярэшкі” з каляднага цыкла). Асабліва цікавым з’яўляецца тэкст песні, якая існуе ў шматлікіх варыянтах, а таксама просценькая, карагодная гульня “Падушачка” (якую можна ладзіць на Купалле) з тэкстам, нотамі і кароткім апісаннем. Трэцяя частка публікацыі прысвечаная танцам (“Тацянка” і “Лявоніха”). Апошні раздзел – гэта песні, якія выконваюцца падчас розных каляндарных абрадаў: Вялікдзень, вясноўскія, пятроўскія

(купальскія), сенакос і жніво, талака, восеньскія, дажынкі, усе, як і папярэднія, з нотамі і словамі. Агулам праца Адольфа Чэрнага можа выступаць выдатным дапаўненнем да іншых матэрыялаў, а ў некаторых выпадках і асновай для рэканструкцыі многіх абрадаў, са сваёй рэгіянальнай спецыфікай і з удзелам дуды. А. Чэрны надрукаваў 28 песень гаспадарчага календара, палова з якіх з мелодыямі. Для лепшага пашырэння і даступнасці гэтую працу варта было б перавыдаць кірыліцай (у арыгінальным выданні апісанні надрукаваныя на польскай мове, а тэксты песень запісаныя лацінкай).

Значнай крыніцай у тым ліку глыбоцкага фальклору з'яўляюцца "Белорусские народные мелодии" (Вільня, 1910). У гэтай публікацыі этнограф і фалькларыст Еўдакім Раманаў (1855–1922) сабраў вясеннія, велікодныя, троіцкія, бяседныя, купальскія, калядныя, вясельныя, хрэсьбінныя, калыханкавыя, карагодныя песні, а таксама прыпевы да беларускіх танцаў, разам з нотамі. Асноўную частку выдання склалі 25 песень і прыпевак да 10 танцаў, запісаных ад сялянкі Ганны Піліпенковай з в. Завулкі Дзісенскага павета Віленскай губерні (сёння Глыбоцкі раён).




II.

| | | Страницы. Ноты. | Текст |
|---|---|---|---|
| | **XI. Щедровки.** | | |
| 23. | А ў поли, ў поли берозка стоить | 11 | 33 |
| 24. | Соколя ясный, молодецъ красный, соколя | — | 34 |
| | **XII. Колядная.** | | |
| 25. | Ишла—пошла сивая свинья—куги, куги! | — | — |
| | **XIII. Свадебныя.** | | |
| 26. | До дубу, зязюля, до дубу | 12 | 35 |
| 27. | Хвалилася калиночка за рѣкой | — | — |
| 28. | Отдали мяне, забыли мяне | 13 | 36 |
| 29. | Да выйдемъ мы, да послухаемъ | — | — |
| 30. | Отчини, матулька, вороты | — | — |
| | **XIV. Колыбельныя.** | | |
| 31. | Люли—люли, прилетѣли гули | — | 37 |
| 32. | Не ходи, котикъ, по лавцы | 14 | — |
| | **XV. Крестинныя.** | | |
| 33. | У мойго братитки бясѣдочка | — | — |
| 34. | Я учора молода пьяна была | — | 38 |
| 35. | Да было ў бабки да двѣнадцать воловъ | 15 | — |
| 36. | Наша бабка подпила | — | 39 |
| | **XVI. ТАНЦЫ.** | | |
| | **Древнѣйшіе.** | | |
| 37. | Коло, Шестакъ | 16 | — |
| 38. | Коло, Веробей | — | — |
| 39. | Товкачики. Гей—гей, товкачики! | — | — |
| [illegible] | Трясуха. Ахъ ты, руда, ходи сюды | 17 | — |
| 41. | Левониха, Крутуха | — | 40 |
| | **Новѣйшіе.** | | |
| 42. | Полька. Дявчинонька, люблю тябе | 18 | — |
| 43. | Ланцугъ. На вулицы побыла | — | — |
| 44. | Кадрель. А ти я не дѣвка | — | — |
| 45. | Кадрель казачковая. Погнала бабулька | 19 | — |
| 46. | Кадрель Петкевича. А Микита жито носить | — | 41 |
| | **XVII. Игорныя.** | | |
| 47. | Терешка. Дѣвочки пролѣсочки | — | — |
| 48. | Зязюля. Ты, зязюля, ни кукуй, ни кукуй | 20 | 42 |
| | **XVIII. Духовные стихи.** | | |
| | ...сахвій. Расплакався младый юношъ | 21 | — |
| | ...бный. Ночь надъ другомъ я сидѣвъ | — | 43 |
| | ...осифа. Кому повѣмъ печаль мою | | — |
| | **XIX. Дополненіе.** | | |
| | ...ало мього ягодъ у бору,— | | 44 |
| | ...дуброва,—рек... | | — |

Яшчэ адзін зборнік рэгіянальнага фальклору – гэта “Pieśni Ludowe Ziemi Wileńskiej i Nowogródzkiej” (“Народныя песні Віленшчыны і Навградчыны”), сабраныя Браніславай Гаўроньскай і выдадзеныя ў 1935 г. у Вільні. Кніга падзеленая на тры часткі: польскія, беларускія і літоўскія песні. Падкожнай песняй з нотным запісам пазначана, дзе яна была запісаная і падчас якой нагоды спявалася (вясельныя, жніўныя, вясеннія і г. д.). Некаторыя песні былі запісаныя ў Дзісенскім павеце (купальская “Ой, бору мой”, вясельная „Хвалілася каліначка”), некаторыя варыянты вядомых абрадных песень былі зафіксаваныя ў Камаях, недалёка ад Глыбокага, а некаторыя перадрукаваныя з двух іншых зборнікаў: “Беларускія народныя песні” (1929 г.) Рыгора Шырмы (цікавая версія “Зялёнага дубочка”) і “Беларускага песенніка” Л. Рагоўскага (Вільня, 1911 г.). Творчасць кампазітара і дырыжора Рагоўскага цесна звязаная з беларускай музычнай культурай, паколькі ён займаўся стварэннем музычнага афармлення для трупы Буйніцкага. Дарэчы, выдаўцом гэтага выдання выступіў Вацлаў Ластоўскі, а прысвечана яно “беларускаму танцору-артысце” – Ігнату Буйніцкаму. У выданні знаходзім песню „Ах ты дуй”, якая, апрача іншых, уваходзіла ў рэпертуар трупы Ігната Буйніцкага.

| | |
|---|---|
| Ах ты дуй, ах ты дуй,<br>Мая міла, не бядуй:<br>Па маей галаве<br>Астанецца ўсё табе!<br>Ах ты дуй, ах ты дуй,<br>Мая міла, не бядуй...<br>І таўкач, і мялён,<br>І старожа, і прыгон...<br>Ах ты дуй, ах ты дуй,<br>Мая міла, не бядуй. | Ach tu duj, ach ty duj,<br>Maja miła, nie biaduj:<br>Pa majej haławie<br>Astaniecca ŭsio tabie!<br>Ach ty duj, ach ty duj,<br>Maja miła, nie biaduj...<br>I taŭkač, i mialon,<br>I staroža, i pryhon...<br>Ach ty duj, ach ty duj,<br>Maja miła nie biaduj. |

Трэба дадаць, што амаль усе згаданыя матэрыялы знаходзяцца ў свабодным доступе ў інтэрнэце і сацыяльных суполках “Дударская Глыбоччына”. Дарэчы, у Глыбоцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы, дзякуючы прыязнаму стаўленню кіраўніцтва і супрацоўнікаў, быў створаны адмысловы фонд, прысвечаны матэрыялам, звязаным з беларускай дудой і рэгіянальным фальклорам. Першая такая ў Беларусі пастаянная бібліятэчная экспазіцыя, звязаная з дударскай тэматыкай, была ўрачыста адкрытая падчас першага фэсту “Дударскі рэй” у 2017 г. і сталася яшчэ адной цаглінкай у пабудове дударскага іміджу Глыбоччыны. У гэтай калекцыі сабраныя многія з пералічаных тут друкаваных крыніц, прысвечаных дударскай традыцыі Паазер’я, а таксама прыклады твораў беларускай літаратуры, у якой згадваюцца дуды і дудары.




**Дырэктар Глыбоцкай ЦБС Валянціна Спасібёнак у атачэнні дудароў з Вялікапольшчы**

Розныя рэгіянальныя сляды знаходзім таксама ў больш папулярных, акадэмічных зборніках. У запісах Рыгора Шырмы, прысвечаных вяселлю, ёсць песня "Ды выйдзем, ды паслухаем", якая спяваецца, калі выязджаюць да маладога. Нічога асаблівага, калі б не той факт, што яна "зап. у 1934 г. ад мастака Язэпа Драздовіча. Песня з-пад Дзісны". Ці спяваліся тыя або падобныя песні на Лявонпальскім вяселлі, якое было запісанае паэтам і краязнаўцам Сяргеем Панізнікам у Мёрскім раёне Віцебскай вобласці 18–19 жніўня 1969 г.? Пра гэта можна даведацца, купіўшы нядаўна выдадзены альбом з гэтымі і іншымі запісамі.

Нярэдка згадваецца Глыбоччына ў славутай серыі БНТ Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. У "Беларускай народнай інструментальнай музыцы" надрукаваныя сігнальныя найгрышы на трубе ад былога пастуха Э. І. Гузняка, 1896 г. н., з вёскі Саннікі, які "трубіў на драўлянай трубе-«берасцянцы», якую зрабіў сам". Ці не на такой трубе-берасцянцы іграў дудар Хвядос з "Гараваткі"? Іншыя два запісы тычацца Цярэшкі (з заўвагай "Іграюць на каляды, калі жэняць Цярэшку") і веснавога найгрышу для скрыпкі ад А. А. Аксяновіча, 1905 г. н., з Празарок.

Чарговая крыніца ведаў – гэта

рэпертуарны зборнік для аматараў ігры на дудзе “Дударэньку-гаспадэньку”, укладзены У. Громам і выдадзены Міністэрствам культуры ў 1999 г. Названая кніга дагэтуль ёсць найбольш поўным зборам, прысвечаным уласна дударскаму рэпертуару. Але для дударскай традыцыі на Глыбоччыне яна вартая перш за ўсё запісам старадаўняга беларускага танца-прыпеўкі “Юрачка”, мелодыі, запісанай Г. Цітовічам ад былога ўдзельніка ансамбля Ігната Буйніцкага Івана Куклінскага. Запіс гэты таксама каштоўны тым, што з яго вынікае магчымы склад традыцыйнай капэлы, паколькі ноты падаюцца для скрыпкі, цымбалаў, дуды і басэтлі.



## Юрачка

Старадаўні беларускі танец. Мелодыю запісаў Г.Цітовіч ад былога ўдзельніка ансамбля Ігната Буйніцкага Івана Куклінскага ў Шаркоўшчынскім раёне Віцебскай вобласці. Звычайна танец выконваўся з прыпеўкамі.

Жыва

pizz.

Скрыпка

Цымбалы

Дуда

Басэтля

Дарэчы, тут варта сказаць слова наконт традыцыйнага складу рэгіянальнай капэлы. Звычайна дудар іграў або сам, рабіць гэта дазваляла моцнае гучанне дуды, або са скрыпкай. Гэтую лучнасць двух інструментаў прапісаў яшчэ Мікалай Нікіфароўскі ў кнізе “Дудар і музыка” (1892), першая частка якой прысвечаная дудару, а другая скрыпачу. Што цікава, дударская традыцыя ў нашым рэгіёне паўплывала нават на спецыфіку грання на скрыпцы. У другім нумары часопіса “Druvis” (2008) чытаем наступнае: “Плёнам апошніх гадоў у справе рэканструкцыі манеры і тэхнікі дудовага грання ёсць каштоўныя знаходкі, зробленыя вядомым музыкам, майстрам музычных інструментаў А. Ласём у рэпертуары паўночнабеларускіх музыкаў-скрыпакоў. У тэхніцы згаданых музыкаў праглядаецца неўласцівае для скрыпковага выканання мысленне – празмернае



насычэнне мелодыі фаршлагамі, сталая прысутнасць бурдону ў мелодыях, нелагічная для скрыпкі аплікатура, што дае падставу выказаць меркаванне аб «калькаванні» скрыпкамі вобразу гучання дуды і яе інструментальнай інтэрпрэтацыі песеннага рэпертуару згаданага рэгіёну. Верагоднасць зробленай высновы палягае на фактах глыбокай укаранёнасці дуды ў народнай музычнай традыцыі паўночнай Беларусі, пэўнага дамінавання яе ў абраднасці азначанага рэгіёну. Нельга таксама выключаць і магчымасці супольнага грання скрыпака з дударом у капэле, дзе скрыпак вымушаны быў падладжвацца да «завыдая»-дудара". Вядома, што ў класічны склад капэлы трупы Ігната Буйніцкага ўваходзілі тры музыкі: дудар (Іван Шульга), скрыпач (Франак Голер) і цымбаліст (Ян Голер).



Апошні, Ян Янавіч Голер, відаць, наймалодшы з музыкаў, жыў у Празароках. У 1974 г. з ім (яму тады было 88 гадоў) пагутарыў Рыгор Семашкевіч, які пазней апісаў гэта ў аб'ёмным эсэ ў газеце "Літаратура і Мастацтва".

У размове з карэспандэнтам Я. Голер згадвае: *"Музыкаў нас траіх было – Адам Шульга, дудар, мой брат Франак на скрыпцы іграў і я на цымбалах. Ну і яшчэ восем танцораў – Буйніцкі са сваімі трыма дочкамі і гімназісты з Дзісны – хлопец і тры дзеўкі... Мы са сваімі выкрэнтамі паўсвету аб'ездзілі – два разы ў Пецярбурзе былі, у Варшаве, у Вільні"*. З гэтай гутаркі відавочна, якім быў асноўны рэпертуар трупы: *"У Буйніцкага танцавалі найбольш скочныя танцы – «Лявоніху», «Качана», «Мяцеліцу», «Ваўчка». Яны танцавалі і падпявалі самі сабе, а мы, музыкі,*

*таксама памагалі пецьˮ*.

У кніжцы "Легенды, паданні азёрнага краю" псуеўскага краязнаўцы Івана Волкава, нашага мясцовага Яна Баршчэўскага, знаходзім тэкст "Пагібель ваўкалака". Дарэчы, у гэтым самым выданні змешчанае цудоўнае і прыгожае "Купальскае паданне", запісанае, як і названая легенда, ад Івана Зарэцкага. Яно будзе цікавае ўсім, хто захапляецца тэмай народных абрадаў.

Полацкі этнограф Уладзімір Лобач сцвярджае: *"Інструментальнае суправаджэнне мянялася ад эпохі да эпохі. Даўней асаблівай павагай і папулярнасцю карысталіся дудары... Побач з дудою ў XIX ст. танцам акампанавалі скрыпка, цымбалы і бубен, пазней – дзве скрыпкі і басэтля. У канцы XIX ст. у народны побыт увайшоў гармонік"*.

Апошні, дарэчы, як мяркуюць многія знаўцы, ці не найбольш паўплываў на заняпад уласна дуды. Ілюстрацыяй тут можа быць картачка са славутай серыі, прысвечанай Дажынкам, якія адбыліся ў Глыбокім у 1934 г. На фота – народная капэла з Празароцкай гміны трымае гармонік, а таксама цымбалы, скрыпку і бубен. Дуды ўжо не відаць, хіба што яе пад пахай "хавае" другі музыка з правага боку. Такая форма трымання інструмента падчас спачынку, дарэчы, найбольш




1934-ты год. Глыбокае. Дажынкі. Дэлегацыя Празароцкай гміны з народнай капэлай.



КРАЙ МОЙ РОДНЫ...

СВІТКА
БУЙНІЦКАГА

ЭСЭ

У 1974 годзе мне пашчасціла на Віцебшчыну. І я рады быў знаёмству з ёю.

Можна стаць паддадым найвялікшай прыгажосці, гледзячы на спатканне шырокай, думнаплыннай Дзвіны са сваім прытокам, які на карце называецца Дзісна, а ў народзе Дзісенка. Пяшчотна, аж вершам, хочацца гаварыць, бо звычайна

Так жануць дачку адну,
Што ёсць у хаце, памагае маці
І вырасла, і нібыта ўцяча.
Шкада яе, як бы яшчэ дзяўчаці.
Вада паўночная цячэ... цячэ...

Там свет Дзвіны раздольны і шырокі.
А Дзісенка, ты меншанькая ў нас.
Ты найлягчэй пагойдваеш аблокі...

Цікава было слухаць і рэская старога ціхага чалавека. Мы стаялі ў дубовым парку, акаймаваным бярозамі. Чалавек чакаў жонку, якая з суседкай паплыла на лодцы даіць кароў на востраў. Летам каровы амаль усяго вясковага гарадка Дзісны дояць і начуюць без пастухоў на маленькім востраве. Там, дзе зарослыя сакаўной травой руіны крэпасці, якая была, здаецца, пры Пятру І на месцы зліцця Дзвіны з Дзісенкай.

11* 163

**Першая старонка публікацыі ў “ЛіМе”**

Звязана гэта не толькі з эстэтыкай будовы самога інструмента і фізічнай складанасцю грання на ім, але ў першую чаргу з сімволікай. Дудар часта выступаў у вобразе знахара, жраца (валхва, вайдэлота), ролі, якая жанчынай у нашай традыцыі не выконвалася. І хоць у песні пяецца “А мой дзядзька дуднік быў, а дзядзіна дуднічка*”, аднак форма гэтая, як і “каваліха – жонка каваля”, “млынарыха – жонка млынара”, як, зрэшты, і “бабка-дударыха” з замовы ад сурокаў, не адносіцца да прафесіі жанчыны. Гэта пацвярджаецца і ў песні: „Звалі мяне каваліхаю, цяпер будуць дударыхаю! Дудар, мой дудар, маладой! Сама дудар мой дудар маладой!” Сёння некаторыя дзяўчаты граюць на дудзе насуперак традыцыі. Але чаго толькі вартая перасцярога з запісанай на Глыбоччыне легенды: *„Аднаго разу, калі ён адклаў дуду і пайшоў да стала выпіць, дзеўка яе ўзяла і паспрабавала падзьмуць, пасьля чаго ў яе разьдзьмула твар”*. Сваё слова ў гэтым пытанні пакінуў і Мікалай

характэрная для нашай дуды.

Што ж тычыцца традыцыйнага складу капэлы і гендарнага (палавога) пытання, то крыніцы выразна паказваюць на тое, што дуда – гэта выключна мужчынскі інструмент.

Нетрудно угадать, что пи́щикъ, ко́никъ, посвирѣлка и жулей-ка даютъ толчекъ къ образованію „дудара́“, а нитка, натянутая вдоль лавки, или въ зубахъ, или на описанной выше скрипкѣ подготовляютъ будущаго „музы́ку“. Разумѣется, еслибы всѣ „музыку́ющіи бла́зны“ доходили впослѣдствіи до „дудара́“, или „музы́ки“, то отъ нихъ и житья не было бы на свѣтѣ, какъ нѣтъ теперь покоя горожанамъ отъ безчисленныхъ арфистовъ и т. п.

Уже съ первыхъ внѣ-колыбельныхъ дней инструментальная музыкальность становится достояніемъ однихъ лишь мальчиковъ, тогда какъ дѣвочки „йгра́юць пѣсни на гриба́хъ, ды дилиля́кыюць“ языкомъ, и встрѣтить дѣвочку съ пищикомъ, или посвирѣлкой такъ-же необычно, какъ необычно появленіе „жо́нки“ въ мужской шапкѣ вмѣсто „ху́стки“ (платка). Но по мѣрѣ подростанія и мальчи-

Нікіфароўскі ў кнізе “Дудар і музыка”:

У “Гараватцы” Кастуся Акулы знаходзім надта забаўны дыялог, у якім дзяўчына Дуня спрабуе зайграць на Януковай дудцы, зробленай дударом Хвядосам:

– Пакажы, дзе яна, – настойвала Дуня.

– А нашто табе? Ды які там зь мяне ігрэц?

– Ну алі чаго-ж стыдаесься? Пакажы, можа, і я заграю.

Янук падыйшоў да крушні каменьня, што ляжала на ўзьмежжы, выцягнуў адтуль закручаную ў нейкі рызман бяроставую дудку. Падаў Дуні.

– Гляньце вы на яго! – дзівілася дзяўчына, уважна абглядаючы дудку. – І калі гэта ты яе зрабіў? Што табе ў галавы прыйшло?

– Ні я зрабіў, а ў ліпавіцкага Хвядоса выпрасіў. У яго іх ні адна.

– Дык што, музыкантам будзіш?

– Каб я знаў. Мне цяперака ні да граньня. Але от пагуджу дык душу адвяду...

– Ну а мне можна папробаваць?

– Чаму-ж не. Дуй.

Дзяўчына, нязручна трымаючы, прыклала дудку да вуснаў і напялілася. Аж пачырванелі шчокі, а дудка ледзь адгукнулася нізкім тонам.

– У-ух! – злавіла паветра Макарунішка. – Гэта-ж, мусіць, ня так лёкка, як я думала.

Яна пачырванела ня толькі ад напружанага дзьмуханьня, але й ад сораму.

– Ну гэта-ж ні бабская работа, – задзірыста сказаў Янук. – Дый на пусты жывот цяжка. Ты-ж ці ела яшчо?

– Не.

– Дык от другім разам папробуеш на поўны жывот.

– Дык пайду, – сказала дзяўчына, аддаючы пастуху дудку.

У падобным іранічным тоне гучыць дасціпны верш Яна Ляснеўскага, доўгажыхара вёскі Мнюта Пліскага сельсавета Глыбоцкага раёна.

Калі дзед быў малады
Не паслухаў маці
Не адрокся ад дуды
Што дудзела ў хаце
Маладзецкая дуда
Грала ў маладосці
А пад старасць вось бяда
Хоць шалей ад злосці
Грае баба на дудзе
Прафесіянальна
Дзеду дзецца няма дзе
Адпачыць нармальна
На работу ён ідзе
Ці дадому прэцца
Дудзіць баба на дудзе
Аж хата трасецца
На гарышча дзед забраўся
Там дзе сена сохла
Ды і там дуда знайшла
Каб яна аглохла

Аднак жанчына не мусіць быць выключанай з дударскай культуры. Яна можа акампанаваць дудзе на любым інструменце, спяваць пад дуду

*Тое, што дударыха – гэта жонка дудара, пацвярджаецца таксама выбітным даследчыкам дударскай традыцыі ў Чэхіі Ёсэфам Рэжным у кнізе “Па слядах дудароў на Прахэньску”. Інфармацыя пра тое, што гранне на дудах было заняткам выключна мужчынскім, часта сустракаецца і ў даследаваннях польскага прафесара Збігнева Пшэрэмбскага, між іншым у кнізе “Дуды. Малавядомы інструмент для польскіх даследчыкаў народнай культуры”.

і, зразумела, брацьсамы актыўны ўдзел у дударскіх скоках. Дарэчы, яшчэ рускі мастак І. Захараў, які падарожнічаў па Беларусі, заўважаў: *“І хоць бы свята праходзіла вёрст за дваццаць ад месца іх жыхарства, жанчыны з самай раніцы адпраўляліся туды пешшу і ва ўсіх нарадах, цэлы дзень танцуюць і позна вечарам разыходзяцца па хатах, таксама пешшу. Я заўсёды здзіўляўся, як яны могуць яшчэ працаваць на другі дзень пасля такіх пераходаў, асабліва ў летні час. Але, відаць, беларускія жанчыны гатовы ўсё перанесці, каб толькі быў выпадак выдзеліцца ў танцах на вясковым свяце”*.

Апрача друкаваных крыніц, існуюць шматлікія запісы з палявых экспедыцый у наш раён. На Глыбоччыне праходзілі першыя палявыя этнаграфічныя даследаванні, прысвечаныя дудзе. Ад найстарэйшых жыхароў раёна звесткі пра дуду запісвалі найбольш вядомыя майстры-дудары – Алесь Лось і Тодар Кашкурэвіч. Апошні прыязджаў выступаць у Глыбокае ў 2009 г. У дакументальным фільме па гісторыі беларускіх народных інструментаў „Старыя інструменты Беларусі” пра дуду апавядаюць менавіта нашыя землякі – жыхар вёскі Івесь В. Радзюш, 1928 г. н., і жыхары вёскі Асінаўка Э. Караткевіч, 1924 г. н., і М. Караткевіч, 1932 г. н. Адна з больш агульных навуковых экспедыцый была праведзеная В. М. Прыбыловай і Т. Л. Канстанцінавай з 28.05.2012 па 08.06.2012. Падчас яе даследчыцы наведалі 24 населеныя пункты Глыбоцкага раёна, сярод якіх запісаны вёскі Азярцы, Варанова, Дзеркаўшчына, Загор’е, Залессе, Калечполле, Карабы-2, Каралевічы, Кухарава, Латыгаль, Лучайка-2, Мацюкова, Празарокі, Праходы, Сапеліна, Свілко-2.

Даследчыцы пішуць: *“Сабраны матэрыял дае магчымасць спецыяльнага этнамузыкалагічнага вывучэння традыцыйнай культуры Глыбоцкага раёна як на ўзроўні песеннай сістэмы, так і лакальных праяў у рамках паўночнабеларускага рэгіёну”*. Напрыклад, ад Паўловіч Яніны Пятроўны (1930 г. н.) з вёскі Праходы запісаная надзвычай прыгожая песня “Чаго цяцера з бору ляцела”, якая даўней выконвалася падчас асенняй уборкі. Мелодыя песні, дарэчы, выдатна кладзецца на дуду, а па гучанні і харызматычнасці нагадвае “Юр’ю” і літоўскую “Duno Upe”. У падвядзенні вынікаў пішацца: *“На Глыбоччыне каляндарна-земляробчы цыкл па агульнай суме запісаў прадстаўлены ўсімі сезоннымі падцыкламі і жанрава-функцыянальнымі групамі. Паўсюднымі і найбольш устойліва захаванымі выступаюць калядныя («цярэшка») і велікодныя (валачобныя, псальмы) песенна-абрадавыя традыцыі. У веснавым цыкле таксама зафіксаваны напевы агульнапрымеркаваныя да вясны і тыя, што спявалі «як бялілі палотна». Песенна-абрадавыя практыкі летняга сезону – купалля – на тэрыторыі Глыбоцкага раёна былі вядомыя паўсюдна. Аднак здзейсніць фіксацыі купальскіх напеваў удалося толькі ў шасці з наведаных намі вёсак. На Глыбоччыне, як паказала сучаснае экспедыцыйнае даследаванне, праяўлена такая асаблівасць структуравання каляндарнага цыкла, як функцыянальная злітнасць жніўнага*

*і восеньскага песенных цыклаў. Адны і тыя ж тыпавыя напевы ў мясцовых спеўных практыках, паводле каментараўспевакоў,выконваліrозныя абрадавыя функцыі (жніва, дажынак альбо восені). У восеньскі цыкл таксама ўваходзяць напевы талакі, якія ў палявых матэрыялах прадстаўлены адзінкавымі ўзорамі"*.

Усе матэрыялы даступныя для ўсебаковага даследавання і апрацоўкі і з'яўляюцца ўласнасцю Акадэміі навук. Работа з гэтымі архівам на сёння адбываецца па дазволе кіраўніцтва Акадэміі музыкі (кантактная інфармацыя на сайце БДАМ). Наогул, трэба заўважыць, што Глыбоччына – гэта адзін з найлепш апісаных рэгіёнаў Беларусі. Варта спрыяць таму, каб гэтыя матэрыялы некалі маглі выйсці асобнай кнігай або дыскам з каментарамі адмыслоўцаў. Для захавання і адраджэння народнай культуры кожны такі запіс – гэта сапраўдны скарб. Згаданая песня "Чаго цяцера з бору ляцела" вельмі падыходзіць для выканання з дудой. Па прычыне семантычнай сувязі з цяцерай, якая часта ўзгадваецца ў дударскіх песнях, гэтая кампазіцыя магла бвыконвацца пада кампанемент дуды. У выніку мы атрымліваем твор, які вылучаецца арыгінальнасцю і самабытнасцю дударскай традыцыі ў нашым рэгіёне.

Застаецца вызначыцца з пытаннем акалічнасцяў, падчас якіх павінна гучаць дуда. Безумоўна, як і ў астатніх рэгіёнах, традыцыйна гэта асноўныя каляндарныя святы – Каляды, Вялікдзень, Юр'я, Купалле і г. д. Дуда суправаджала калядоўнікаў. У "Этнаграфіі Беларусі" полацкі культуролаг і этнограф Уладзімір Лобач піша: *"Пасля першай Куцці па вёсцы пачыналі хадзіць калядоўшчыкі, якія сімвалізавалі прадстаўнікоў вышэйшага (боскага) свету, носьбітаў долі ўсяе грамады. Прыналежнасць да сакральнай сферы падкрэслівалася вобразамі, якія выяўлялі сабой машкоўнікі (раджаныя): каза (сімвал плоднасці і ўрадлівасці), Дзед-правадыр (увасабленне бога-продка), журавель ці бусел (як божая птушка). Неад'емным элементам калядоўшчыцкага гурта з'яўляўся механоша і музыкі (дудар, скрыпач, бубнар). Спевы-зычэнні калядоўшчыкаў гаспадару, гаспадыні, іх дзецям успрымаліся не як простыя чалавечыя пажаданні, але, фактычна, як воля багоў"*. У "Piosnkach Wieśniaczych z nad Niemna i Dźwiny" (1846) знаходзім калядную песню: "Прыехала каляда на сівым коніку,/ Паставіла коніка ў адрынцы,/ Сама села на куце і пярынцы,/ Настаўляла дудэчкі на стаўпіцы,/ Граюць дудэчкі голасна,/ Скачыце дзевачкі хораша".

Гэтаксама дуда суправаджала і валачобнікаў. Існуе здагадка, што руская назва дуды – волынка – якраз звязаная з валачобніцкай традыцыяй. Уладзімір Лобач сцвярджае: *"Унікальнай адметнасцю беларускай вялікоднай традыцыі, якая не мае аналагаў у суседніх народаў, з'яўляецца валачобны абрад, найбольш пашыраны на тэрыторыі Беларускага Падзвіння. На Вялікдзень мужчыны і хлопцы (жанчынам забаранялася) збіраліся ў вялікія (10-15 чалавек) гурты валачобнікаў, якія ўвасаблялі «гасцей з Божага свету», «з самага раю». Сярод іх абавязкова прысутнічаў механоша, зачынальнік, падхватчыкі і*

*музыкі (дудар, скрыпач, бубнар, пазней – гарманіст). Валачобнікі абыходзілі ўсе двары вёскі (ці некалькіх суседніх), спыняючыся пад вокнамі кожнай хаты, дзе спявалі абрадавыя песні, пераважна велічальнага зместу, услаўляючы гаспадара, яго руплівую працу, жадалі яму ўраджаю на ніве, прыплоду ў хляве, дабрабыту ў сям'і"*. Формы выкарыстання дуды падчас гэтых святаў даволі добра вядомыя і ўжо досыць пашыраныя. Мы можам дадаваць уласныя элементы на падставе мясцовага этнаграфічнага матэрыялу са старых (збольшага пералічаных тут) і з больш сучасных крыніц, напрыклад "Песні беларускага Паазер'я" Зінаіды Мажэйкі.

Ёсць звесткі таксама пра тое, што дуда іграла на земляробчых святах. Граф Яўстах Піевіч Тышкевіч у кнізе «Апісаньне Барысаўскага павету» (1847, Вільня) піша „Дзень, калі пачынаецца жніво жыта называецца зажынкі. Гэтая невялікая ўрачыстасць. Жняцы адносяць у панскі двор першы сноп і бывае, што іх за гэта частуе пан. Пасля жніва жняцы грамадой прыходзяць, спяваючы адпаведную песню, на адзіную, ад няпамятных часоў укладзеную ноту. Адна з дзяўчат, якая ідзе наперадзе нясе на галаве сплецены з жыта вянок, і пасля адпаведнай прамовы, звычайна ў вершаванай форме, у якой ёсць пажаданні лепшага жніва на наступны год, аддае дзедзічу вянок; той абдорвае яе нейкім падарункам, у форме грошаў, стужках ці яшчэ чаго-небудзь, і падзякаваўшы за работу, частуе сабраўшуюся грамаду гарэлкай. Бывае, што калі адгукнуцца ўжо падрыхтаваныя вясковыя скрыпакі, а ў некаторых краях дуда, пачынаюцца танцы ад паважнага паланэза, а калі напой дадасць большай яшчэ весялосці, пры спевах і воклічах пачынаюцца скокі, казакі, і забава працягваецца да позьняй ночы. Пасля скончанага жніва падобна -

Маладая: *Дударэньку – гаспадэньку!*
*Ужо ж мяне заручылі.*
Дудар: *Нічога, нябога, не бойся нікога,*
*Я з табою са сваёй дудою.*
Маладая: *Дударэньку – гаспадэньку!*
*А ўжо ж мяне ў клець вядуць.*
Дудар: *Нічога, нябога, не бойся нікога,*
*Я з табою са сваёй дудою.*
Маладая: *Дударэньку – гаспадэньку!*
*А ўжо ж мяне спаць кладуць.*
Дудар: *Пастyпай,як знаеш, сама розум маеш.*
*Я з сваёй дудою пайду да дому.*

жняцы прыходзяць у двор са спевам, а гаспадар выпраўляе ўрачыстасць якая называецца дажынкамі.” Як ужо пісалася раней - празароцкая дуда магла іграць на дзяржаўных дажынках у 1934 годзе ў Глыбокім. Ёсць ёй месца і ў сучасным фармаце святкавання гэтых земляробчых святаў.

Апрача Каляд і Вялікадня, дуда павінна выкарыстоўвацца фактычна падчас усіх каляндарных і сямейных (вяселле, хрэсьбіны) святаў беларусаў. Ізноў Уладзімір Лобач: *“Неабходна адзначыць, што інструментальная музыка ў беларускай традыцыйнай культуры адыгрывала надзвычай важную рытуальную функцыю. Ні адно буйное каляндарнае і сямейнае свята (апроч, бадай, пахавання) не абыходзілася без музыкаў. Напрыклад, на Падзвінні дудар, які ў народнай свядомасці надзяляўся звышнатуральнымі здольнасцямі (мог разагнаць навальнічныя хмары ці выклікаць дождж сваёй ігрой на дудзе), быў абавязковым удзельнікам калядных і валачобных абыходаў, а для сіраты, падчас вяселля, замяняў бацьку”*. Выконваючы ролю бацькі, дудар падказваў маладой, як паводзіць сябе падчас абраду. Гэта вынікае з песні, запісанай віцебскім фалькларыстам Аляксандрам Рыпінскім:

Іншая вясельная прыпеўка: “Як мяне татка аддаваў/ Чатыры і скрыпкі нанімаў/ Пятая жалеечка/ Я ў бацькі паненачка/ Шостая дуда раўла/ Мяне з памяці звяла”. У легендзе Яна Баршчэўскага “Начэпнасць” чытаем: *“Вясельнікі гулялі, пілі адзін да аднаго, дуда грала; песьні і скокі ня перарываліся ўсю ноч”*. А. Фаміцын



**Удзельнікі народнага тэатра “Цярэшка”**

адзначае: *“Адна або дзве скрыпкі або скрыпка і дуда складаюць на Беларусі неабходную прыналежнасць усіх шлюбныхцырымоній:янысустракаюць і праводзяць жаніха і нявесту нават да самых дзвярэй царквы і ад яе да дому маладых”*. Адпаведнага матэрыялу для ўвядзення дуды ў вясельны абрад вельмі шмат. А тое, як файна і каларытна на шлюбным здымку будзе глядзецца дудар, зразумела і без тлумачэння.

Пэўны патэнцыял дуды закладзены таксама ў нашых мясцовых традыцыях, асноўная з якіх – гэта, безумоўна, “Жаніцьба Цярэшкі”. Хоць у спіс нематэрыяльных каштоўнасцяў Беларусі “Жаніцьба Цярэшкі” была дададзена як традыцыя Лепельшчыны, аднак абрад гэты з’яўляецца неад’емнай часткай культурнага краявіду Глыбоцкага краю. Калядная гульня “Жаніцьба Цярэшкі” была адроджаная на Глыбоччыне ў 1997 г. удзельнікамі народнага тэатра “Цярэшка”, якая і дала назву фальклорнаму калектыву. У аснову глыбоцкай Цярэшкі пакладзены мясцовыя гульнявыя традыцыі вёсак Запруддзе, Псуя, Празарокі.

Гурт не толькі выконвае традыцыйныя беларускія песні і танцы, але і ставіць жартоўныя тэатральныя сцэны і займаецца рэканструкцыяй традыцыйных абрадаў нашага краю. Нездарма фальклорны калектыў лічыцца прадаўжальнікам традыцый, закладзеных тэатрам Ігната Буйніцкага. Калектыў пад кіраўніцтвам Наталлі Нікіфаровіч быў адным з першых, які займаўся рэканструкцыяй традыцыі “Жаніцьбы Цярэшкі”. Плёнам працы сталіся шматлікія выступы і запіс абраду ў відэафармаце. Фільм запісаны ў 2008 г. у Івесьскім КГТЦ, даступны ў YouTube пад назвай „Як на Глыбоччыне Цярэшку жанілі”.

“Жаніцьбу Цярэшкі па-глыбоцку” рабіў таксама гурт “Этна-суполка” пад кіраўніцтвам старшага выкладчыка кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Таццяны Пладуновай. У газеце “Літаратура і Мастацтва” аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вячка Красулін распавядае пра рэканструкцыю абраду наступнае:

“А вось экспедыцыя студэнтаў у вёскі Івесь і Шо Глыбоцкага раёна ўзмацніла атрыманыя ўражанні, калі жанчыны-спявачкі прадэманстравалі свае песні-цярэшкі і пракаменціравалі драматычнае дзеянне. Супастаўленне запісаных узораў Полаччыны і Глыбоччыны выявіла іх роднаснасць і амаль поўнае супадзенне як песенных напеваў, так і па апісанні драматургічнай і харэаграфічнай партытуры. У вёсцы Івесь Глыбоцкага раёна студэнтам пашанцавала праінтэрв’юіраваць Васіля Радзюша, цымбаліста-віртуоза, які з задавальненнем падзяліўся навыкамі ігры на дыятанічных цымбалах і прадэманстраваў мелодыі да каляднай містэрыі «Жаніцьба Цярэшкі па-глыбоцку». Была зафіксаваная самабытная версія шырокавядомага танца «Лявоніха» ў міноры. Мала хто ведае, але гэты танец некалі быў неадрыўным ад «Жаніцьбы». Выкананне «Цярэшкі»

Васіля Піліпавіча стала галоўным музычным стрыжнем пры стварэнні праграмы: гэта чаргаванне «цярэшак» і «Лявоніхі» пры злучэнні і перакручванні пар «бабулек» і «дзядулек». «Палявыя» заняткі ў Васіля Піліпавіча падчас экспедыцыі на першым курсе не прайшлі дарэмна, і Дар'я Мордань засвоіла ў носьбіта і строй яго цымбал, і манеру ігры".

Рэканструкцыю абраду "Жаніцьба Цярэшкі", запісаную ў снежні 2013 г., можна знайсці ў інтэрнэце пад назвай „Жаніцьба Цярэшкі па-глыбоцку". Дарэчы, варта дадаць, што для Глыбоцкага краю даволі характэрнае "пераварочванне" звычайных мелодый. Звычайна мінорная "Цярэшка" тут найбольш вядомая ў мажорным варыянце, а танец "Лявоніха", які ўсе ведаюць у вясёлай версіі, у нас сустракаецца ў мінорнай апрацоўцы. Неапраўданы таксама стэрэатып пра павольнасць і сумнасць паўночнага рэпертуару. У Глыбоцкім краі зафіксаваныя прыклады "гарачых", скочных танцаў. Прыкладам можа быць "Полька глыбоцкая", запісаная ў экспедыцыі БУК скрыпачкай Веранікай Анцілеўскай ад цымбаліста Васіля Радзюша. Мелодыя ўвайшла ў альбом капэлы "На таку" (у запісе дададзеныя прыпеўкі, якія не былі запісаныя ад інфарматара). Паглыбленае даследаванне аспекту пераварочвання танальнасцяў у нашым рэгіёне магло б прынесці цікавыя вынікі.

Цікавай крыніцай ведаў могуць быць таксама інвентары, паводле якіх на пачатку XVIII ст. у Глыбокім сярод рознага тыпу рамеснікаў былі таксама скамарохі і мядзведнікі. Танцы дрэсіраваных мядзведзяў звычайна адбываліся ў суправаджэнні дуды або іншых інструментаў. Магчыма, яны выводзіліся альбо мелі сувязь са славутай Смаргонскай мядзведжай акадэміяй, а магчыма, прымалі ўдзел у культурнай каланізацыі Свянцянскага павета, ужо пасля ліквідацыі самой акадэміі і заняпаду мядзведніцтва ў нашым рэгіёне.

Апрача таго, дуду можна з поспехам выкарыстоўваць у традыцыйнай батлейцы, а таксама ў зафіксаванай на Глыбоччыне народнай драме "Мушкарат". У кнізе "Беларуская музыка" (Нью-Ёрк, 1953) Мікола Куліковіч піша: *"Найбольш папулярнымі батлейкамі, што дайшлі да нашага часу, былі п'есы: "Цар Ірад" і "Цар Максімільян". Напісаныя па-беларуску, з беларускаю тэматыкаю (у другой частцы спектаклю), батлейка наагул шырока скарыстоўвала народную беларускую музыку, а бытавая сцэна й зусім ператваралася ў тып народнага беларускага зінгшпілю, дзе мы бачым салёвыя куплеты, вакальныя дыялогі, харавыя ансамблі, салёвую й ансамблевую ігру на інструментах. Музычным суправаджэннем быў найчасцей невялікі ансамбль з беларускіх народных інструментаў з пераважнаю роляю дудаў і дудак"*. А як пішуць аўтары кнігі "Мастацкая культура віцебскага Паазер'я", *"менавіта на Глыбоччыне ў канцы 60-х г. XIX ст. зафіксаваны паказы народнай драмы «Цар Максіміліян»"*. А. Русецкі і Ю. Русецкі даюць такую інфармацыю: *"У народным музычным побыце*

*шырокае распаўсюджанне атрымалі валачобнікі, калядоўшчыкі, батлеечнікі, музыканты-скрыпачы і дудачнікі, цымбалісты, якія былі ўдзельнікамі музычна-тэатральных відовішчаў, а таксама народных гульняў, карагодаў з песнямі і танцамі, у якіх узнаўляліся карціны сялянскай працы і побыту”*. Як прыклады падаюцца танцы-імітацыі “Таўкачыкі”, “Шаўцы”, “Боб малаціць” і “Млынок”. Пачэснае месца дуда можа займаць і ў адраджэнні харэаграфічнага фальклору Паазер'я. У той самай кнізе чытаем: *“Асабліва папулярнымі на танцавальных вечарах былі гуслі, дудка, бубен, пазней – скрыпка, цымбалы, а затым – гармонік, балалайка, домра”*. Дуду можна выкарыстоўваць і падчас узнаўлення традыцыі саміх вячорак, якія былі пашыраныя ў нашым рэгіёне.

Існуе таксама падстава, хоць, магчыма, і спрэчная, для прысутнасці дуды на пахаваннях, што, паводле меркаванняў некаторых адмыслоўцаў, вельмі цікавым і сімвалічным чынам замяняе адміраючую традыцыю галашэння. Дарэчы будзе сказаць, што на Паазер’і былі пашыраныя галашэнні не толькі пахавальныя, але і вясельныя. Даследчыца І. Назіна сцвярджала, што сведчанне пра прысутнасць дуд на пахаваннях ёсць у цытаваным раней урыўку з “Аповесці пра трох каралёў-валхвоў”. Зміцер Сасноўскі тлумачыць, што спецыфіка пахавальных абрадаў паганскага часу адрознівалася ад звычаяў хрысціянскіх. Сасноўскі гаворыць: *“...абрады заканчваліся танцамі і вясёлымі забавамі, што з’яўлялася спадчынай дахрысціянскіх часоў”*. Адпаведна на дудзе хутчэй за ўсё выконвалі свой звычайны танцавальна-песенны рэпертуар. Практыка дударскага суправаджэння (з жалобным рэпертуарам) склалася пакуль што пераважна на пахаваннях дудароў і вядомых дзеячаў культуры, але, магчыма, будзе пашырацца на больш шырокія колы грамадства. Пэўныя крыніцы ўсё ж указваюць на факт выкарыстання дуды, напрыклад, падчас памінальнага абраду дзядоў, што было засведчана этнографам XIX ст. Паўлам Шпілеўскім: *“Главным распорядителем при обряде дедов сначала был жрец, а впоследствии просто какой-нибудь старик-певец, называемый Гусляром, Козляром или Дударом от имени инструментов...”*. Сведчанне пра дудара ў абрадзе на Дзяды знаходзім, на дзіва, не ў Адама Міцкевіча, а ў вершы Юльюша Славацкага:

Zamknijcie drzwi od kaplicy! –
Czas przypomnieć ojców dzieje.
Czekajcie, niechaj dudarz przyjdzie
z okolicy
I z chłopiętami piosnkę zwyczajną zapieje
O chłopaku, co niegdyś umarł na wicinie.

Цікавы таксама нядаўна запачаткаваны сінтэз традыцыі – выкарыстанне дуды падчас каталіцкіх службаў у нашым раёне, напрыклад у вёсцы Вудзела. Такая традыцыя вельмі пашыраная ў Славаччыне, Польшчы і іншых краінах. У Славаччыне ёсць нават ксёндз-дудар – Пэтр Маціс. Па праўдзекажучы, “арганны” інструмент вельмі добра ўпісваецца ў касцельную акустыку. Па словах дырэктара Музея музычных інструментаў Познані Януша Яскулькага, у эпоху рэнесансу

і барока ў Польшчы і Чэхіі можна было сустрэць дудара і скрыпача, якія акампанавалііншыммузыкантам,што гралі на рэгале (перанасныя арганы) і пастушкоўскай трубе (трамбіце). Тычылася гэта асабліва каляднага перыяду, калі падчас літургіі ў баварскіх, чэшскіх, славацкіх, польскіх касцёлах у XVII–XIX стст. гучала дударская музыка. Паводле дудара Яна Галіцы, на Падхалі (горны рэгіён у Польшчы) у касцёлах, дзе не было арганаў,ігралі на дудах (XIX–XX стст.). У Беларусі таксама сустракаюцца згадкі пра дуды ў святыні, напрыклад, у кнізе “Залесская Георие́вская, старая, деревянная церковь (Ошмянского уезда Виленской губернии)” аўтарства расійскага гісторыка і этнографа Івана Спрогіса. Кніга апавядае пра праваслаўную царкву, якая некалі была ўніяцкай. Дарэчы, будынак быў знішчаны ў канцы 1950-х гг., а на яго месцы цяпер стаіць толькі цагляная каплічка, што на старых могілках. У выдадзенай у Віцебску ў 1895 г. кнізе чытаем: “…в церкви были устроены особые небольшие хоры, на которых вместо органа, во время богослужения, трубили… свои доморощенные рожечники”. Сяргей Лескець, фатограф і даследчык традыцыйнай культуры, піша пра гэтую згадку наступнае: “Вядома, што дударства ў старажытнасці на нашай зямлі мела сакральны рытуальны характар, пэўны магічны сэнс. І такі сінтэз уніяцкага набажэнства і грання дуды не выглядаў дзіўным для народа”.

На пачатку мінулага стагоддзя ў ваколіцы Познані бывала, што дудар акампанаваў касцельнаму хору, які выконваў калядныя песні. Сёння там усё часцей вяртаецца мода на дуды, асабліва падчас каляднага перыяду (напрыклад, у Палаеве), шлюбаў або супольных арганна-дударскіх канцэртаў. У Беларусі ж дуда хоць і мае “паганскі” імідж, бо выкарыстоўвалася нашымі продкамі падчас язычніцкіх рытуалаў, аднак часам згадвалася і ў нетыповым для сябе кантэксце: “І чорт не паспеў аглянуцца,/ Як дух той праз дзверы шмыгнуў, / Сеў на касцёле і грае на дудцы!/ А чорт на касцёл не сягнуў!” (балада з кнігі Францішка Багушэвіча “Смык беларускі”). Пра суладдзе традыцый, насуперак сведчанням апалагетаў тэорыі пра паганскасць дуды, сведчыць хаця б і адна з найбольш дударскіх песень “Саўка ды Грышка ладзілі дуду”, якая ў сваёй кананічнай версіі (не ў перарobленай версіі Янкі Купалы для выкарыстання ў савецкіх школах) з’яўляецца нічым іншым, як калядкай.

Саўка ды Грышка ладзілі дуду,
Павесяліцца *з ёй на Каляду.*
Ду-ду-ду, ду-ду-ду,
*З ёй на Каляду.*

Як разышліся музыкі, гу-га!
Згінула гора, згінула туга.
У-га-га, у-га-га,
Згінула туга.

Дзедка старэнькі, ёмкі ўзяўшы жмут,
Кіем на дзверы паказаў ім тут.
Ту-ту-ту, ту-ту-ту,
Паказаў ім тут.
Вы сабе дуйце сваё го-ца-ца,

Толькі не страшце *Езуса*-хлапца.
Го-ца-ца, го-ца-ца,
*Езуса*-хлапца.

У праваслаўнай царкве, як вядома, не выкарыстоўваюцца ніякія музычныя інструменты, але было б цікава пачуць дуду, напрыклад, падчас Вадохрышча ці іншых святаў, якія не праходзяць у будынку царквы. У Балгарыі дуды актыўна выкарыстоўваюць менавіта падчас свята Ярдану.



# Культурніцкія ўстановы

Безумоўна, што з часам, апрача ўдзелу ў традыцыйных мерапрыемствах, дуда – інструмент жывучай традыцыі – будзе набываць таксама новыя, дагэтуль невядомыя формы выкарыстання і сімвалічнага значэння. Вялікае месца ва ўкараненні і адраджэнні традыцыі ўжо адыгралі і працягваюць адыгрываць розныя ўстановы культуры Глыбокага і Глыбоччыны. Дом рамёстваў, напрыклад, падрыхтаваў цэлую серыю цудоўных сувеніраў, прысвечаных першаму дударскаму фэсту. Святлана Скавырка намалявала два адмысловыя дываны з выявай дудароў, якія сталіся лагатыпамі і візітнымі картачкамі фэсту; Віктар Дудкевіч выканаў цэлы шэраг фігурак дудароў, памятных драўляных медальёнаў з дударскімі матывамі і нават сувенірную дуду; Арцём Фомін зрабіў акарыны, якія ў падарунак атрымалі ўдзельнікі фэсту, а таксама памятныя кубкі, іншыя вырабы з гліны з лагатыпам дуды; Кацярына Кляпацкая вырабіла шапкі-магеркі, атрыбут паазерскага дудара, які мелі магчымасць набыць госці фестывалю.

Юры Калбасіч, адзін з настаўнікаў






Глыбоцкай дзіцячай мастацкай школы імя Язэпа Драздовіча, разам з іншымі настаўнікамі падрыхтаваў ужо дзве адмысловыя выставы пад назвай “Грай, мая дуда”. У ёй удзельнічалі маленькія навучэнцы ўстановы са сваімі малюнкамі дудароў.

Не застаюцца ўбаку ад дударскага адраджэння і асобныя прафесійныя мастакі. Напрыклад, Эдуард Мацюшонак, які нарадзіўся і вырас на Глыбоччыне ў вёсцы Мнюта, намаляваў надзвычай самабытную карціну “Дудар”. Вобраз дудара аздобіў вокладку гэтай кнігі.

Адной з найбольш прыязных да дударскай спадчыны ўстаноў аказаўся Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей. У сваіх сценах ён прыняў ужо дзве выставы, прысвечаныя польскім і славацкім дудам. Кожны раз выстава асвятляе новую краіну, у залежнасці ад асабовага складу дудароў, запрошаных на “Дударскі рэй”. Супрацоўнік музея Уладзімір Міранчык сумесна з дударамі з рыхтуе тэматычныя выставы, прысвечаныя гісторыі, традыцыі і сучаснаму стану дударства ў выбранай краіне. На экспазіцыі можна пабачыць

плакаты, паштоўкі, кнігі, значкі, сапраўдныя дуды і іх мініяцюрныя копіі, а таксама азнаёміцца з шэрагам віртуальных і візуальных матэрыялаў. У сталую экспазіцыю музея прынятая беларуская жалейка, зробленая майстрам Юрасём Панкевічам. Рыхтуецца месца для экспанавання копіі глыбоцкай дуды, з Верацеяў. Музей вядзе таксама тэматычную старонку, прысвечаную дударскай спадчыне і дударскім навінкам на Глыбоччыне.

Сваю тэматычную інтэрнэт-





старонку, прысвечаную дудзе, вядзе таксама Глыбоцкая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма. Дзякуючы працы Марыны Ізаіткі ды іншых супрацоўніц, а таксама спрыяльнаму стаўленню кіраўніцтва створаная адмысловая калекцыя кніг, прысвечаных дударскай тэматыцы. Такога тыпу фонд першы і ўнікальны для Беларусі. У ім збіраюцца літаратурныя, навуковыя і мастацкія выданні, у якіх згадваецца беларуская дуда. У калекцыю ўключаюцца таксама замежныя выданні, падораныя бібліятэцы ўдзельнікамі фэсту. Часткай адмысловай калекцыі становяцца таксама аўдыяальбомы, фільмы DVD, рэдкія паштоўкі і іншыя дударскія сувеніры. Найбольш каштоўнай часткай збору з’яўляюцца старыя выданні. Вядзецца праца па стварэнні анлайн-каталога і электроннай версіі сабраных кніг з мэтай уключэння ў агульны бібліятэчны фонд Беларусі. Кожны раз бібліятэка шчыра вітае гасцей фэсту ў сваіх сценах, ладзіць тэматычныя выставы, майстар-класы, прэзентацыі і актыўна ўдзельнічае ў фестывалі.



У дударскую справу актыўна ўключыліся і прадпрымальнікі. Фотацэнтр Івана Касевіча зрабіў цэлую серыю адмысловых сувеніраў з лагатыпамі дударскага фэсту і праекта “Дударская Глыбоччына”. Вялікая падзяка ўласніку і супрацоўнікам крамы!



Канешне, "Дударскі рэй" не мог абмінуць такую ўстанову культуры, як музычная школа. Музычная школа, на чале з дырэктарам Міколам Лашковым і цудоўнымі выкладчыкамі і вучнямі, прыняла актыўны ўдзел у парадзе падчас "Дударскага рэю" ў 2017 і 2018 г. Адзін з запрошаных дудароў, майстар Сяргей Чубрык, падарыў музычнай школе жалейку ўласнага вырабу, на якой ужо праз год выступаў адзін з навучэнцаў спадара Лашкова. Кожны раз школа і настаўнікі ахвотна прымаюць удзельнікаў фэсту, ладзяць канцэрты навучэнцаў, рыхтуюць пачастунак для гасцей і выступы дудароў. Было б добра, каб з часам музычная школа паспрабавала ўвесці элементы навучання ігры на дудзе ў сваю праграму. Кошт куплі адпаведных інструментаў і матэрыялаў – гэта другаснае, калі будзе жаданне адраджаць дударскую традыцыю ў саміх людзей, выкладчыкаў і вучняў.

Інфармацыю пра ўсе гэтыя ініцыятывы было б немагчыма данесці без вялікага спрыяння як дзяржаўнай, так і прыватнай прэсы. Газеты "Глыбоцкі Веснік", „Вольнае Глыбокае", „Каталіцкі Веснік", мясцовае радыё заўсёды з вялікім натхненнем і энтузіязмам асвятляюць усе без выключэння дударскія падзеі ў горадзе і раёне. Вялікі за гэта дзякуй усім мясцовым журналістам, а асабліва Алене Хайноўскай, Уладзіміру Скрабатуну, Змітру Лупачу, Леаніду Юрыку, Чаславу Берніковічу і многім іншым, каго, магчыма, забыўся згадаць.

Вялікі ўнёсак у напрамку захавання не толькі дударскай, але і фальклорнай традыцыі на Глыбоччыне зрабіла асабіста Наталля Нікіфаровіч і іншыя супрацоўнікі Глыбоцкага цэнтра традыцыйнай культуры і народнага мастацтва. Шматгадовая праца калектыву "Цярэшка" дала пэўную аснову, на базе якой стала магчымая таксама даследчыцкая праца па адраджэнні дуды і звязаных з ёй абрадаў.

Асобная падзяка за цёплы прыём належыць вудзелаўскаму касцёлу і брату францішканіну Яраславу Банасяку. Брат Банасяк з самага пачатку прыязна паставіўся да ідэі ўключэння дуды ў нядзельную службу, падтрымліваючы гэтым самым і пэўную мастацкую місію, закладзеную ў аснове закона.

Дзякуй таксама нязменнай дызайнерцы плакатаў, значкоў, паштовак і кніг, звязаных з "Дударскім рэем". Без таленавітай мастачкі-афарміцелькі Алены Сілівонік, якая кожны раз па-валанцёрску падтрымлівае фэст, ён быў бы не такім каляровым і запамінальным.

Ну і, канешне, нічога з таго, што зроблена, было б немагчыма здзейсніць без спрыяння мясцовай улады. Самы вялікі паклон першай падтрымальніцы гэтай ідэі, мясцовай дэпутатцы Галіне Унуковіч, кіраўніку раёна Алегу Морхату, іх намеснікам, а таксама ўсім без выключэння супрацоўнікам аддзела культуры, адукацыі і інш. Будзем спадзявацца, што з часам, дзякуючы нашай агульнай руплівасці, дуда адродзіцца як галоўны інструмент нашага рэгіёна.

**Віталь Воранаў** – нар. 18 сакавіка



**На фотакартачцы Аліна Галяк з уласным партрэтам Віталя Воранава**
**Фота: Серж Шкіпер**

1983 г. у Менску. Пісьменнік, перакладчык, выкладчык і дудар. Арганізатар міжнароднага фэсту дударскіх рэгіёнаў “Дударскі рэй” у Глыбокім. Вучыўся ў школе № 2 у Глыбокім (1991—1995). У 1996 г. разам з бацькамі эміграваў у Польшчу. Скончыў універсітэт імя Адама Міцкевіча ў Познані (Польшча) і ўніверсітэт Масарыка ў Брне (Чэхія) па спецыяльнасці “Англійская мова і літаратура”. Перакладае з англійскай, чэшскай і польскай моваў. Пераклаў на беларускую «У чаканні Гадо» Сэмюэла Бэкета, «Віня-Пых» Алана Мілна. Піша прозу і палемічныя артыкулы, што друкуюцца ў літаратурных часопісах і беларускай перыёдыцы. Выдаў дэбютную кнігу прозы на беларускай мове “Шэптам”, якая апавядае пра таямніцы палескіх і падляскіх шаптух.